УДК 947.6+902(476)
ББК 63.3(4 Беи)
Д 76



Мастацкае афармленне *У.М.Жука*

Д 76 **Друцк** старажытны: Да 1000-годдзя ўзнікнення горада / Рэд. кал.: Г.П.Пашкоў (гал. рэдактар) і інш.; Маст. У.М.Жук. — Мн.: БелЭн, 2000. — 128 с.: іл.

**ISBN 985-11-0185-0**

У кнізе асвятляецца гісторыя і археалагічнае вывучэнне аднаго са старажытных гарадоў Беларусі — Друцка. Даюцца багатыя гістарычныя і археалагічныя звесткі, назапашаныя ў розныя часы. Кніга багата ілюстравана.

Разлічана на шырокае кола чытачоў — настаўнікаў, студэнтаў, вучняў — усіх, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.

УДК 947.6+902(476)
ББК 63.3(4 Беи)+63.4(4Беи)

ISBN 985-11-0185-0

# ДА ЧЫТАЧА

Кожнаму, хто ведае, любіць і паважае гісторыю Беларусі, Расіі і Украіны, назва Друцк здольна нагадаць многае. Узнік горад у вярхоўях калісьці паўнаводнай ракі Друць, на адным з важных адгалінаванняў вялікага шляху «з вараг у грэкі». Гісторыя Друцка пачалася яшчэ за некалькі стагоддзяў да таго, як друцкі князь Васіль Міхайлавіч і яго жонка Васіліса пазначылі на пергаменце першую, але вельмі значную падзею на гэтай зямлі — будаўніцтва ў горадзе ў 1001 г. царквы Прасвятой Багародзіцы. Рака Друць дала не толькі назву гэтаму гораду, але і прадвызначыла яго гістарычны лёс яшчэ ў той час, калі Друцк быў адным з племянных цэнтраў усходніх славян. Паступова горад павялічваўся, стаў цэнтрам Друцкага княства, якое сапернічала з Полацкам, Мінскам і Віцебскам за першынство ў Полацкіх землях. У ім будаваліся новыя дамы, пракладваліся вуліцы, узводзіліся абарончыя збудаванні, у тым ліку непрыступныя па тых часах бастыёны Друцкага замка.

У 11—12 ст. старажытны горад Друцк «перасягаў Віцебск і быў роўнавялікі Мінску» (Л.В.Аляксееў). Свае месца паміж суседзямі, паходжанне і свае заняткі жыхары горада Друцк і насельніцтва старажытнай друцкай зямлі захавалі ў назвах навакольных паселішчаў і вёсак. Напрыклад, назва вёскі Пярэвалачня, якая знаходзіцца непадалёк ад Друцка, сведчыць, што стаяла яна на старажытным волаку, што жыхары яе перавалаквалі грузы і судны, якія плылі з Балтыйскага рачнога басейна ў Чарнаморскі, магчыма, яшчэ ў тыя часы, калі сам Друцк быў невялічкім паселішчам. Каля Друцка на той жа рацэ Друць, верагодна, у тыя часы, а можа і крыху пазней існавала некалькі населеных пунктаў пад назвай Талачын (Стары, Новы, Зарэчны Талачын), узнікненне назвы якіх звязана з талакой, што збіралася для перацягвання суднаў або грузаў з ракі Усвіж-Бук (басейн Заходняй Дзвіны) у Друць (басейн Дняпра).

На жаль, на гэтай зямлі збіраліся і на іншую «талаку». Скрыжаванні дарог у даўнія часы — гэта не толькі бойкі гандлёвы шлях. Часта яны прадвызначалі неспакойны, а часам і трагічны лёс для тых, хто жыў побач з багатым горадам. Варагі і балты, грэкі і татары, ды і іншыя заваёўнікі пазналі мужнасць, адвагу і непахіснасць у баях друцкіх дружын. Каля сцен велічнага замка-крэпасці пабывалі і воіны кіеўскіх князёў Уладзіміра Манамаха і Ігара Святаславіча — героя «Слова аб палку Ігаравым». У гэты час, па словах акадэміка Б.А.Рыбакова, пад Друцкам вырашаўся лёс «Кіеўскай кароны». Аб тым, што дручане мужна баранілі сваю зямлю і свабоду, сведчаць летапісы, а таксама шмат рэчаў ваеннага ўжытку, знойдзеных пры раскопках старажытнага горада. У выніку набегаў чужынцаў і крывавых міжусобіц у Друцку гарэлі цэрквы і хаты, гінулі людзі. Невыпадкова адзін з друцкіх князёў Барыс Усяславіч заснаваў на левым беразе ракі Бярэзіна і назваў сваім імем горад Барысаў. Магчыма, гэтым ён імкнуўся засланіць свае княства ад варожых нападаў з захаду. Самым магутным суседам Друцка на ўсходзе быў Смаленск, які на працягу доўгага часу быў і галоўным саюзнікам Друцка. Дружыны смаленскіх

князёў, з якімі, верагодна, driучане пазней хадзілі на Кулікова поле і на Грунвальдскую бітву, неаднаразова дапамагалі Друцку ў цяжкія гадзіны. З поўначы Друцк баранілі вялікія гарады — Полацк і Віцебск, з князямі якіх друцкая знаць мела сваяцкія адносіны. Іх аб'ядноўваў агульны лёс у межах адзінай Полацкай зямлі. Складаным і цікавым з'яўляецца пытанне пра паўднёвы вектар палітыкі друцкіх князёў. Зыходзячы з геаграфічных і эканамічных абставін (Друць упадае ў Дняпро), можна меркаваць, што гэты напрамак быў вельмі важным. У гэты час (12 — пачатак 13 ст.) тэрыторыі, падпарадкаваныя смаленскім князям, сягалі аж да самога Кіева. Верагодна, што і друцкія князі мелі на поўдні свае інтарэсы, у т.л. і тыя, што былі абумоўлены саюзнымі адносінамі са Смаленскам. Аб гэтым сведчаць і іншыя гістарычныя факты — друцкія князі ўдзельнічалі ў шэрагу жорсткіх бітваў на поўдні Русі, у тым ліку на рацэ Ворскла (1399 г.), потым яны служылі ваяводамі, займалі іншыя ўплывовыя пасады ў Кіеўскай зямлі. На падставе звестак аб прадстаўніках даволі разгалінаванага роду друцкіх князёў можна меркаваць, што ў склад вотчын іх родапачынальнікаў уваходзілі пераважна землі на поўдзень ад Друцка — сучасная Магілёўская і нават частка Гомельскай абласцей. Магчыма, што і сам Магілёў, зведаўшы ў 13 ст. мангольскую навалу, быў першапачаткова адной з крэпасцей на паўднёвых межах Друцкага княства. Не выключана, што Магілёў, Цяцерын і іншыя паўднёвыя гарады, якія разам з Друцкам згадваюцца ў 14 ст. ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх», і былі тымі «казельскамі», гарадамі-крэпасцямі, якія ў 13 ст. не далі магчымасці татарам прасунуцца далей на поўнач. Пытанні, пытанні... на іх, відаць, ужо не будзе адказу.

Аднак, паміж гадамі ліхалецця ў Друцку былі і больш спакойныя часіны, калі горад квітнеў. Пасля чарговай навалы заваёўнікаў талакой гараджан і насельніцтва суседніх вёсак ён адраджаўся, тут будавалі новыя пасады, узводзіліся больш моцныя замкавыя вежы. У мірныя часы жыццё ў жыхароў Друцка было даволі разнастайным, насычаным культурнымі падзеямі. Пра гэта сведчыць існаванне тут старажытных хрысціянскіх храмаў, наяўнасць Друцкага Евангелля, што захавалася да нашага часу. Шахматныя фігуры, пісалы, зашчэпкі ад кніг і ад рукапісаў, шматлікія залатыя крыжыкі, жаночыя ўпрыгожанні — усе гэтыя археалагічныя знаходкі падкрэсліваюць, што жыхары Друцка не толькі ўмелі ваяваць, але і любілі жыццё, стваралі духоўныя каштоўнасці, паважалі жанчыну.

Пра жанчын Друцка варта сказаць асобна. Гэта яны адпраўлялі сваіх сыноў на Кулікова і Грунвальдскае палі, гэта яны аплаквалі родных і блізкіх, што не вярнуліся з берагоў Ворсклы, Сініх Вод і з іншых войнаў. Некаторыя з жанчын друцкай зямлі назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю. Адна з іх — Соф'я Друцкая стала заснавальніцай велікакняжацкай і каралеўскай дынастыі, многія іншыя далі жыццё ўплывовым людзям свайго часу. Напрыклад, Багдана Друцкая-Саколінская, сын якой Леў Сапега стаў канцлерам Вялікага княства Літоўскага і Рускага. Ён быў аўтарам, кажучы сучаснай мовай, аднаго з першых інтэграцыйных праектаў паміж Вялікімі княствамі — Літоўскім і Маскоўскім, аўтарам і выдаўцом адной з першых у Еўропе канстытуцый — Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Продкі яго па мацярынскай лініі спрадвеку жылі на друцкай зямлі. Дарэчы, менавіта таму на тытульным аркушы нашай першай Канстытуцыі прысутнічае старажытны герб «Друцк», які быў наследным гербам Льва Сапегі. З таго часу прайшлі многія гады і стагоддзі. Аднак традыцыі захаваліся. Галоўная з іх — служэнне Айчыне, адданасць роднай зямлі тысяч яе сыноў і дачок. Наш гонар — першы касманаўт-жанчына на планеце Зямля — Валянціна Уладзіміраўна Церашкова і касманаўт Уладзімір Васілевіч Кавалёнак, які тройчы пабываў у Космасе. Іх бацькі таксама жылі і працавалі на старажытнай друцкай зямлі. Для ўсіх мужчын і жанчын гэтай зямлі заўсёды святым было паняцце Радзіма, якую яны баранілі і берaглі.

Сёння нашчадкі жыхароў гэтай старажытнай зямлі сталі вядомымі вучонымі, літаратарамі, мастакамі, настаўнікамі, хлебаробамі, военачальнікамі і касманаўтамі. Перададзеную нам духоўную эстафету мы абавязаны адправіць далей — у 3-е тысячагоддзе. Мы прапаноўваем адзначыць пачатак новага тысячагоддзя ў гісторыі Друцка наданнем яму статуса гарадскога пасёлка. На наш погляд, гэта можна зрабіць у 2005 годзе, калі ў шэрагу краін Еўропы будзе адзначацца 600-годдзе Соф'і Друцкай. Бліжэйшыя 5 гадоў могуць стаць вырашальнымі ў лёсе Друцка, які мы абавязаны зберагчы для нашчадкаў. Вялікае значэнне ў гэтай справе, дарагі чытач, будзе мець кніга, якую Вы трымаеце ў руках. Яе дапамаглі стварыць вядомыя вучоныя і пісьменнікі Беларусі, Расіі і Украіны, многія іншыя руплівцы гісторыі роднай зямлі, і ў першую чаргу арганізацыйны камітэт, грамадскія арганізацыі, якія ўзніклі ў сувязі з падрыхтоўкай да 1000-годдзя аднаго з самых старажытных гарадоў Беларусі — Друцка. Усе яны, а таксама выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выказваюць шчырую ўдзячнасць дзяржаўным і камерцыйным установам, прыватным асобам, якія аказвалі садзеянне ў падрыхтоўцы матэрыялаў і выданні гэтай кнігі.

У выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» рыхтуецца да друку 2-е выданне кнігі «Друцк старажытны», дзе ўпершыню будзе надрукаваны поўны тэкст «жамчужыны старажытных рускіх летапісаў» (словы акадэміка М.М.Ціхамірава) — Друцкага Евангелля, арыгінал якога знаходзіцца ў г. Новасібірск.

Да 1000-годдзя Друцка і 900-годдзя Барысава таксама рыхтуецца да выдання кніга «Друцк і Барысаў: гісторыя паходжання і сучаснасць». Усіх, хто зацікаўлены ў выданні гэтых кніг і хоча іх набыць, дасылайце заказы на адрас:

220072, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а, выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі». Тэл.: 2–84–18–07, нумар разліковага рахунку 3012200080010, код 557 АСБ Беларусбанк, ф-л Акадэмічны № 528, г. Мінск.

*Сустаршыні грамадскіх камітэтаў па падрыхтоўцы*
*і святкаванні 1000-годдзя Друцка*
***М.Лобач, Р.Ляньковіч, В.Осіпаў.***

Арганізацыйны камітэт і выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» выказваюць шчырую падзяку за дапамогу ў выданні кнігі «Друцк старажытны» і ў аднаўленні (будаўніцтве) аднаго з самых старажытных праваслаўных храмаў Беларусі — царквы Прасвятой Багародзіцы ў Друцку спадарам В.П.Гарбаценку (Кіеў), Уладзіміру Васілевічу Кавалёнку і Мікалаю Рыгоравічу Лобачу (Масква), Уладзіміру Віктаравічу Купрыянаву (Мінск), П.І.Лісовій (Жытомір), Яўгену Пятровічу Макрэцкаму (Вільнюс), Браніславу Францавічу Канарскаму (Жытомір), Вячаславу Леанідавічу Плаўскаму (Мінск), Мікалаю Рыгоравічу Ткачэнку (Кіеў), Аляксандру Мікалаевічу Шынкарэнку (Віцебск), Пятру Пятровічу Хараўцу (Мінск), Мікалаю Мікалаевічу Рагоўскаму (Талачын).

Для збору ахвяраванняў на аднаўленне праваслаўнага храма ў Друцку адкрыты разліковы рахунак у беларускіх рублях:

р/с № 3015000820014 в ОАО «Белпромстройбанк», Толочинское отделение.
МФО 150801327; УНН 300601981; ОКПО 29090644.
Расійскія рублі:
ОАО «Белпромстройбанк», Толочинское отделение, № 3015000820014/858;
МФО 150801327; УНН 300601981; ОКПО 29090644.
Валютны рахунак:
ОАО «Белпромстройбанк», Толочинское отделение, № 3015000820014/001;
МФО 150801327; УНН 300601981; ОКПО 29090644.
Указаць у плацежным даручэнні: «Ахвяраванне на будаўніцтва храма ў вёсцы Друцк».

# ХРАНАЛОГІЯ ГІСТОРЫІ ДРУЦКА

| | |
|---|---|
| 10—8-е тысячагоддзі да н.э. | Адступленне ледавіка. Паяўленне ў вярхоўях Друці першага насельніцтва — паляўнічых на паўночнага аленя. |
| 5—3-е тысячагоддзі да н.э. | На берагах Друці з'явіліся плямёны верхнедняпроўскай культуры. |
| 2-е тысячагоддзе да н.э. | Значнае перамяшчэнне плямён у міжрэччы Дняпра і Друці. |
| 8—7 ст. да н.э. | З'яўленне на Друці плямёнаў днепра-дзвінскай культуры, на змену якім прыходзяць плямёны банцараўскай культуры (з пачатку 1-га тысячагоддзя н.э.). |





Вялікі камень, які пасля адступлення ледавіка захаваўся на тэрыторыі былога Полацкага княства.

Прылады працы плямёнаў днепра-дзвінскай культуры.




4—7 ст. н.э. — Другое значнае перамяшчэнне плямён у міжрэччы Дняпра і Друці ў час «Вялікага перасялення народаў».

8—9 ст. — Першыя палітычныя аб'яднанні («княжанні») усходніх славян, у т.л. ў крывічоў.

862 г. — Першыя летапісныя звесткі пра Полацк і Смаленск.

10 ст. — Узнікненне Друцка як аднаго з племянных цэнтраў крывічоў на важным адгалінаванні шляху «з вараг у грэкі».

988—989 гг. — Прыняцце хрысціянства ў Кіеўскай Русі.



Прадметы побыту і ўпрыгажэнні, якімі карысталіся жыхары старажытнага Друцка. Фота В.У.Харчанкі.

1001 г. Будаўніцтва ў Друцку царквы Прасвятой Багародзіцы.

1044—1101 гг. Княжанне ў Полацку Усяслава Брачыслававіча (у гэты час у Полацку пабудаваны Сафійскі сабор).

1067 г. Бітва на Нямізе. Здрадніцкі захоп у палон каля Оршы Усяслава Брачыслававіча з сынамі Барысам і Глебам — у далейшым князі друцкія, полацкія і мінскія.

1078 г. Першая летапісная звестка пра Друцк (горад спалены і разрабаваны Уладзімірам Манамахам).

## КІЕЎСКАЯ РУСЬ у IX—пачатку XIIст.

Маштаб 1:12 000 000

- ПАЛЯНЕ Усходнеславянскія плямёны
- Найбуйнейшыя племянныя аб'яднанні славян у IX—X ст.
- Напрамак ваенных паходаў дружын старажытнарускіх князёў
- × 970 Месцы і гады бітваў
- Тэрыторыя Кіеўскай дзяржавы ў 70-я гады X ст.
- Землі, далучаныя да Кіеўскай дзяржавы ў канцы X—сярэдзіне XI ст.
- Граніца Кіеўскай Русі да сярэдзіны XI ст.
- МАРДВА Суседнія плямёны, якія плацілі даніну Русі
- Землі, якія асвойвалі ўсходнія славяне
- 945 Народныя паўстанні і рухі
- Напрамкі набегаў качэўнікаў
- Асноўныя цэнтры рамяства і гандлю
- Найважнейшыя гандлёвыя шляхі




УПСАЛА
БАЛТЫЙСКАЕ МОРА
БЕЛАЕ МОРА
СУМ
ЭСТЫ
ВОДЗЬ
ВЕСЬ
ЧУДЗЬ ЗАВАЛОЦКАЯ
КАРЭЛА
Анежскае возера
Ладажскае возера
Чудскае возера
Ладага
Белаазерск (Белоозеро)
1071
СЛАВЕНЕ
ІЛЬМЕНСКІЯ
Ноўгарад
1071
Тарту (Юр'еў)
Пскоў
Ізборск
Яраслаў 1030
ЛІЎ
ЛАТГАЛЫ
ЗЕМГАЛЫ
ЖМАЙТЫ
ПРУСЫ
ЯЦВЯГІ
ДАЙНАВА
Таржок
Яраслаўль
1071
Растоў
Суздаль
1024
Уладзімір
МУРАМА
Мурам
МЕРЯ
МАРЫЙЦЫ
ВОЛЖСКА-КАМСКАЯ БУЛГАРЫЯ
БУЛГАР
966
МАРДВА
МЕШЧАРА
Разань
КРЫВІЧЫ
ВЯЦІЧЫ
Полацк (Полотьск)
Віцебск (Видбеск)
Друцк (Друтеск)
Смаленск (Смоленьск)
Орша (Оръша)
Заслаўе (Изяславль)
Гродна (Городно)
Мінск (Меньск)
ДРЫГАВІЧЫ
РАДЗІМІЧЫ
Пінск (Пиньск)
Брэст (Берестье)
Тураў (Туров)
ДРАЎЛЯНЕ
945
Любеч
Ноўгарад-Северскі
СЕВЯРАНЕ
Святаслаў 966-967
Чарнігаў
Уладзімір
Карасцень (Искоростень)
Чэрвень
Белз
Уладзімір 981
1068
1113
КІЕЎ
Васілеў
Пераяслаў
ПАЛЯНЕ
ВАЛЫНЯНЕ
Перамышль
БЕЛЫЯ ХАРВАТЫ
Галіч
Ужгарад
Корсунь
УЛІЧЫ
ЦІВЕРЦЫ
Перасечань
ПОЛЬШЧА
ВЕНГРЫЯ
ПЕЧАНЕГІ (з канца IX ст. да 1036г.)
ПОЛАЎЦЫ (з сярэдзіны XI ст.)
Святаслаў 965
Святаслаў 967
965
Белая Вежа (Саркел)
ПОЛАЎЦЫ (НЫІПЧАНІ) (X ст.)
ХАЗАРСКАЕ ЦАРСТВА (да 966г.)
ІТЫЛЬ
Святаслаў 966-967
БАЛГАРЫ
Алешша
968
Пераяславец
970
ВАЛАШСКІЯ КНЯСТВЫ
Дарастол
971
Дунай
Святаслаў 967-971
971
Прэслаў
БАЛГАРЫ
Плоўдзіў
Адрыянопаль
Аркадыопаль 970
ГРЭЦЫЯ
Алег 907, Ігар 944
988
Судак
Херсанес (Корсунь)
Ігар 943-944
АЗОЎСКАЕ МОРА
Керч (Корчев)
Тмутаракань
АДЫГЕЙЦЫ
АСЕЦІНЫ (АЛАНЫ)
ЧОРНАЕ МОРА
КАСПІЙСКАЕ МОРА
Дэрбент
КУТАІСІ
ГРУЗІНСКІЯ ЦАРСТВЫ
Тбілісі
АРМЯНСКІЯ ЦАРСТВЫ
Сіноп
Трапезунд
КАНСТАНЦІНОПАЛЬ (ЦАРЬГРАД)
ВІЗАНТЫЙСКАЯ ІМПЕРЫЯ
30°
40°
50°
60°



Сафійскі сабор у Полацку. 11—18 ст.

| | |
|---|---|
| 1092 г. | Другая летапісная звестка пра Друцк (у сувязі з незвычайнымі падзеямі — «цудамі» ў Полацку). |
| 1101 г. | У Полацку пачаў княжыць друцкі князь Барыс Усяславіч. |
| 1102 г. | Заснаванне Барысам Усяславічам горада Барысава. |
| 1117 г. | У Друцку пачаў княжыць Глеб Усяславіч. |
| 1127 г. | Паход Мсціслава (сына Уладзіміра Манамаха) супраць Полацка і Друцка. Высылка полацкіх і друцкіх князёў у Візантыю. |

Захоп Усяслава Брачыславіча з сынамі «на Рши у Смолинска» і затачэнне яго ў поруб у Кіеве. З мініяцюры Радзівілаўскага летапісу.



| | |
|---|---|
| 1138 г. | Вяртанне з ссылкі полацкіх і друцкіх князёў. |
| 1159 г. | Дручане «ізгналі» князя Глеба Расціслававіча і «пасадзілі» ў Друцку Рагвалода Барысавіча (у 1146, 1159—1161 гг. і полацкі князь). |
| 1159, 1160, 1161 гг. | Паходы і асада горада Мінск друцкім і полацкім князем Рагвалодам Барысавічам. |
| 1171 г. | Зроблены надпіс на камяні (Рагвалодаў камень) каля вёсак Галошава і Дзятлава ў гонар Рагвалода Барысавіча (уладу ў яго наследаваў сын Глеб Рагвалодавіч). |



Гарадзішча старажытнага Друцка.







Княжацкі дружыннік 10 — пачатку 11 ст.
Такая зброя была ў вяроў полацкіх, мінскіх і друцкіх князёў.
Надпіс на Рагвалодавым камяні.



Аўтар карты Г.В.Штыхаў

1181 г. «Вялікае супрацьстаянне на Друці». Узмацненне барацьбы суседніх княстваў за ўплыў на Друцк.

1186 г. Друцкая дружына ў кааліцыі з войскам смаленскіх князёў удзельнічала ў паходзе на Полацк.

1237—1240 гг. Мангола-татарскае нашэсце на Русь. Друцк, верагодна, пазбег татарскай навалы.

Пачатак 14 ст. Уваходжанне Полацкай зямлі, у тым ліку Друцкага княства, у склад Вялікага княства Літоўскага і Рускага.

1340 г. Частка друцкіх князёў пачынае службу ў Маскоўскім вялікім княстве.

1378 г. У в. Абольцы (Талачынскі раён) заснаваны касцёл — адзін з першых на Беларусі.

Бітва на Ворскле 1399 г. Мініяцюра 16 ст.



Соф'я Друцкая (Гальшанская). (1405?—1461).



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль польскі Ягайла (1348—1434).



Курганы над ракой Друць.



Бітва з татарамі. Гравюра 16 ст.

| | |
|---|---|
| Сярэдзіна 14 ст. | Друцкі князь Васіль Міхайлавіч зрабіў запіс на Друцкім Евангеллі. |
| 1380 г. | Кулікоўская бітва, у якой удзельнічала і дружына з Друцка на чале з князем Глебам. |
| 1387 г. | Друцк згадваецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх». |
| 1399 г. | Князі Друцкія і іх дружына ўдзельнічаюць у бітве на рацэ Ворскла. |
| 1401 г. | Друцкі князь Сямён Дзмітрыевіч засведчыў Акт уніі паміж Вялікім княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім. |
| 1410 г. | Грунвальдская бітва. |



Я.Матэйка. Грунвальдская бітва.

| | |
|---|---|
| 1422 г. | Шлюб вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы Ягайлы з князёўнай Соф'яй Друцкай (Гальшанскай) — пляменніцай друцкага князя Сямёна Дзмітрыевіча. (Напярэдадні Ягайла і Вітаўт наведалі са сватамі Друцк.) |
| 1424 г. | Іван Баба і Іван Пуцята (Друцкія) у складзе войска Вялікага княства Літоўскага дапамагалі маскоўскаму князю Васілю Дзмітрыевічу ў барацьбе супраць татар. |
| 1433 г. | Першыя звесткі ў пісьмовых крыніцах пра горад Талачын. |
| 1454 г. | У бітве з татрамі на р. Ака ўдзельнічаў Сямён Друцкі (ваявода маскоўскага войска). |
| 1492 г. | Дмітрый Іванавіч Друцкі (Пуцяціч) прызначаны кіеўскім ваяводам. |
| 2-я палавіна 15 ст. | Распад Друцкага княства на ўдзелы. |
| 1506 г. | Напад на Друцк крымскага хана Махмет Гірэя. |




Друцкая зямля на карце «Вялікае княства Літоўскае», якая выдадзена ў 1613 г.



Я.М а т э й к а. Люблінская унія.



На навуковай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю Друцка. Май 1999 г.





У гісторыка-краязнаўчым музеі г.п. Круглае. 2000 г.

| | |
|---|---|
| 1508 г. | Паўстанне М.Глінскага, «целование креста» друцкімі баярамі на адданасць вялікаму князю маскоўскаму. |
| 1531-–1543 гг. | Дмітрый Юр'евіч Друцкі кіраваў абаронай супраць татар на р. Угра. |
| 1544, 1545, 1549 гг. | Звесткі пра Друцкі замак (А.Гвіньіні і інш.). |
| 1565—1566 гг. | Друцкае княства ўключана ў Аршанскі павет ВКЛ. |
| 1566 г. | Андрэй Сямёнавіч Друцкі прызначаны ваяводам у Полацк. |
| 1569 г. | Люблінская унія — аб'яднанне Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ў федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітая. |
| 1588 г. | Прыняцце Статута ВКЛ, аўтарам і выдаўцом якога быў Леў Сапега — сын Багданы Друцкай-Саколінскай. |
| 1613 г. | Апошні год пазначэння на картах Еўропы Друцкага замка (на карце Тамаша Макоўскага). |



| | |
|---|---|
| 1621 г. | Полацкі ваявода Міхаіл Міхайлавіч Друцкі-Саколінскі прызначаны ваяводам Смаленска (сенатарская пасада ў Рэчы Паспалітай). |
| Канец 17 ст. | Успаміны дыпламата І.Г.Корба пра Друцк як вялікі горад, які... «меў 7 міль у акрузе». |
| 1772 г. | Першы падзел Рэчы Паспалітай (мяжа Расійскай імперыі і Рэчы Паспалітай праходзіла па р. Друць і праз Друцк). |
| 1812 г. | Друцк разрабаваны французскімі войскамі. |
| 1816 г. | Францішак Друцкі-Любецкі, які ўдзельнічаў у паходах А.В.Суворава ў Швейцарыю і Італію, прызначаны гродзенскім губернатарам (з 1826 г. міністр фінансаў у Царстве Польскім). |
| 18—19 ст. | Дзейнасць у ВКЛ і Расіі прадстаўнікоў княжацкага роду Друцкіх. |
| 1882 г. | Прысваенне І.У.Гурку — аднаму з нашчадкаў князёў Друцкіх звання генерал-фельдмаршала. |



вДрꙋкарни домꙋ Мамоничовъ.

Зласки ипривилья короля его мл͠сти.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.



Л.В.Аляксееў.

| | |
|---|---|
| 1924 г. | Стварэнне Друцкага сельсавета ў складзе Талачынскага раёна. |
| 1930 г. | Даследаванне помнікаў Друцка беларускім археолагам А.Дз.Каваленем. |
| 1956—1962, 1965, 1967 гг. | Археалагічныя раскопкі ў Друцку праводзіў маскоўскі археолаг і гісторык Л.В.Аляксееў. |
| 1994 г. | Адкрыццё ў г.п. Круглае гісторыка-краязнаўчага музея з экспазіцыяй, прысвечанай Друцку. |
| 1998 г., чэрвень | Публікацыя ў часопісе «Беларуская думка» пісьма Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнку і артыкула «Святая зямля». |

| | |
|---|---|
| 1998 г., кастрычнік | Бласлаўленне Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта на аднаўленне ў Друцку царквы Прасвятой Багародзіцы. |
| 1998 г., кастрычнік | Пастанова Нацыянальнага аргкамітэта пра святкаванне 2000-годдзя хрысціянства і падрыхтоўку юбілейных мерапрыемстваў у сувязі з 1000-годдзем Друцка. |
| 1998 г., снежань | Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб святкаванні 1000-годдзя Друцка». Пачатак дзейнасці арганізацыйнага камітэта на чале з У.П.Андрэйчанка. |
| 1999 г., май | Праведзена навуковая канферэнцыя, прысвечаная 1000-годдзю Друцка і 900-годдзю Барысава. |
| 1999—2000 гг. | Заснаванне ў г. Талачын гісторыка-краязнаўчага музея з экспазіцыяй, прысвечанай Друцку. |
| 2000 г. | Будаўніцтва (аднаўленне) у Друцку царквы Прасвятой Багародзіцы. |

*Падрыхтаваў Рыгор Ляh ькевіч.*

*В.Ф.Капыцін, А.Р.Мітрафанаў*

# СТАРАЖЫТНАЯ ГІСТОРЫЯ ДРУЦКАЙ ЗЯМЛІ

25—15 тысяч гадоў назад тэрыторыя, якая прылягае да Друцка, знаходзілася ў непасрэднай блізкасці ад краю апошняга валдайскага (паазерскага) зледзянення, што займала вялікія прасторы паўночнага захаду Рускай раўніны. Халодны клімат, вялікая абводненасць перашкаджалі жыццю тут чалавека ў эпоху старажытнага каменнага веку — палеаліту. Можна меркаваць, што толькі пасля адступлення ледавіка і фарміравання сучаснай рачной сеткі (адбылося гэта каля 12—10 тысяч гадоў назад) у вярхоўях Друці паяўляецца першае насельніцтва — групы паляўнічых на паўночнага аленя. Аднак стаянкі чалавека гэтага часу (позняга палеаліту і мезаліту) у разглядаемым рэгіёне пакуль не выяўлены. Рассяленне старажытных людзей на тэрыторыі Круглянскага, Талачынскага, Бялыніцкага і іншых раёнаў у міжрэччы Дняпра і Друці адбывалася з поўдня па Дняпры, Друці, Усвейцы і іншых рэках. Шчыльнасць насельніцтва была нізкая. Стаянкі размяшчаліся па краях надпоймавых тэрас, на дзюнных і пясчаных пагорках. На іх ставіліся лёгкія буданападобныя жытлы з агнішчамі ў цэнтры.

Там, дзе ў мінулым жылі людзі, у зямлі захаваліся прылады працы і зброя, прадметы побыту і ўпрыгожанні, фрагменты глінянага посуду (кераміка), рэшткі ачагоў, вогнішчаў, косці жывёл і інш. Глеба, у якой знаходзяцца разнастайныя рэшткі дзейнасці старажытнага чалавека, называецца культурным пластом. Вельмі часта культурны пласт вызначаецца больш цёмнай афарбоўкай сярод парод, якія яго акружаюць.

Наяўнасць культурнага пласта з'яўляецца першай прыкметай старажытных паселішчаў, што размяшчаліся пераважна па берагах рэк і азёр. Старажытных людзей, жыццё якіх у многім залежала ад навакольнага асяроддзя, прыцягвала сюды мноства рыбы і вадаплаваючай птушкі, а таксама бязмежныя лясы, багатыя дзічынай.

У эпоху новага каменнага веку (неаліту) у 5—3-м тысячагоддзях да н.э. ў міжрэччы Дняпра і Друці пражывалі плямёны верхнедняпроўскай культуры, асновай гаспадаркі якіх былі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. На сённяшні дзень вядомы неалітычныя стаянкі на левым беразе Друці каля вёсак Малая Арава, Вугольшчына, Зарэчча, Лубяны Круглянскага раёна, Прыбар Бялыніцкага раёна.

Адным з найважнейшых дасягненняў эпохі неаліту з'яўляецца пачатак керамічнай вытворчасці. Гліна ў выніку абпальвання набыла новыя якасці: стала цвёрдай і здольнай захоўваць нададзеную ёй форму. Старажытны посуд выраблялі ўручную, яго ляпілі з доўгай глінянай стужкі, потым абпальвалі на агні. Паверхню пасудзін з вонкавага боку часта пакрывалі арнаментам у выглядзе адбіткаў грабеньчатага або зубчастага штампа ў спалучэнні з ямкавымі ўцісканнямі. У выніку вы-

## АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ПОМНІКІ СТАРАЖЫТНАЙ ДРУЦКАЙ ЗЯМЛІ
## (на тэрыторыі сучасных Талачынскага і Круглянскага раёнаў)

▲ Стаянкі каменнага і бронзавага вякоў

■ Гарадзішчы (якія існуюць)

□ Гарадзішчы (якія цяпер не існуюць)

✿ Паселішчы

Курганныя могільнікі (якія існуюць)

Курганныя могільнікі (якія цяпер не існуюць)

† Каменныя крыжы



находніцтва глінянага посуду з'явіліся новыя магчымасці ў прыгатаванні і захоўванні ежы. Фрагменты пасудзін (самая масавая катэгорыя знаходак на паселішчах) нясуць многа інфармацыі пра старажытную ганчарную вытворчасць, выкарыстанне прыродных рэсурсаў, мастацкія густы чалавека.

Неаліт вядомы таксама многімі іншымі адкрыццямі ў развіцці першабытнай тэхнікі. З'явіліся новыя формы прылад працы і палявання з розных парод каменю, больш дасканалыя прыёмы іх апрацоўкі: пілаванне, шліфаванне, свідраванне. Пашырыўся і асартымент такіх прылад. Шырока распаўсюджваюцца каменныя сякеры, цёслы, скоблі, долаты, прызначаныя для апрацоўкі дрэва, стварэння жылля і гаспадарчых пабудоў, паляўнічых і рыбалоўных прыстасаванняў, лодак і інш. Паявіліся камбінаваныя прылады працы, вырабленыя з крэменю, — дробныя пласціны-ўкладышы, так званыя мікраліты, якія дакладна падганяліся адзін да аднаго і змацоўваліся смалой у выразаных пазах касцяных або рагавых нажоў. Важнымі прыладамі палявання ў мезаліце і неаліце былі лук і стрэлы, з дапамогай якіх чалавек паляваў на вандроўных і дробных жывёл, птушак. У культурным археалагічным пласце ў вялікай колькасці сустракаюцца наканечнікі коп'яў, дроцікаў, стрэл, касцяныя кінжалы з крэмневымі ўкладышамі ў пазах, нажы, лёзы і інш. З паляпшэннем умоў жыцця павялічвалася колькасць насельніцтва і, натуральна, яго шчыльнасць. Пад канец эпохі неаліту пачалі ўзнікаць вытворчыя формы гаспадаркі — прымітыўнае земляробства і жывёлагадоўля. Развіваўся і прымітыўны абмен крэменем, бурштынам і інш.

Асноўным зместам наступнай эпохі — эпохі бронзы стала далейшае развіццё жывёлагадоўлі, земляробства, пашырэнне абмену.

У 2-м тысячагоддзі да н.э. на тэрыторыі, якая прылягае да Друцка, паявіліся плямёны, знаёмыя з металам, у першую чаргу з меддзю і бронзай. Наступіла эпоха бурных падзей, значных перамяшчэнняў плямёнаў.

Бронзавы век у Верхнім Падняпроўі звязаны з рассяленнем плямёнаў сярэднедняпроўскай культуры, што ўваходзілі ў арэал пашырэння культур шнуравой керамікі. Гэтыя плямёны займалі землі ад басейнаў Эльбы і Одэра на захадзе да верхняй Волгі на ўсходзе. На думку даследчыкаў, яны прадстаўлялі адну з груп старажытных індаеўрапейцаў — продкаў славян, балтаў і германцаў.

Паселішчы сярэднедняпроўскіх плямёнаў размяшчаліся пераважна ў поймах рэк, на пясчаных узвышшах і па краі надпоймавых тэрас, на берагах азёр. Берагі Друці і яе прытокаў забяспечвалі дастаткова корму для жывёлы і прыдатныя ўчасткі для апрацоўкі зямлі, што спрыяла развіццю тут земляробства і жывёлагадоўлі.

Паселішчы і жыллё насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры ўзнікалі найчасцей на месцах ранейшых неалітычных стаянак. Насельніцтва гэтай культуры жыло ў наземных пабудовах слупавой канструкцыі з каменнымі агнішчамі ў цэнтры. Матэрыялы бронзавага веку, пераважна фрагменты керамікі, выяўлены каля вёсак Малая Арава, Лубяны, гар. пас. Бялынічы. Формы глінянага посуду к гэтаму часу набылі пэўныя змены. У побыт паступова ўваходзіў посуд з плоскім дном (гаршкі папярэдніх культур былі вастрадонныя і іх пры варцы прыкопвалі ў зямлю побач з агнішчам). Даследчыкі тлумачаць гэта з'яўленнем стала́ і плоскага поду ачага. Пасудзіны сталі больш разнастайнымі па велічыні і форме. Найбольш характэрныя гаршкі гэтага часу з высокай адагнутай шыйкай і выпуклым тулавам. Яны арнаментаваны ў верхняй частцы або па ўсёй паверхні адбіткамі шнура, лінейнага зубчастага штампа, насечкамі, пазногцевымі або пальцавымі ўцісканнямі, якія ўтваралі гарызантальныя паясы і кампазіцыі (трохвугольныя, дыяганальныя і ў елачку).

Апрача вырабу глінянага посуду развіваліся і ўдасканальваліся апрацоўка каменю і косці, дрэва і скуры, сталі пашыранымі прадзенне і ткацтва. Адной з характэрных прыкмет матэрыяльнай культуры сярэднедняпроўскіх плямёнаў былі каменныя сякеры з прасвідраванай адтулінай. Такія прылады знойдзены ў наваколлі в. Кунцы Круглянскага раёна.

Адсутнасць у верхнім Падняпроўі пакладаў медзі і волава (асноўных кампанентаў бронзы) і ў той жа час наяўнасць у гэтым рэгіёне вырабаў з бронзы сведчаць пра зараджэнне гандлю. Металічныя вырабы прадстаўлены меднымі і бронзавымі шыламі, нажамі, дыядэмамі, грыўнямі, бранзалетамі, скроневымі кольцамі і інш. Для іх вырабу выкарыстоўвалі метал пераважна балкана-карпацкага паходжання або яго прывозілі нават з Малой Азіі, у прыватнасці з краіны Мідыя (адсюль і славянская назва першага металу — медзь).

Новыя плямёны прынеслі з сабой і новы абрад пахавання. Памерлых хавалі ў курганных і грунтавых могільніках паводле абраду трупаспалення або трупапалажэння, на баку ў скурчанай позе.

Развіццё сярэднедняпроўскай культуры спынілася ў сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н.э., на гэтай тэрыторыі склалася новая — сосніцкая культура, якая праіснавала да пачатку 1-га тысячагоддзя да н.э. і займала ў верхнім Падняпроўі амаль той жа рэгіён, што і сярэднедняпроўская. На жаль, помнікі сосніцкай культуры ў наваколлі Друцка пакуль не выяўлены.

У 1-й палавіне 2-га тысячагоддзя да н.э. на тэрыторыю сучаснага Талачынскага раёна пранiклі плямёны паўночнабеларускай культуры, якая ўзнікла на мясцовай аснове ў выніку змяшэння нарвенскай культуры з культурай плямён, выцесненых насельніцтвам сярэднедняпроўскай культуры з тэрыторыі верхняга Падняпроўя. Паселішчы плямён паўночнабеларускай культуры размяшчаліся ў басейне Заходняй Дзвіны. У Талачынскім раёне вядома пакуль толькі адно з іх каля в. Шашалаўка, на правым беразе р. Усвейка (знойдзены абломкі гліняных пасудзін і косці жывёл). Некалькі паселішчаў выяўлена і на вялікім тарфяніку, размешчаным у пойме р. Крывінка паміж вёскамі Галоўск Сенненскага раёна і Асавец Бешанковіцкага раёна. Абодва гэтыя паселішчы маюць два культурныя гарызонты — ніжні, які адносіцца да нарвенскай культуры эпохі неаліту, і верхні — паўночнабеларускай культуры бронзавага веку. Пры раскопках выяўлены рэшткі жытлаў паўночнабеларускай культуры — прамавугольныя з жэрдак пабудовы з двухсхільнай страхой, ніжняя частка якой укопвалася ў зямлю, а верхняя мацавалася на падоўжнай бэльцы, абапёртай на слупы, што стаялі па тарцах жытла. Унутры жытлаў размяшчаліся адкрытыя каменныя агнішчы. Насельніцтва вырабляла гліняныя ляпныя шыракагорлыя гаршкі, міскі, міскападобныя пасудзіны, кубкі з акруглым або вострым, часам з плоскім і вузкім дном. У гліну, з якой вырабляўся посуд, дамешвалі тоўчаныя ракавінкі, пясок і жарству. Арнамент размяшчаўся па ўсёй паверхні пасудзін у большасці выпадкаў гарызантальнымі паясамі (зонамі), запоўненымі разнастайнымі ўзорамі з лінейных адбіткаў, насечак, ямак, праколаў. Выяўлена і шмат пасудзін, пакрытых штрыхамі. Відаць, яшчэ сырыя пасудзіны абціралі саломай або сухой травой. Трапляюцца гаршкі, формай падобныя на посуд сярэднедняпроўскай культуры, а таксама драўляныя міскі. Плямёны паўночнабеларускай культуры шырока выкарыстоўвалі як сыравіну косці і рогі жывёл: знойдзены касцяныя сякеры, цёслы, долаты, гарпуны, рыбалоўныя кручкі, наканечнікі стрэл, падвескі з зубоў жывёл. На паселішчы Асавец знойдзены прадметы старажытнага мастацтва — драўляныя фігуркі чалавека, звяроў, птушак і абломкі пасудзін з гравіраванымі выявамі людзей, а таксама набор бурштынавых падвесак.

З асваеннем спосабу атрымання жалеза з балотных, азёрных і лугавых рудаў у пачатку 1-га тысячагоддзя да н.э. наступіў жалезны век — час жалезнага нажа, мяча, плуга з жалезным сашнікам і жалезнай сякеры. Гэта паскорыла тэмпы гістарычнага развіцця, выклікала далейшыя змены ў гаспадарчым і грамадскім жыцці насельніцтва. У выніку насельніцтва вярхоўяў Друці апынулася ў больш спрыяльных умовах для атрымання ўласнага металу. Калі медныя і алавяныя руды тут адсутнічалі, то жалезныя, прыдатныя для апрацоўкі першабытным спосабам, былі амаль усюды. Дзякуючы гэтаму жалеза трывала зацвердзілася ў вытворчасці і быце. Яго атрыманне ў старажытнасці адбывалася наступным чынам. Руду, здабытую з дна вадаёмаў, балот або выкапаную з зямлі, спачатку прамывалі, драбілі і абпальвалі на адкрытым агні. Потым яе складвалі ў печ, якая мела выгляд цыліндрычнай ямы або звужанай у верхняй частцы глінянай пасудзіны вышынёй да 1 метра. Ніжнюю і верхнюю часткі печы запаўнялі драўняным вугалем, які затым падпальвалі. Тэмпература гарэння павялічвалася шляхам нагнятання ў печ паветра праз спецыяльныя адтуліны (соплы) з дапамогай кавальскіх мяхоў. У выніку на дне печы ўтвараўся камяк цестападобнай порыстай масы — крыцы — вагой 1—8 кг. Яе потым неаднаразова пракоўвалі молатам для ўшчыльнення і выдалення шлакаў. Такі спосаб атрымання жалеза называўся сырадутным, або крычным.

Пашырэнне жалеза паслужыла магутнай тэхнічнай перадумовай развіцця іншых вытворчасцей, разнастайных рамёстваў, асабліва кавальскага і зброевага, а таксама асноўных відаў сельскагаспадарчых і рамесных прылад працы, многія з якіх выкарыстоўваюцца і цяпер. З дапамогай жалезных прылад паляпшалася апрацоўка дрэва, косці, каляровых металаў.

Прыбавачны прадукт (запасы збожжа, жывёлы, прадметаў хатняга рамяства), што стаў вынікам росту вытворчых сіл, садзейнічаў глыбокім зменам ва ўсім грамадскім жыцці. Калі раней пры нізкім узроўні прадукцыйнасці працы існаванне абшчыны было непазбежным, то са з'яўленнем жалезных прылад працы асобная сям'я магла апрацоўваць зямлю і весці іншыя работы самастойна, без абшчыны. Складваліся эканамічныя перадумовы для з'яўлення прыватнай уласнасці, а таксама і для вядзення войн паміж суседзямі за захоп матэрыяльных каштоўнасцей, ператварэння людзей у рабоў.

У 8—7 стагоддзях да н.э. ў вярхоўях Заходняй Дзвіны і Дняпра склалася днепра-дзвінская культура, а ў паўночна-заходнім Падняпроўі і вярхоўі Нёмана — культура штрыхаванай керамікі. На тэрыторыі сучаснага Талачынскага раёна праходзіла мяжа паміж гэтымі культурамі. У заходняй частцы гэтага рэгіёна жылі плямёны культуры штрыхаванай керамікі, а ва ўсходняй — днепра-дзвінскай культуры. Да нядаўняга часу ў Талачынскім раёне было вядома 7 гарадзішчаў гэтых культур. Цяпер захавалася толькі 3 гарадзішчы (каля вёсак Гарадзішча, Кісялі і Козкі), астатнія знішчаны. Гарадзішча каля в. Гарадзішча размешчана па правым беразе р. Усвейка, за 150—200 м на захад ад вёскі на высокім (10—11 м ад асновы) узгорку, на першай надпоймавай тэрасе. Гарадзішча было ўмацавана 3 валамі і глыбокім ровам. Пры яго абследаванні знойдзены абломкі пасудзін днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Побач з гарадзішчам знаходзіцца селішча 7—8 ст. н.э. Сярод мясцовага насельніцтва бытуе легенда, што гарадзішча з'яўляецца рэшткамі вялікай прыстані, якая існавала калісьці, і што р. Усвейка (у вярхоўі яна называецца Усвіж-Бук) была паўнаводнай і па ёй хадзілі вялікія для таго часу судны з разнастайнымі таварамі. У сапраўднасці гэтае гарадзішча ўзнікла не пазней 3—4 ст. н.э. і ніякіх адносін да прыстані не мае. Аднак Усвейка ў старажытнасці была значна больш паўнаводнай і ў 10—13 ст. з'ўлялася часткай воднага гандлё-

вага шляху, які звязваў Прыбалтыку з Паўночным Прычарнамор'ем, праз Заходнюю Дзвіну—Улу—Усвейку — волакам да рэк Крывая—Друць—Дняпро. Назва вёскі Пярэвалачня, якая захавалася да нашага часу на р. Крывой, пацвярджае той факт, што паміж гэтай ракой і Усвейкай сапраўды існаваў волак, па якім па сушы перацягваліся тавары. Не выключана, што на тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца вёска, сапраўды была прыстань, а гарадзішча магло выкарыстоўвацца для іншых мэт, у тым ліку і быць сховішчам у часы небяспекі.

Днепра-дзвінская культура і культура штрыхаванай керамікі ў сваіх асноўных рысах (характары пасяленняў, жытлаў, гаспадаркі, прылад працы і інш.) падобны адна на адну, таму што яны былі роднаснымі ў этнічных адносінах з плямёнамі ўсходнебалцкай моўнай групы. Археолагі адрозніваюць іх толькі формаю гліняных пасудзін. Пасудзіны днепра-дзвінскай культуры былі больш аднастайныя — гаршкі з увагнутым горлам, прамой або ледзь адагнутай шыйкай і параўнальна выпуклым тулавам, а слоікавыя пасудзіны мелі прамыя або злёгку пукатыя сценкі. Увесь посуд быў пласкадонны і гладкасценны. Арнамент на ім размяшчаўся па шыйцы да плечука і складаўся з разнастайных ямак, папярочных і ламаных ліній, ромбаў, вертыкальных нарэзаў, што чаргаваліся па 2—3 у кожнай групе. Посуд культуры штрыхаванай керамікі падзяляецца на ранні (гаршкападобныя і слоікавыя пасудзіны) і позні (рабрыстыя, слоікавыя і слабапрафіляваныя). Усе яны былі пакрыты штрыхоўкай. Слоікавыя і слабапрафіляваныя пасудзіны амаль не арнаментаваліся. Раннія гаршкі ўпрыгожвалі па шыйцы і плечуку ямкамі, што размяшчаліся ў адзін ці ў два рады, у выглядзе трохвугольнікаў у шахматным парадку вяршынямі ўніз або групамі ямак па 2—3—4 у кожнай. Рабрысты посуд арнаментаваўся зашчыпамі, насечкамі, ямкавымі ўцісканнямі, наразнымі лініямі, якія наносілі па рабры і па шыйцы.

Асноўнымі галінамі гаспадаркі плямён абедзвюх культур былі ляднае земляробства і жывёлагадоўля, другараднае значэнне мелі паляванне і рыбалоўства. Вырошчвалі пшаніцу, проса, гарох, палявыя бабы і віку, гадавалі кароў, свіней, коней, авечак, коз, курэй. На гарадзішчах выраблялі ўсё, што было неабходна ў побыце. Да паяўлення жалеза асноўнымі відамі сыравіны былі дрэва, косць, рогі жывёл, крэмень. З дрэва выраблялі лодкі, дзяржанні сякер, нажоў і сярпоў, коп'яў, яго выкарыстоўвалі для будаўніцтва жылых, гаспадарчых і вытворчых пабудоў. З косці і рагоў жывёл рабілі сякеры, долаты, нажы, сярпы, шылы, разнастайныя вастрыі, гарпуны, наканечнікі коп'яў і стрэл, кінжалы, прыстасаванні для пляцення сетак, рыбалоўныя кручкі, шпількі, падвескі і інш. З каменю выраблялі зерняцёркі, сякеры, мялы, з гліны — посуд, грузілы для сетак, прасліцы, пацеркі, цацкі. З жалеза выраблялі сякеры, сярпы, нажы, шылы, зброю (наканечнікі коп'яў, дроцікаў і стрэл), упрыгожанні (шпількі, кольцы, спражкі); з бронзы рабілі ўпрыгожанні: бранзалеты, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, бляшкі, падвескі-спіралькі і інш.

Выкарыстанне больш дасканалых жалезных прылад працы станоўча адбілася на прадукцыйнасці ляднага земляробства, павялічыліся статкі свойскай жывёлы, з'явіліся маёмасныя адрозненні паміж родавымі абшчынамі. Унутры іх сталі ўзнікаць больш забяспечаныя ў матэрыяльных адносінах сем'і, якія імкнуліся да адасаблення.

У 4—5 ст. н.э. гарадзішчы як самастойныя гаспадарчыя адзінкі сталі перашкаджаць эканамічнаму росту абшчын, асваенню новых зямель, тармазілі развіццё абмену, стрымлівалі ініцыятыву найбольш забяспечаных сем'яў. Гэта стала прычынай таго, што замест гарадзішчаў паявіліся адкрытыя пасяленні — селішчы. На іх сяліліся члены не толькі аднаго, а некалькіх родаў, кроўна-сваяцкія сувязі страч-



Каменны крыж крывічоў, знойдзены на тэрыторыі Друцкага княства (в. Галошава Талачынскага раёна).

валі сваю сілу і саступалі месца суседскім, тэрытарыяльным сувязям. Патрыярхальна-родавая абшчына стала знікаць, замест яе зараджалася сельская абшчына. На змену культурам днепрадзвінскай і штрыхаванай керамікі *прыйшла банцараўская культура*, якая была пашырана ў Падзвінні, Панямонні і Падняпроўі, у т.л. ў наваколлі Друцка. Селішчы гэтай культуры размяшчаліся па пакатых выступах першай надпоймавай тэрасы. Часта яны ўзнікалі побач са старажытнымі гарадзішчамі, складаючы з імі адзіны гаспадарчы комплекс. Гарадзішчы цяпер сталі выконваць функцыю сховішчаў на выпадак ваеннай небяспекі, таму іх дадаткова ўмацоўвалі земляныміваламі і равамі. На іх пляцоўках размяшчаліся ямы-паграбы, у якіх захоўваліся гаспадарчыя запасы. Жытлы банцараўскай культуры былі двух тыпаў: наземныя дамы і паўзямлянкі слупавой ці зрубнай канструкцыі з агнішчамі, пазней — з печамі-каменкамі. Асноўным заняткам насельніцтва стала ляднае земляробства (на поўдні гэтай культуры зараджалася і ворнае земляробства) і жывёлагадоўля. Былі развіты здабыча і апрацоўка жалеза, ганчарная, бронзаліцейная і касцярэзная вытворчасць, прадзенне і ткацтва. Жалеза здабывалася і апрацоўвалася на кожным селішчы. Рамеснікі выраблялі жалезныя сякеры, сярпы, нажы, наканечнікі коп'яў і стрэл, шылы, дэталі конскай вупражы (бляшкі, кольцы), спражкі і інш., бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, бразготкі, званочкі, разнастайныя падвескі, фібулы. Гліняны посуд да 10 ст. заставаўся ляпным, але формы яго і асартымент сталі больш разнастайныя. Гладкасценны посуд зусім не арнаментаваўся. Акрамя посуду выраблялiся гліняныя праслiцы біканічнай формы. У наваколлі Друцка выяўлена некалькі селішчаў банцараўскай культуры: каля в. Гарбачэва (знойдзена ляпная кераміка і жалезныя наканечнікі стрэл), каля в. Гарадзішча (знойдзена ляпная кераміка), каля самога Друцка (на поўнач ад гарадзішча і на тым месцы, дзе быў горад, знойдзена ляпная кераміка банцараўскай культуры і фібула 5 ст. н.э.). Гарадзішча-сховішча днепрадзвінскай, банцараўскай культур і перыяду Кіеўскай Русі вядома каля в. Кісялі. Сярод знаходак банцараўскай культуры — формачка для адліўкі трохпацеркавых упрыгожанняў. Каля гарадзішча выяўлена, верагодна, адначасовае яму селішча.

Вучоныя да гэтага часу яшчэ не высветлілі, каму належала банцараўская культура. Адны лічаць, што яна належала славянам, другія — балтам (продкам сучасных латышоў і літоўцаў).

Усходнеславянскія плямёны прыйшлі з поўдня і паўднёвага захаду. Сярод мноства славянскіх плямён, якіх называе старажытнарускі летапіс «Аповесць мінулых гадоў», на тэрыторыі Беларусі рассяляліся крывічы, дрыгавічы і радзімічы. Плямёны крывічоў насялялі верхняе і сярэдняе Падзвінне і верхняе Падняпроўе, дрыгавічы жылі на поўнач ад Прыпяці, радзімічы — на ўсход ад Дняпра. Граніца паміж крывічамі і дрыгавічамі праходзіла на поўдзень ад Оршы, Талачына і ішла далей на Барысаў, Мінск, Заслаўе, Маладзечна. Такім чынам, у 10—12 ст. уся тэрыто-



Першая старонка «Аповесці мінулых гадоў».

рыя Талачынскага раёна і значная частка Круглянскага раёна была заселена крывічамі. Шчыльнасць насельніцтва ў параўнанні з заселенасцю ў папярэднія часы паступова павялічвалася. Таму помнікаў, якія адносяцца да перыяду Кіеўскай Русі, на тэрыторыі гэтага рэгіёна было даволі многа. Яны прадстаўлены пераважна неўмацаванымі селішчамі, якія размяшчаліся не толькі па берагах рэк і азёр, але і па водападзелах. Да нашага часу ад іх амаль нічога не засталося, таму што доўгія гады яны разворваліся. Лепш захаваліся курганныя могільнікі — мясціны, дзе хавалі памерлых. Аднак, на жаль, і яны, калі знаходзяцца не ў лесе, а на полі, якое разворваецца, таксама свядома знішчаюцца. Яшчэ не так даўно ў Талачынскім раёне было не менш 40—50 курганных могільнікаў. У цяперашні час іх засталося не больш 20 (каля вёсак Багрынава, Воўкавічы, Галошава, Загараддзе, Замошша, Канапельчыцы, Катужына, Ляўкова, Мураўнічы, Навінка, Скавышкі, Слаўнае, Стары Талачын, Сурнаўка, Узноснае, Яскаўшчына). Раскопкі праводзіліся на курганных могільніках каля вёсак Багрынава, Воўкавічы, Замошша, Латыгаўка, Навінка і Скавышкі (даследавалі ў 1888 г. Е.Р.Раманаў, у 1967, 1969, 1971, 1973 гадах З̌.М.Сяргеева).

Усе ўсходнеславянскія могільнікі, у тым ліку курганы крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, па знешняму выгляду і ў асноўных рысах зместу амаль аднолькавыя. Адрозніваюцца яны толькі нязначнымі дэталямі пахавальнага абраду і пэўнымі відамі выяўленых пры даследаванні ўпрыгожанняў: скроневых кольцаў, тыпамі пацерак і інш. Усе курганы ўяўляюць сабой круглыя ў плане насыпы дыяметрам ад 5—6 м да 10—12 м, вышынёй ад 0,5—0,6 м да 2—2,5 м (у некаторых выпадках іх дыяметр 14—15 м, вышыня 4—5 м). Да пачатку 11 ст. панаваў пахавальны абрад трупаспалення, у 11—13 ст. — абрад трупапалажэння. Нябожчыкаў найчасцей хавалі на гарызонце, радзей — у насыпе кургана, у больш позні час (сярэдзіна 12—13 ст.) клалі ў ямы, пасля чаго насыпалі курган. Арыенціроўка і становішча нябожчыкаў таксама былі аднолькавыя — на спіне, з выцягнутымі рукамі, галавой на захад. Спецыфічныя крывіцкія ўпрыгожанні ў пахавальным інвентары — бронзавыя або сярэбраныя бранзалетападобныя скроневыя кольцы. Іх галаўны ўбор вырабляўся з бяросты і тканіны. Скроневыя кольцы (па 3 на кожную скроню) мацаваліся да галаўнога ўбору скуранымі раменьчыкамі. Каралі складаліся са звычайных шкляных, пазалочаных і пасярэбраных пацерак, якія асабліва часта трапляюцца ў крывічоў, часам сердалікавых, зрэдку хрусталёвых і бурштынавых пацерак, бронзавых круглых пласціністых або ажурных падвесак, лунніц і крыжыкаў. У якасці нагрудных

упрыгожанняў выкарыстоўваліся бронзавыя стылізаваныя фігуркі канькоў, аздобленых цыркульным арнаментам. Трапляюцца таксама бразготкі, лыжачкі і мініяцюрныя грабеньчыкі. Бранзалеты былі вітыя з 3 — 4 — 6 дротаў з завязанымі або петлепадобнымі канцамі, таўстадротавыя і пласціністыя. Пярсцёнкі былі драцяныя, вітыя, пласціністыя, шчытковыя. У мужчынскіх пахаваннях трапляюцца спражкі, паясныя кольцы, часам сякеры, падковападобныя фібулы (засцежкі для плашчоў), металічныя грыба- і шарападобныя гузікі, часам нажы, гаршкі.

У курганах крывічоў знаходзяць балцкія ўпрыгожанні — грыўні, спіральныя пярсцёнкі, кольцападобныя спражкі, бранзалеты з змеепадобнымі канцамі. Вельмі рэдка знаходзяць у іх прылады працы і зброю — сярпы, косы, нарогі, рыбалоўныя кручкі, пешні, восці, долаты, наканечнікі коп'яў і стрэл, затое часта трапляюцца калчанападобныя і авальныя крэсівы. У жаночых пахаваннях часта знаходзяць шыферныя прасліцы. Крывічы займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, хатнімі промысламі. Пісьмовыя звесткі пра іх ёсць у візантыйскага гісторыка Канстанціна Багранароднага і ў пачатковым летапісе «Аповесці мінулых гадоў». У 7—9 ст. у сацыяльных адносінах крывічы — саюз плямён, у рамках якіх фарміраваліся класы, дзяржаўнасць («княжанні»), народнасць. Апошні раз крывічы ўпамінаюцца ў летапісе пад 1162 г.

*Г.В.Штыхаў*

# ДРУЦК У СІСТЭМЕ ГАРАДОЎ І КНЯСТВАЎ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ

**Пра што сведчаць геаграфічныя назвы.** Гісторыя сярэднявечнага Друцка цесна звязана з гісторыяй найбольш старадаўніх беларускіх гарадоў, найперш з Полацкам, Менскам (сучасны Мінск), Віцебскам. Агульнасць лёсу прасочваецца ў паходжанні іх назваў. Свае найменні яны атрымалі ад назваў рэк, на якіх былі першапачаткова заснаваны. Стары «Полцеск» заснаваны на рацэ Палата, правым прытоку Заходняй Дзвіны. Зусім відавочна, што назва горада паходзіць ад назвы гэтай ракі. Старадаўняму звычаю надання назвы гораду ад ракі, на якой ён быў заснаваны, падпарадкаваны таксама стары Віцьбеск (Видьбеск), размешчаны на рацэ Віцьба, папярэднік Менска, які знаходзіўся на берагах ракі Мена (Менка) і інш. Назвы гарадоў утвараліся не выпадкова, а паводле пэўных заканамернасцей. У назвах найбольш старажытных гарадоў Полацкай зямлі ёсць нешта агульнае: усе яны заканчваюцца на «-ск» або «-цк». Першая частка гэтых слоў адносіцца да назвы ракі. Не з'яўляецца выключэннем і старажытны Друцк. У летапісах і сярэднявечных дакументах назва горада абазначана словамі «Друческ», «Друцьск». Гэтая назва вытворная ад ракі Друць.[1]

Зямля, па якой мы ходзім, захоўвае не толькі рэшткі старадаўніх паселішчаў і могільнікаў. Яе вобразна называюць своеасаблівай кнігай, на старонках якой гісторыя насельніцтва зафіксавана ў геаграфічных назвах. Людзі здаўна называлі рэчкі і азёры на сваёй мове, выразна і каратка адзначалі іх характэрную, асноўную прыкмету, напрыклад, Крыва, Віцьба (ад таго, што віляе), Менка (ад таго, што на ёй мянялі (гандлявалі), Бобр (ад таго, што там вадзіліся бабры). Часам яны пераймалі назвы ў сваіх папярэднікаў, надаючы ім новыя, «свае» канчаткі. Менавіта, па назвах рэк можна высветліць мову тых плямён, якія калісьці тут жылі. На тэрыторыі Беларусі сотням рэк і азёр пачатковыя назвы далі старажытныя балты, якія тут жылі. Гэтым навукоўцы тлумачаць тое, што сэнс назваў многіх вадаёмаў на Беларусі можна растлумачыць з сучаснай літоўскай мовы. Такімі з'яўляюцца назвы рэк Вабіч, Віша, Волча, Гайна, Грыўда, Друць, Клёва, Лучоса, Нача, Обаль, Палата, Пціч, Свіслач, Ула, Шчара, Эса і інш. Можна прыгадаць шмат азёр, якія адносяцца да балцкай гідраніміі: Дрывяты, Калпень, Лосвіда, Муйса, Мядзель, Нарач і інш. Возьмем для прыкладу назву ракі Эса, што ўпадае ў Лепельскае возера. Гэтая назва ўтворана на аснове балцкага тэрміна «эсе», што азначае «брод». Назва ракі Палата паходзіць ад слова «пал» — «балота», «лужына». Густа размешчаны гідронімы (назвы водных аб'ектаў), якія звязаны з балтамі у басейне ракі Бярэзіна (Жортай, Клёва, Уса).[2] Больш цяжка вызначыць паходжанне назваў вялі-

кіх рэк, напрыклад, Дняпро. Адносна назвы Дзвіна (Заходняя) варта прызнаць найбольш верагодным фінамоўнае паходжанне з сэнсавым значэннем «ціхая», «спакойная».

Назва ракі Друць мае балцкае (лета-літоўскае) паходжанне. Такая ж аснова сустракаецца ў назвах рэк на тэрыторыі Літвы і Латвіі. На думку даследчыкаў, найбольш верагоднае сэнсавае значэнне асновы тэрміна супастаўляльнае з літоўскім «друтас» — «вялікі», «шырокі».

Геаграфічныя назвы паслужылі адным з важных аргументаў для высновы вучоных, што з глыбокай старажытнасці, амаль да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н.э. і яшчэ пазней, на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку на берагах ракі Друць, жылі балтамоўныя плямёны. З канца 4 да 7 ст. нашай эры, калі адбывалася «Вялікае перасяленне народаў», шэраг плямёнаў пераваандроўвалі на сотні кіламетраў, што карэнным чынам перакройвала этнічную карту Еўропы і не магло не закрануць тэрыторыю Беларусі.

Надзвычай складаная выглядае гісторыя насельніцтва Беларусі ў 6—10 ст. У гэты час адбывалася пранікненне славян (пражская археалагічная культура, райкавецкая і раменская культуры) з поўдня і паўднёвага захаду ў вобласці, дзе здаўна знаходзіліся балты, якія звычайна не пакідалі месцаў свайго пражывання. Славяне рухаліся пераважна па вялікіх рэках і іх прытоках. У лясной зоне Усходняй Еўропы даславянскае насельніцтва было рэдкім. Для новых жыхароў знаходзілася дастаткова свабоднага месца, неасвоеных зямель, нявысечаных лясоў, незанятых поймаў рэк. На рачных мысах славяне будавалі пасёлкі, а побач па суседству працягвалі жыць балты.

**Крывічы-палачане.** На працягу стагоддзяў славянскае насельніцтва прасоўвалася з поўдня на поўнач у лясную зону Усходняй Еўропы. Па вялікіх і малых рэках, асвойваючы падчас амаль не заселеныя лясныя тэрыторыі, рассяляліся свабодныя абшчыннікі — земляробы і бортнікі. Не заўсёды мясцовае насельніцтва без наракання саступала месца прышэльцам. Рэшткі вогнішчаў на балцкіх гарадзішчах сведчаць, што здараліся і жорсткія сутычкі.

Мясцовае балцкае і фіна-ўгорскае насельніцтва, пераймаючы вопыт выкарыстання земляробчых прылад працы і іншыя дасягненні ў гаспадарчым жыцці, збліжалася са славянамі. Напачатку славяне і балты жылі асобна, потым усё больш змешваліся ў адной тэрытарыяльнай абшчыне. Земляробы славяне і пераважна паляўнічыя балты ўсё часцей сумесна асвойвалі новыя землі, расчышчалі ад лесу і хмызнякоў месцы для раллі, рассяляліся разам ці жылі «цераспалосна». Новыя адносіны парушалі былую замкнёнасць родаў. Гэтаму спрыяла і тое, што вераванні ў славян і балтаў былі аднолькавымі — язычніцкімі. Як-ніяк, а паходзілі яны некалі з індаеўрапейскай агульнасці.

Балты пераймалі больш высокую земляробчую культуру славян. У сваю чаргу славяне запазычылі ў балтаў назвы шэрагу рэк і азёр, некаторыя ўпрыгажэнні — тыпы шыйных грыўняў, бранзалетаў, галаўныя вянкі і інш. Многія гарадзішчы на тэрыторыі Беларусі былі пабудаваны балтамі яшчэ ў жалезным веку. Калі з'явіліся славяне, яны таксама будавалі гарадзішчы, каб тут замацавацца. У выніку змешвання балцкага насельніцтва з прышлымі славянамі складваліся перадумовы станаўлення беларускага этнасу.[3]

Славяне рассяліліся на неабсяжных прасторах раўніны ад Ладажскага возера на поўначы да прычарнаморскіх стэпаў на поўдні. Іх суседзямі былі шматлікія неславянскія плямёны. Усходнія славяне ў 8—9 ст. падзяляліся на этнічныя супольнасці ці племянныя «княжанні», як яны названы ў летапісе. На тэрыторыі Беларусі

знаходзілася некалькі такіх этнічных аб'яднанняў усходніх славян. Гэта былі даволі ўстойлівыя этнічныя аб'яднанні — крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў, якія ўтвараліся стыхійна ў выніку змешвання з балтамі і часткова з фіна-уграмі. Яны ўяўлялі сабой не плямёны, як у раннім жалезным веку, а протанароднасці «народцы», як іх называлі расійскія гісторыкі 19 ст. Адначасова аб'яднанне полацкіх крывічоў (палачан) было пачатковым дзяржаўным утварэннем ці протадзяржавай.

Крывічы — вялікае аб'яднанне плямён, якія жылі ў вярхоўях рэк Дняпро, Заходняя Дзвіна, Волга, на поўдні Чудскага возера (Пскоўшчына). Звесткі пра іх змешчаны ў летапісах пры апісанні падзей 9—10 ст. Працэс фарміравання крывічоў — вынік асіміляцыі прышлымі славянамі мясцовых балцкіх і заходне-фінскіх плямён, паступова славянізаваных.[4] Аб'яднанне крывічоў у канцы 1-га тысячагоддзя н.э. распалася на тры групы — полацкую, смаленскую, пскоўскую (паводле назваў іх галоўных гарадоў). Смаленскія крывічы вельмі блізкія да полацкіх па мове і культуры, таму ў этнаграфічных адносінах звычайна разглядаюцца, як полацка-смаленская група плямён. У 8—9 ст. у полацкіх крывічоў узніклі ўмацаваныя паселішчы, на аснове якіх потым сфарміраваліся гарады.

Племянное княжанне крывічоў-палачан паслужыла гістарычным ядром Полацкага княства-дзяржавы. Полацкае княства ўзнікла ў сярэднім цячэнні Заходняй Дзвіны. У 10—11 ст. яно займала ўсю паўночную Беларусь і межавала на поўначы з Наўгародскай зямлёй, на ўсходзе — са Смаленскім княствам, на поўдні — з Тураўскім княствам, на захадзе — з землямі лета-літоўскіх плямён. Уладанні Полацка прасціраліся ад ніжняга цячэння Заходняй Дзвіны да Рыжскага заліва, дзе былі іх гарады Герцыке і Кукенойс. Полацкая зямля — адно з буйнейшых княстваў ва Усходняй Еўропе ранняга сярэднявечча. Па памерах яно было прыблізна роўнае Баварскаму герцагству на тэрыторыі Германіі, Партугальскаму каралеўству на Пірынейскім паўвостраве.

**Узнікненне ўсходнеславянскіх гарадоў.** Узнікненне гарадоў было працяглым і складаным працэсам. Варта адзначыць, што славяне ў заснаванні гарадоў значна апераджалі балтаў. Так, у літоўцаў сапраўдныя гарады пачынаюць узнікаць у канцы 13 ст. У крывічоў жа ў 9 ст. з'яўляюцца зародкі найбольш старажытных гарадоў. Першапачаткова яны ўзнікалі як абгароджаныя сценамі паселішчы. Іх было так многа, што варагі, якія плавалі па шляху «з вараг у грэкі», называлі землі ўздоўж Заходняй Дзвіны «гардарык», гэта значыць «зямля гарадоў». Горад 9—10 ст. адрозніваўся ад вёскі галоўным чынам сваімі ўмацаваннямі і тым, што ён быў адміністрацыйным цэнтрам дзяржаўнай улады. З'яўленне гарадоў і ўзнікненне дзяржаўнасці адбывалася на Беларусі адначасова. Таму можна гаварыць пра раннесярэднявечныя гарады-дзяржавы.

Ва ўсходніх славян існавалі гістарычныя перадумовы для ўзнікнення гарадскіх паселішчаў. Гэта было павелічэнне сельскагаспадарчай прадукцыі і паляпшэнне тэхнікі апрацоўкі зямлі, аддзяленне рамёстваў ад сельскай гаспадаркі. Тэрыторыя Беларусі не з'яўлялася выключэннем з правіл паўсюднага росту ўраджайнасці зернявых у 9—13 ст., што назіралася ў Еўропе. Узровень вытворчасці зерня вызначаў і самую магчымасць развіцця рамёстваў і гандлю. Доказам прагрэсу земляробства на тэрыторыі Беларусі служаць знаходкі азімага жыта (напрыклад, на гарадзішчы каля в. Свіла-1 у пласце 9 ст.). Другім сведчаннем гэтаму з'яўляюцца жалезныя наканечнікі на ворных прыладах 10—11 ст., якія тут знаходзяць, у тым ліку і ў Друцку.[5]

Гандаль і рамёствы ўсё больш канцэнтраваліся ў населеных пунктах са зручным геаграфічным размяшчэннем. Горад не мог быць ізаляваным ад свайго наваколля, яго гаспадарчая роля адчувалася ў межах адпаведнай акругі. Ужо ранняму перыяду гісторыі земляў Усходняй Еўропы было характэрна ўстанаўленне гандлёвых сувязяў з іншымі краінамі. Гэта быў час росквіту «шляху з вараг у грэкі», які, безумоўна, уплываў на гаспадарчае жыццё земляў, праз якія пралягаў. Значэнне заходнедзвінскага адгалінавання гэтага важнага воднага шляху для станаўлення Полацка, Віцебска, Друцка і іншых гарадоў Полацкай зямлі неаднаразова адзначалі даследчыкі.

У адрозненне ад гарадзішчаў-сховішчаў 6—8 ст. узнікаючыя гарады былі заўсёды населенымі. Побач з імі часта існавалі неўмацаваныя пасёлкі, якія ў далейшым, прыкладна ў 10 ст., ператварыліся ў гандлёва-рамесныя пасады гарадоў. Археалагічнай прыкметай з'яўлення паселішчаў гарадскога тыпу пры пэўных умовах можа служыць ганчарная кераміка (не ляпная) у культурным пласце, бо выкарыстанне ганчарнага круга ў 1-й палавіне 10 ст. — агульнапрызнанае сведчанне адасаблення рамяства.

Некаторыя даследчыкі схільныя лічыць, што узнікненне гарадоў звязана з дзейнасцю нарманаў. З пісьмовых крыніц вядома, што нарманы, сапраўды, былі ў Полацку ў 9—11 ст. Верагодна, што нарманам быў першы гістарычна вядомы ў Полацку князь Рагвалод. Але з аналізу археалагічных звестак вынікае, што ўплыў скандынаваў на характар матэрыяльнай культуры славянскіх сярэднявечных гарадоў у цэлым быў невялікі.

Паходжанне гарадоў Полацкай зямлі можна ўявіць наступным чынам. Зародкамі найстаражытнейшых з іх былі ўмацаваныя пункты славян, што ўзнікалі пры іх рассяленні. Сярод іх найперш вылучаецца Полацк як галоўны цэнтр полацкіх крывічоў. На прыкладзе Полацка можна прасачыць, што зародак горада ў 9 — пачатку 10 ст. меў гарадзішча, паселішча (перадгорад), выконваў адміністрацыйныя функцыі ў воласці і, значыць, быў горадам-дзяржавай.

У сувязі з каланізацыяй навакольнай тэрыторыі і ўстанаўленнем даніны ў Падзвінні адначасова з Полацкам ствараліся іншыя ўмацаваныя пункты (Віцебск, Заслаўе, крыху пазней Друцк, Мінск, Лукомль, Лагойск), якія залежалі ад Полацка ў адміністрацыйных і ваенных адносінах, з'яўляючыся правобразам будучых так званых малодшых гарадоў. Гарады былі пунктамі, куды сцякалася даніна, і адкуль яна ў значным аб'ёме збывалася ў Візантыю, краіны Усходу і Заходняй Еўропы. Прадметы раскошы, якія знаходзяць археолагі ў старажытных гарадах, у т.л. і ў Друцку, даволі пашыраныя на тэрыторыі Беларусі скарбы арабскіх манет — сведчанне далёкіх гандлёвых сувязей.[6]

Асноўнай масай населеных пунктаў, якіх на тэрыторыі Полацкай зямлі ў 11—12 ст., мяркуючы па колькасці курганных могільнікаў, налічваліся многія сотні, былі сельскія паселішчы — пераважна вёскі. Ва ўсходнеславянскім грамадстве гэтага перыяду ў сувязі з працэсам станаўлення розных формаў залежнасці ад буйной знаці сяляне маглі апынуцца ў якасці закупаў, уключаліся ў панскую чэлядзь, закладваліся ў халопы. Узнікала шматукладнае грамадства, у якім паступова ўсталёўваўся феадальны ўклад.

Насельніцтва гарадоў папаўнялася выхадцамі з вёсак. Рамеснікі сяліліся каля старых умацаваных пунктаў ці нанова пабудаваных феадальных двароў, пагранічных ахоўных крэпасцей, каля вялікіх водных шляхоў, волакаў і пераправаў, пасярод густанаселеных мясцовасцей, жыхары якіх мелі патрэбу ў рамесных вырабах. Ся-

ляне, пасяляючыся на гарадскіх пасадах, прытрымліваліся старых звычаяў абшчыннага кіравання.

Гарады размяшчаліся ў адпаведнасці з заселенасцю земляў. У першую чаргу асвойваліся раёны, больш прыдатныя ў сельскагаспадарчых адносінах. Важнае значэнне мела наяўнасць рэк і азёр, якія выкарыстоўваліся як транспартныя магістралі. Перакрыжаванне гандлёвых шляхоў, наяўнасць волакаў маглі вызначыць размяшчэнне горада ў гэтым месцы. Так, Полацк знаходзіўся на тым адрэзку Заходняй Дзвіны, дзе з поўначы ў яе ўпадае Палата, а з поўдня — Ула і Ушач. Выгаднае геаграфічнае становішча займаў Віцебск. Тут у Заходнюю Дзвіну ўпадае Лучоса, блізка падыходзіць вярхоўе ракі Ловаць, а далей знаходзіцца вусце ракі Каспля. Горад Полацкай зямлі Усвяты ўзнік там, дзе пачынаўся волак паміж Ловаццю і ракой Усвячай, якая ўпадае ў Заходнюю Дзвіну.[7]

Археолаг Л.В.Аляксееў выказаў меркаванне, што Друцк узнік у гушчы крывіцкіх паселішчаў, якія існавалі ў міжрэччы Друці і Усвейкі (Усвіж-Бук), дзе праходзіў сухапутны волак з басейна Заходняй Дзвіны ў басейн Дняпра. На гэтым волаку сяліліся «валачане», якія мелі цяглавую жывёлу, «колы» і іншыя прыстасаванні для транспарціроўкі грузаў па волаку. Таму тут да нашага часу захаваліся назвы вёскі Пярэвалачня (перавалаквалі судны) і некалькіх населеных пунктаў з назвай Талачын (збіраліся на талаку). Волак прыцягваў увагу вярхоў грамадства. Таму і збудавалі тут крэпасць, якая дала пачатак гораду Друцк.[8]

Для высвятлення адрознення горада ад сельскага паселішча можна прапанаваць наступныя асноўныя крытэрыі: выкананне населеным пунктам, вядомым па летапісах, ролі цэнтра ўлады над мясцовай акругай; наяўнасць у гэтым пункце дзядзінца і пасада, прычым плошча пасада значна перавышае дзядзінец (град); наяўнасць значнай часткі насельніцтва, якое займалася гандлёва-рамеснай дзейнасцю і ў нейкай ступені было адарвана ад земляробства; існаванне ў населеным пункце сфарміраванай гарадской ці пасадскай абшчыны. Упамінанне ў летапісе — найважнейшыя зыходныя звесткі для вызначэння колькасці гарадоў усходніх славян, хоць яны і не заўсёды верагодныя. Сам факт такога ўпамінання — пацверджанне выканання населеным пунктам адміністрацыйнага, як правіла, умацаванага цэнтра акругі або воласці.

Правамерна лічыць, што разам з узнікненнем усходнеславянскіх гарадоў з'явілася неабходнасць палітычнага ўладкавання ў іх у выглядзе абшчыны. Ранняя гарадская абшчына шмат у чым паўтарала свой сельскі прататып. Гісторыкі справядліва знаходзяць абшчынную структуру ў гарадах, пачынаючы з самага старажытнага перыяду іх існавання.

Акрамя сацыяльна-гістарычных крытэрыяў, гісторыкі выкарыстоўваюць і археалагічныя даследаванні, якія пацвярджаюць гарадскі характар паселішча. У адрозненне ад вёскі горад уяўляе сабой значную канцэнтрацыю жылых, вытворчых і іншых збудаванняў, іх комплексаў, выяўленых пры раскопках. Спецыфічны культурны пласт, што змяшчае вялікую колькасць шкляных бранзалетаў, прывазных паўднёвых амфар, шыферных праселкаў, а таксама прысутнасць у ім пісалаў, крыжоў-энкалпіёнаў, бранзалетаў-наручаў, пячатак, манет, скарбаў і іншых прадметаў можа служыць дадатковай прыкметай горада.

Сярэдневяковы ўсходнеславянскі горад даследчыкі вызначаюць таксама з дапамогай паняцця прыбавачнага прадукту, які выраблеўся ў сельскай акрузе, а канцэнтраваўся, перапрацоўваўся і пераразмяркоўваўся ў горадзе. Рамесная вытворчасць у горадзе таксама давала прыбавачны прадукт і ён, трэба думаць, меў для эканомікі горада не менш важнае значэнне, чым прыбавачны прадукт, што пасту-

паў сюды з вёскі. У горадзе, акрамя промыслаў, частка насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай і прыбавачны прадукт гэтых заняткаў тут пераразмяркоўваўся. Значная частка прыбавачнага прадукту перапрацоўвалася і пераразмяркоўвалася ва ўмацаваных дварах замкавага тыпу.

Паводле ўсіх адзначаных крытэрыяў Друцк адпавядае паняццю сярэднявечнага горада 10—13 ст.

**Прыгода, якая пачалася з Друцка.** У летапісе пад 862 годам упершыню ўпамінаецца Полацк і яго воласць. Гэта было ранняе дзяржаўнае ўтварэнне. Першым гістарычна вядомым князем у Полацку названы Рагвалод. Полацкае княства існавала як самастойная дзяржава, у якой асноўным насельніцтвам былі прабеларускія плямёны крывічоў-палачан. Наўгародскаму князю Уладзіміру Святаславічу, які змагаўся са сваім братам Яраполкам за ўладу ў Кіеве, удалося захапіць Полацк. Рагвалод з двума сынамі быў забіты, а яго дачка Рагнеда прымусова стала жонкай Уладзіміра. Пазней яна зрабіла няўдалы замах на жыццё Уладзіміра і была выслана з Кіева разам з сынам Ізяславам на сваю «вотчыну» ў Полацкую зямлю. Горад Ізяслаў (Заслаўе), у які яны былі выселены, атрымаў сваю назву ад імя маладога князя Ізяслава.

У летапісным апавяданні пра забойства Рагвалода, змешчаным пад 980 годам, летапісец падкрэсліў, што Уладзімір быў тады зусім малады і знаходзіўся ў язычніцтве. Ці былі хрысціянамі Рагвалод і Рагнеда ў той час, застаецца невядомым. Напярэдадні драматычных падзей у Полацку Рагнеду вырашылі аддаць замуж у Кіеў за Яраполка, які спачувальна адносіўся да хрысціянскай веры. Мусіць, са спачуваннем ставіліся да новай рэлігіі і ў полацкай княжацкай сям'і.

У 988 г. Уладзімір Святаславіч абвясціў хрысціянства рэлігіяй Кіеўскай дзяржавы. Хутка Ізяслаў, сын Рагнеды і Уладзіміра, пачаў княжыць у Полацку. Царкоўныя гісторыкі сцвярджаюць, што ў 992 г. ў Полацку ўзнікла епархія — тэрытарыяльная царкоўная акруга, якой павінен быў кіраваць епіскап. Пра пашырэнне ў Полацку хрысціянства ўскосна сведчыць характарыстыка Ізяслава, змешчаная ў летапісе, дзе гаворыцца, што ён быў вельмі набожны і адукаваны, чытаў хрысціянскія кнігі. Напэўна, Ізяслаў Полацкі меў адносіны да задумы будаўніцтва царквы ў Друцку. Але ён нечакана памёр маладым, не пабачыўшы збудаванага ў 1001 г. храма. У выніку смерці Ізяслава распаўсюджанне новай веры ў Полацкай зямлі замарудзілася.

Даравальны запіс у Друцкім Евангеллі пачынаецца словамі: «В лето 6509 (1001 год) створена бысть церкви сия святая Богородица вь граде во Дрютьсце...». Гэты запіс (таксама як і археалагічныя даследаванні) сведчыць, што горад Друцк існаваў на некалькі дзесяткаў гадоў раней, чым звесткі пра яго трапілі ў летапіс. Невыпадкова, што тут была пабудавана царква — адна з першых у Полацкай зямлі.

Пасля Ізяслава ў Полацку княжылі Брачыслаў [1003—1044 гады], Усяслаў [1044—1101 гады] і шматлікія іх сыны, унукі і праўнукі. Старэйшы з сыноў Усяслава — Барыс княжыў у Друцку і Полацку. Існаванне княжацкай дынастыі, правы якой захоўваліся на працягу стагоддзяў, — бясспрэчная прыкмета дзяржаўнасці Полацкай зямлі, таксама як і значнага месца Друцка (валоданне старэйшага сына княжацкай дынастыі) у яе палітычнай гісторыі.

Паміж Полацкам і Кіевам адбывалася барацьба, якая працягвалася з перапынкамі больш чым 100 гадоў (у ёй прымалі ўдзел і князі Друцка). Полацкія князі двойчы займалі Ноўгарад (1021, 1066 гады), змагаліся за Пскоў і Смаленск. Пры Усяславе Брачыславічу Полацкае княства дасягнула найбольшай магутнасці. У 1067 г. адбылася крывавая бітва на Нямізе Усяслава з кіеўскімі князямі.

Полацкі князь Брачыслаў Ізяславіч.



У 1077 г. зноў пачынаюцца сутычкі Усяслава Чарадзея з паўднёварускімі князямі. Уладзімір Манамах разам са сваім бацькам Усеваладам хадзіў на Полацк вайной у 1077 г., але пацярпеў няўдачу. Праз год паход быў паўтораны.

Усяслаў Полацкі не заставаўся ў даўгу. Ён напаў на Смаленск і спаліў яго. Тады Уладзімір Манамах у 1078 г. яшчэ раз жорстка спустошыў Полацкую зямлю, як ён сам занатаваў у сваім «Павучанні» нашчадкам: «У тым паходзе ўслед за Усяславам спаліў я зямлю (Полацкую), спустошыў яе да Лукомля і Лагожска ды супраць Друцка ваюючы, (вярнуўся) у Чарнігаў».[9] Значыць, Друцк у 1078 г. быў разрабаваны і спалены, калі Манамах з карнага паходу вяртаўся ў Чарнігаў, магчыма, што Друцкі замак ён не змог узяць.

Упамінанне Друцка ёсць і ў летапісе «Аповесць мінулых гадоў», якое адносіцца да 1092 г. Прывядзем яго поўнасцю ў перакладзе на сучасную беларускую мову: «У год 6600 (1092 год) незвычайны цуд быў у Полацку. У наваджэнні д'ябальскім сярод начы быў тупат, стагнала апоўначы, гойсалі як людзі д'яблы па вуліцы. Калі хто-небудзь выходзіў з дому, жадаючы паглядзець, дык яго адразу нябачна паражалі д'яблы. І ад таго (людзі) паміралі, і не адважваліся яны выходзіць з дамоў. Затым жа пачалі (д'яблы) днём з'яўляцца на конях, але не бачна іх саміх, а (былі) бачны коней іх капыты, і так паражалі яны людзей у Полацку і яго воласці. Таму і гаварылі людзі: «Мерцвякі (навье) б'юць палачан». Гэта прыгода пачалася з Друцка». У сувязі з больш верагоднымі і значнымі падзеямі Друцк неаднаразова ўпамінаецца і ў іншых летапісах, напрыклад, у Іпацьеўскім летапісе — 9 разоў (Полацк — 10, Мінск — 8, Віцебск — 6), што ўскосна падкрэслівае яго ролю і значнасць у сістэме гарадоў і княстваў Полацкай зямлі.[10]

**Часовае ўзвышэнне Мінска і лёс Друцка.** Усяслаў Чарадзей быў найбольш магутным і апошнім князем, які валодаў усёй Полацкай зямлёй. Ён меў шасцёра сыноў: Барыса (Рагвалода), Рамана, Давыда, Глеба, Расціслава, Святаслава (Георгія). Відаць, яшчэ пры жыцці Усяслаў раздаў у кіраванне сынам асобныя гарады Полацкага княства. Пасля яго смерці з Полацкай зямлі пачалі вылучацца ўдзелы. У першай палавіне 12 ст. ўтварыліся Мінскае і Ізяслаўскае ўдзельныя княствы.[11] Можна меркаваць, што Віцебскае, Друцкае і Лагойскае княствы ствараліся адначасова. Невядома месца размяшчэння і час узнікнення Стрэжаўскага і Гарадзецкага княстваў, пра якія ёсць паведамленні ў летапісе. Але прастол у Полацку лічыўся галоўным і горад працягваў заставацца буйнейшым палітычным цэнтрам ва ўсім



Друцкае наваколле.

рэгіёне. Паміж нашчадкамі Усяслава адбывалася вострая міжусобная барацьба, якую выкарыстоўвалі кіеўскія князі, спадзеючыся падпарадкаваць сабе Полацкую зямлю, але гэта не мела поспеху.

Каму з сыноў Усяслава дастаўся Полацк дакладна невядома. Можна меркаваць, што ім быў Барыс. Як паведамляў В.Н.Тацішчаў (па невядомых крыніцах) у 1102 г. Барыс Усяславіч зрабіў паход на яцвягаў. Вярнуўшыся ў Полацкую зямлю пасля перамогі над імі, ён заснаваў горад Барысаў, які назваў сваім імем.[12] Верагодна, што Усяслаў Полацкі пры жыцці накіроўваў у больш значныя гарады сваіх старэйшых сыноў у якасці пасаднікаў. Пасля смерці Усяслава яго сыны станавіліся самастойнымі валадарамі асобных удзельных княстваў. Паміж князямі, у т.л. Барысам і Глебам, адбывалася міжусобная барацьба. Стаўшы князем у Мінску, Глеб, напрыклад, накіроўваў усю энергію на ўмацаванне і пашырэнне Мінскага княства, адпаведна Барыс і яго нашчадкі ўмацоўвалі Друцк.

У 1105 годзе (у Іпацьеўскім летапісе — у 1104 годзе) на Мінск напала аб'яднанае войска паўднёва-рускіх князёў. Кіеўскі князь Святаполк накіраваў супраць Глеба ваяводу Пуцяту, Уладзімір Манамах — свайго сына Яраполка, Чарнігаўска-северскі князь Алег Святаславіч хадзіў сам, «поемше» (узяўшы) з сабой Давыда Усяславіча. Паход на Мінск не меў поспеху. Глеб Усяславіч здолеў адбіць напад. Узнікае пытанне, чаму ў гэтым паходзе ўдзельнічаў Давыд Усяславіч, родны брат мінскага князя Глеба. Давыд не меў удзельнага княства і, відаць, разлічваў атрымаць яго з дапамогай паўднёва-рускіх князёў. Невыпадкова ў пераліку князёў, якія

ўдзельнічалі ў паходзе на полаўцаў у 1103 г. ў Лаўрэнцьеўскім летапісе Давыд названы сярод маладых князёў, большасць з якіх былі ізгоямі (не мелі ўласных уладанняў).[13]

У сваю чаргу Глеб Усяславіч імкнуўся пашырыць свае ўладанні. Ён захапіў у 1116 г. частку зямлі дрыгавічоў, спаліў іх горад Слуцк і забраў людзей у палон. Незадоўга да гэтага Уладзімір Манамах стаў вялікім князем кіеўскім. Паводзіны мінскага князя турбавалі яго. Больш таго, Глеб не хацеў прызнаваць сябе ні ў чым вінаватым і абвінавачваў самога Уладзіміра Манамаха. У падпарадкаванні Глеба ці ў саюзе з ім у той час былі гарады Друцк, Орша, Копысь.

На Мінскае і Друцкае княствы быў накіраваны ўдар шматлікага войска з трох бакоў: смаленскі князь Вячаслаў, сын Манамаха, захапіў Оршу і Копысь; аб'яднанае войска Давыда і другога сына, князя пераяслаўскага — Манамаха Яраполка ўзяло прыступам Друцк; сам Уладзімір Манамах накіраваўся на Мінск і аблажыў горад. Двухмесячная аблога не прынесла поспеху. Але Манамах наважыўся перамагчы, што б там ні было. Ён загадаў будаваць у сваім стане трывалае зімняе жыллё.

Пабачыўшы прыгатаванне да працяглай аблогі, Глеб Усяславіч накіраваў паслоў да Манамаха, які згадзіўся на мірныя перагаворы. Мінскі князь выйшаў з горада са сваімі дзецьмі і дружынаю да Манамаха і паабяцаў ва ўсім яго слухацца. Вялікі князь кіеўскі павучаў Глеба, як ён павінен паводзіць сябе, і пакінуў яму Мінск, а сам вярнуўся ў Кіеў.

Аднак другі ўдзельнік пахода, пераяслаўскі князь Яраполк, не вярнуў захопленых у палон жыхароў Друцка, а перасяліў іх у Пераяслаўскае княства, дзе пабудаваў для іх горад Жэлні. Яраполк Уладзіміравіч скардзіўся на малую населенасць свайго княства, якое заўсёды спусташалі полаўцы.

Між тым непакорны Глеб нядоўга выконваў наказ Манамаха. У 1117 г. ён пачаў заваёўваць смаленскія ды наўгародскія землі. Зноў узнік канфлікт з Уладзімірам Манамахам, які паслаў свайго сына Мсціслава ўціхамірваць мінскага князя Глеба Усяславіча. Войскі Мсціслава асадзілі Мінск. Глеб трапіў у палон і яго адправілі ў Кіеў, дзе ён памёр у 1119 г. Пасля гэтых падзей Мінск на пэўны час страціў сваё значэнне важнага палітычнага цэнтра і знік са старонак летапісаў.

**Князь Барыс зноў на полацкім прастоле...** Полацкія князі па-ранейшаму не падпарадкоўваліся вялікаму князю кіеўскаму і нападалі на воласці іншых суседніх князёў. Кіеўскі князь Мсціслаў, сын Манамаха, у 1127 г. арганізаваў незвычайны паход у Полацкую зямлю «на крывічоў».[14] Ён накіраваў сюды галоўныя ваенныя сілы чатырма дарогамі: Вячаслава — з Турава, Андрэя — з Уладзіміра на Валыні, Усеваладка — з Гродна і Вячаслава Яраславіча — з Клецка. Князі са сваімі дружынамі павінны былі ісці да Ізяслаўля (сучаснае Заслаўе). Князь чарнігаўскі Усевалад Вольгавіч з братамі ішоў на Стрэжаў да Барысава, туды ж быў пасланы ваявода Іван Вайцішыч з качэўнікамі-торкамі. Вялікакняжацкі полк на чале з сынам Мсціслава Ізяславам быў накіраваны з Курска на Лагойск. Другі сын вялікага князя Расціслаў з моцным смаленскім войскам рухаўся з усходняга боку да Друцка. Гэта быў самы вялікі кааліцыйны паход кіеўскага князя супроць полацкіх князёў за ўсю гісторыю існавання Полацка.

На полацкім прастоле тады знаходзіўся князь Давыд Усяславіч. Яго сын Брачыслаў быў жанаты з дачкой Мсціслава, арганізатара паходу, і княжыў у Ізяслаўлі (Заслаўе). Лагойск і Ізяслаўль былі захоплены і разрабаваны. У гэты час, пасля палонення князя Глеба, Мінск, верагодна, быў падпарадкаваны паўднёварускім князям Яраславічам, бо інакш войска, накіраванае Мсціславам Уладзіміравічам у По-

лацкую зямлю, не абыйшло б Друцк на паўднёвай яе мяжы. Полацкія князі Усяславічы не маглі згадзіцца са стратай Мінска, і гэта стала прычынай вайны.

Дружыны саюзнікаў набліжаліся да Полацка. Тады палачане выгналі з горада Давыда Усяславіча з сынамі, мяркуючы, што гэта будзе садзейнічаць спыненню вайны і разарэнню «непавінных людзей». На полацкі прастол зноў быў выбраны друцкі князь Барыс Усяславіч. Гэта задавальняла кіеўскага князя Мсціслава, арганізатара паходу. Але Барыс Усяславіч хутка памёр у 1129 г.

Параўнанне падзей 1116 і 1127 гадоў дазваляе меркаваць, што пры першым паходзе князёў у палон была захоплена толькі частка жыхароў Друцка. Большасць дручан, верагодна, схавалася ў лясах, а потым вярнулася на свае папялішчы і даволі хутка адбудавала горад і яго ўмацаванні. Таму ў 1127 г. вялікі князь Мсціслаў паслаў супраць Друцка моцнае войска на чале са сваім сынам Расціславам са Смаленска. Пра лёс Друцка ў 1127 г. летапісы нічога не гавораць.

**Высылка князёў у Візантыю. Дзейнасць полацкага веча.** У адносінах полацкіх князёў з вялікім кіеўскім князем Мсціславам адбыліся далейшыя змены і ўскладненні. У Іпацьеўскім летапісе пра гэтыя падзеі паведамляецца ў двух месцах: коратка пад 1130 і больш дэталёва пад 1140 гг. В.Н.Тацішчаў, які чытаў полацкі летапіс, апісаў іх больш падрабязна пад 1129 г. Мсціслаў заклікаў сваіх васалаў у паход на паганых качэўнікаў-полаўцаў. Полацкія князі з лаянкай ад гэтага адмовіліся. Атрымаўшы перамогу над полаўцамі, Мсціслаў вырашыў пакараць полацкіх князёў. Ён накіраваў сваіх ваявод аб'явіць «усім палачанам ва ўсіх гарадах», што дзеянні іх князёў недапушчальныя. Полацкае веча, асцерагаючыся новага спусташэння Полацкай зямлі, згадзілася з Мсціславам. Князі Давыд, Расціслаў, Святаслаў, два сыны Рагвалода з жонкамі і дзецьмі былі ўзяты ў палон кіеўскім князем і ў лодках сасланы ў Канстанцінопаль. Візантыйскі імператар Іван, зяць Мсціслава, прыняўшы полацкіх князёў, прызначыў іх у войска, якое ваявала супроць сарацын (арабаў), «дзе яны з пахвалой служылі».

Полацкія князі самі знаходзіліся ў некаторым сваяцтве з домам візантыйскага імператара. Адна дачка вялікага князя кіеўскага Мсціслава была замужам за візантыйскім імператарам, другая — за прадстаўніком полацкай княскай дынастыі Брачыславам Давыдавічам, які княжыў у Ізяслаўлі. На працягу доўгага праўлення Іаана II кіеўска-візантыйскія адносіны заставаліся сяброўскімі. Гэтым тлумачыцца і тое, што Мсціслаў вырашыў саслаць полацкіх князёў менавіта ў Візантыю.

У гарады Полацкай зямлі Мсціслаў накіраваў сваіх пасаднікаў, а ў Полацк — свайго сына Ізяслава, актыўнага ўдзельніка паходу 1127 г., які да таго быў князем у Курску.

Пасля смерці Мсціслава Уладзіміравіча (1132 г.) яго месца ў Кіеве заняў брат Яраполк. Ён перавёў з Полацка ў Пераяслаўль Ізяслава Мсціславіча. А ў Полацку замест Ізяслава застаўся трэці Мсціславіч — Святаполк. Але полацкае веча прагнала яго з горада. Вялікі князь кіеўскі Яраполк, упэўніўшыся ў марнасці спроб Манамахавічаў зацвердзіцца ў Полацку, перавёў Ізяслава ў Мінск, які яшчэ заставаўся ў яго падначаленні, і аддаў Ізяславу ў прыдачу Тураў і Пінск.

Полацкае веча ў 1132 г. выбрала сваім князем Васільку Святаславіча, унука Усяслава Полацкага, які, відаць, пазбег высылкі ў Візантыю ці здолеў у хуткім часе адтуль вярнуцца. Дакладна невядома да якога часу быў полацкім князем Васілька. Але, паводле паведамлення пскоўскага летапісу, каля 1138 г. Васілька сустракаў і праводзіў у Полацку князя Усевалада Мсціславіча, які быў прагнаны з Ноўгарада і накіроўваўся ў Пскоў.

У 1138 г. (паводле Іпацьеўскага летапісу ў 1139 г.) Полацк, як і Тураў, удзельнічаў у барацьбе паўднёварускіх князёў на баку кіеўскага князя Яраполка супраць чарнігаўскага князя Усевалада. Мабыць тады, з дазволу Яраполка, полацкія князі былі адпушчаны з Канстанцінопаля на радзіму ў Полацк.

У канцы 1130-х гг. Друцк, як і ўся Полацкая зямля (за выключэннем Копысі і, верагодна, Оршы, якія адыйшлі да Смаленскага княства ў 1116 г.), зноў быў пад уладай мясцовай дынастыі — нашчадкаў Усяслава. Кіеўскія князі больш не рабілі спроб падпарадкаваць сабе гарады Полацкай зямлі. Паўднёварускія князі цяпер аддавалі перавагу ўстанаўленню сваяцкіх сувязей з полацкімі князямі.

Усевалад Ольгавіч, які валодаў Кіевам, адначасова заставаўся і чарнігаўскім князем. У 1143 г. ён ажаніў свайго сына Святаслава на дачцы полацкага князя Васілька — Марыі. Марыя Васількаўна мела значны уплыў на Святаслава, не забываючы інтарэсы і роднага Полацка. У тым жа годзе адбылося і другое вяселле: Ізяслаў Мсціславіч выдаў сваю дачку замуж за Рагвалода Барысавіча. Усевалад Чарнігаўскі, займаючы вялікакняжацкі прастол у Кіеве, вельмі даражыў сувязямі з Полацкам.[15]

**Барацьба друцкага і мінскага князёў за прастол у Полацку.** Да сярэдзіны 12 ст. адносіцца новае ўзвышэнне Мінска. Ён выконваў значную ролю ў планах і разліках полацкіх князёў, якія варагавалі паміж сабой і імкнуліся захапіць суседнія землі і прастол у Полацку.

Мінск стаў галоўным уладаннем унукаў Усяслава Полацкага — Глебавічаў, якія намерваліся зацвердзіцца ў Полацку. Але мінскіх князёў Глебавічаў апярэдзілі князі Барысавічы, якія, як адзначалася вышэй, пасля вяртання са ссылкі княжылі ў Друцку. Каля 1146 г. полацкае веча запрасіла сына Барыса Усяславіча — Рагвалода на прастол у Полацк. Такім чынам, друцкі князь стаў вялікім князем полацкім. Аднак мінскаму князю Расціславу Глебавічу і яго прыхільнікам удалося дамовіцца з прадстаўнікамі полацкага веча, каб захапіць прастол у Полацку. У 1151 г. Рагвалод Барысавіч быў арыштаваны, прывезены ў Мінск і кінуты ў цямніцу. Расціслаў Глебавіч стаў княжыць у Полацку, а яго сын Глеб — у Друцку.

Мінскім князем у гэты час быў брат Расціслава — Валадар. Другі яго брат — Усевалад атрымаў княжанне ў Заслаўі. Такім чынам, Расціславу Глебавічу ў 1158 г. (у летапісе 1159 г.) удалося аб'яднаць значную частку Полацкай зямлі, але на непрацяглы час.[16]

Рагвалод Барысавіч уцёк з Мінска. Пры ўдзеле войска северскага князя Святаслава Ольгавіча ён вярнуў сабе Друцк. У Полацку ў Рагвалода Барысавіча таксама былі прыхільнікі. З іх дапамогай ён у 1158 г. «з гонарам вялікім» зноў заняў полацкі прастол. Расціслаў Глебавіч вымушаны быў уцячы ў Мінск да брата Валадара. Пачалася новая міжусобная вайна.

Рагвалод выступіў супроць Мінска. Дзесяць дзён прастаяў ён з войскам пад яго сценамі і ні з чым вярнуўся назад. Не спадзеючыся на ўласныя сілы, Рагвалод звярнуўся за дапамогай да Кіева. Праз год ваенныя дзеянні аднавіліся. Кіеўскі князь Расціслаў Мсціславіч прыслаў на дапамогу Рагвалоду 600 качэўнікаў-торкаў. Шэсць тыдняў працягвалася аблога Мінска, але Рагвалод так і не здолеў узяць горад. Торкі, паміраючы з голаду, вымушаны былі пешшу вяртацца ў свае паўднёвыя стэпы. Гэтак жа беспаспяхова скончыўся яшчэ адзін паход Рагвалода на Мінск.

У 1161 г. мінскі князь Валадар Глебавіч з дапамогай літоўцаў нанёс цяжкае паражэнне полацкаму князю Рагвалоду пад Гарадцом (дакладнае месцазнаходжанне населенага пункта не высветлена; найбольш верагодна, што ён размяшчаўся там, дзе цяпер знаходзяцца вёскі Высокі Гарадзец і Нізкі Гарадзец Талачынскага раёна,

прыкладна за 40 кіламетраў ад Друцка). Рагвалод уцёк у сваё былое ўладанне Друцк, бо вяртацца ў Полацк ён баяўся з-за таго, што ў бітве загінула шмат палачан. У Полацку са згоды веча стаў княжыць Усяслаў Васількавіч, які да гэтага быў віцебскім князем.

У 1167 г. мінскі князь Валадар Глебавіч выступіў супраць полацкага князя Усяслава Васількавіча. Ён разграміў полацкае войска і, заключыўшы з полацкім вечам умову, замацаваную хрэсным цалаваннем, стаў княжыць у Полацку. Неўзабаве Валадар Глебавіч накіраваўся з дружынай у Віцебск, куды ўцёк пасля паражэння Усяслаў Васількавіч, але даведаўшыся, што на дапамогу віцяблянам ідзе смаленскі князь Раман, вярнуўся ў свае землі. Гэта паражэнне паклала канец дзейнасці мінскага князя Валадара Глебавіча па аб'яднанні Полацкай зямлі, да чаго ён імкнуўся.

**Друцк у сутыкненні з новай кааліцыяй князёў у 1181 г.** На працягу 12 ст. ў Друцку абаснаваліся нашчадкі Усяслава Чарадзея і яго сына Барыса — князі Барысавічы. Тут княжыў Глеб Рагвалодавіч — саюзнік смаленскіх князёў, якія не мірыліся з чарнігаўскімі князямі. У 1181 г. (у Іпацьеўскім летапісе недакладна 1180 г.) на Друцк быў зроблены вялікі кааліцыйны паход князёў, падрабязна апісаны ў летапісе.

Чарнігаўскі князь Яраслаў Усеваладавіч і северскі князь Ігар Святаславіч (будучы герой «Слова пра паход Ігаравы) «сдумали» напасці на Друцк, выкарыстаўшы для гэтага полаўцаў (чаго толькі не здаралася ў палітычным і ваенным жыцці правячых вярхоў у сярэднявеччы). Як і было вырашана, вялікі князь кіеўскі Святаслаў Усеваладавіч, таксама герой «Слова пра паход Ігаравы», вяртаючыся з сынам з Ноўгарада, накіраваўся да горада на Друці, каб падтрымаць чарнігава-северскіх князёў. Напэўна, арганізатары паходу ўжо ведалі, што да іх далучацца полацкі, віцебскі, ізяслаўскі, лагойскі князі і некалькі іншых асоб полацкай дынастыі, а таксама «літва» і «ліб». У адпаведнасці з папярэдняй дамоўленасцю князі падышлі да Друцка. Аднак, паколькі Святаслаў затрымаўся ў Ноўгарадзе, яны абмінулі горад і пайшлі насустрач вялікаму князю Святаславу Усеваладавічу. Тады друцкі князь Глеб Рагвалодавіч палічыў за лепшае адчыніць вароты горада смаленскаму князю Давыду — свайму саюзніку, які паспяшаўся на дапамогу ў Друцк. Яраслаў і Ігар адступілі за раку Друць і стаялі ўздоўж яе берагоў 7 дзён без бітвы. Толькі зрэдку прыязджалі воіны з дружыны Давыда і біліся з непрыяцелем. Нарэшце з'явіўся Святаслаў і войска пачало рыхтавацца да бою. Аднак князь Давыд пакінуў Друцк і ноччу ўцёк у Смаленск, не рызыкнуўшы ўступіць у бой з вялікімі сіламі праціўніка. Святаслаў падпаліў астрог Друцка і, задаволіўшыся гэтым, адпусціў наўгародцаў, якія з ім прыехалі. Аблога Друцка была знята. У чым жа заключаўся сэнс падзей, якія адбыліся, і чаму Друцк не быў узяты? Слушны адказ прапанаваў Л.В.Аляксееў.[17]

З пераходам Давыда Расціславіча ў Смаленск Віцебск дастаўся, мусіць, з удзелам віцебскага веча, брату полацкага князя Усяслава Васількавіча — Брачыславу Васількавічу, гэта значыць быў вернуты Полацкай зямлі. Праціўнік абодвух Васількавічаў Глеб Рагвалодавіч Друцкі быў перацягнуты Давыдам на свой бок. Тым самым ён апынуўся пад пратэктаратам Смаленска, які кантраляваў вельмі важныя друцкі і ўшацкі волакі. Сам кааліцыйны паход тлумачыцца барацьбой за вяртанне гэтага важнага шляху палачанам. Уцёкі смаленскага князя фактычна вырашылі пытанне на карысць Полацка. Таму далейшае супрацьстаянне на Друці зрабілася немэтазгодным і было спынена.

**Пра адносіны паміж Полацкам і Смаленскам.** На ўсходзе Полацкая зямля межавала са Смаленскай. Смаленскія і полацкія крывічы былі аднапляменнікамі, таму межы паміж гэтымі княствамі не вызначаліся стабільнасцю. У склад Смаленскай зямлі ўваходзілі тэрыторыі, каланізаваныя выключна крывічамі.

Позіркі полацкіх князёў былі скіраваны ў бок тэрыторый даўно населеных крывічамі, важных з пункту гледжання атрымання даніны і развіцця гандлю. У 1077 г. Усяслаў Полацкі зрабіў паход на Смаленск — уладанне Манамаха, але не змог тут зацвердзіцца.

У канцы 1160-х гадоў віцебскі князь Усяслаў, заняўшы прастол у Полацку, уступіў у саюз са смаленскім князем. Калі наўгародскі князь Мсціслаў Расціславіч пачаў у 1178 г. паход супроць Полацка, ён быў спынены смаленскім князем Раманам Расціславічам — саюзнікам Полацка. Барацьба паміж полацкімі і смаленскімі князямі за лідэрства над крывічамі фактычна была пастаяннай да пачатку 13 ст. У гэтай барацьбе, як падкрэслівалася вышэй, значную ролю адыгрываў Друцк.

Паводле паведамлення Лаўрэнцьеўскага летапісу, у 1186 г. быў арганізаваны паход на Полацк, у якім удзельнічалі Давыд Расціславіч са Смаленска, яго сын Мсціслаў з Ноўгарада, Васілька Валадаравіч з Лагойска і з Друцка Усяслаў. Палачанам шляхам перагавораў «на сумежжы» ўдалося прадухіліць гэта скардынаванае выступленне.

Былі неаднаразовыя спробы аб'яднаць Полацкую і Смаленскую зямлю з выкарыстаннем сілы. Такія спробы зыходзілі і з боку Полацка, і з боку Смаленска. Так, у 1196 г. (паводле Іпацьеўскага летапісу ў 1195 г.) адбылося сутыкненне паміж полацкім і смаленскім войскам пад Віцебскам, якое скончылася паражэннем смаленскага войска («полочане потоптале стяги Мьстиславли»). У дадзеным выпадку смаленскі тысяцкі Міхалка пацярпеў паражэнне ад палачанаў — саюзнікаў чарнігаўскага князя. У 1222 г. смаляне ўчынілі паход на Полацк і захапілі яго.[18] У 1229 г. быў заключаны дагавор трох усходнеславянскіх гарадоў — Смаленска, Полацка і Віцебска з Рыгай і Гоцкім берагам.

Праз 2 гады пасля смерці смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча полацкі князь Святаслаў Мсціславіч у 1232 г. захапіў Смаленск і знаходзіўся там 6 гадоў.[19] Верагодна, у 1242 г. каля Смаленска з'явіліся мангола-татары, аднак пра захоп імі горада звестак няма. Ёсць ускосныя звесткі, што Смаленск адбіў прыступ захопнікаў, аднак яго магутнасць, верагодна, зменшылася.

У 1250-я гады Полацк і Віцебск адпалі ад Смаленска.

**І назваўся вялікім князем друцкім.** У старажытнарускіх летапісах няма звестак пра Друцк 13 ст. Але выклікае цікавасць паведамленне беларуска-літоўскіх летапісаў. У Хроніцы Быхаўца ёсць такое паведамленне: пасля разгрому Кіева татарамі кіеўскі князь Дзмітрый «пачуў, што мужыкі жывуць без гаспадара, і завуцца driчане. Ён сабраў людзей і пайшоў да Друцка і пасяліўся ў зямлі Друцкай, і зрубіў горад Друцк, і назваўся вялікім князем друцкім».[20]

У 1240 г. Дзмітрый сапраўды быў у Кіеве, але не князем, а тысяцкім. Ён кіраваў абаронай горада пры нападзе татараў. Пасля ўзяцця імі Кіева, як паведамляе Іпацьеўскі летапіс, «Воеводу же Дмитра раненого вывели татары и не убили мужества его ради».

Дзмітрый сапраўды мог пазней трапіць у вечавы горад на Друці, узнавіць тут умацаванні, рыхтуючыся да абароны горада. Мангола-татарскае нашэсце ў 13 стагоддзі абмінула большасць гарадоў на тэрыторыі Беларусі, і яны працягвалі самастойна расці і развівацца. Як сведчаць дадзеныя новых археалагічных раскопак, да гэтых гарадоў, верагодна, адносіўся і Друцк.

# ЛІТАРАТУРА

[1] Жучкевіч В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. С. 110—111.

[2] Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962. С. 229—244.

[3] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1994. С. 70—71.

[4] Штыхаў Г.В. Крывічы (па матэрыялах раскопак курганоў у паўночнай Беларусі). Мн., 1992. С. 94—104.

[5] Коробушкина Т.Н. Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Мн., 1979. С. 20.

[6] Штыхов Г.В. Клады Полоцкой земли IX—XIII вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі: Новыя матэрыялы і даследаванні. Мн., 1993. С. 84—91.

[7] Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв). Мн. 1978. С. 55.

[8] Аляксееў Л.В. Горад на Друці // Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Талачынскага раёна. Мн., 1988. С. 34—35.

[9] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.). Мн., 1998. С. 29—30.

[10] Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мн., 1978. С. 13.

[11] Алексеев Л.В. Полоцкая земля // Древнерусские княжества X—XIII вв. М., 1975. С. 211, рис. 2.

[12] Татищев В.Н. История Российская, т. II. М.; Л., 1963. С. 123.

[13] Данилевич В. Очерки истории Полоцкой земли. Киев, 1896. С. 71—72.

[14] У Лаўрэнцьеўскім летапісе паведамленне змешчана пад 1127 годам, у Іпацьеўскім спісе — пад 1128. Больш абгрунтаванай датай з'яўляецца 1127 год.

[15] Соловьев А.В. Политический кругозор автора «Слова» // Исторические записки, № 25. 1948. С. 83.

[16] Штыхов Г.В. Киев и города Полоцкой земли // Киев и западные земли Руси в IX—XIII вв. Мн., 1982. С. 68—70.

[17] Гл. Алексеев Л.В. Полоцкая земля (Очерки истории Северной Белоруссии) в IX—XIII вв. М., 1966. С. 280—282.

[18] Алексеев Л.В. Смоленская земля в IX—XIII вв. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980. С. 233.

[19] Алексеев Л.В. Смоленская земля в IX—XIII вв. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980. С. 233—234.

[20] Хроника Быховца. М., 1966. С. 36—37.

*В.Л.Насевіч*

# ДРУЦКАЕ КНЯСТВА І КНЯЗІ ДРУЦКІЯ

## Пачатак роду князёў Друцкіх

Друцкае княства было адным з найбольш старажытных і магутных феадальных уладанняў, а яго князі прадстаўлялі найбольш разгалінаваны і ўплывовы род на тэрыторыі Беларусі. Княства ўзнікла ў працэсе драблення Полацкай зямлі — вотчыны славутага Усяслава Чарадзея, што памёр у 1101 г. Магчыма, яшчэ пры яго жыцці Друцк быў вылучаны ва ўдзел аднаму з яго сыноў, верагодна Барысу, аднак непасрэдных звестак пра гэта ў летапісах не захавалася. У 1116 г. Друцк уваходзіў у Менскае княства і належаў сыну Усяслава Глебу, супраць якога ваяваў кіеўскі князь Уладзімір Манамах. Тады, а таксама ў 1128 г. Друцк быў захоплены кіеўскімі войскамі, але ў далейшым застаўся ў складзе Полацкай зямлі.

Непасрэдна Друцкае княства ўпершыню згадваецца ў 1146 г.[1] Праўда, гэтая звестка не зусім надзейная, бо змешчана ў параўнальна познім летапісным зборы. Але пад 1159 г. цэлы шэраг летапісаў аднадушна паведамляе, што «дрючане Глеба от себе выгнаша, а у себе посади Рогволода Борисовича» (унука Ўсяслава).[2] У тым жа годзе Рагвалод уладкаваўся ў Полацку, але ў 1161 г. страціў яго і вярнуўся ў Друцк[3], дзе і застаўся княжыць, напэўна, да сваёй смерці. У 1171 г. ён пакінуў надпіс на вялікім камені паміж сучаснымі вёскамі Галошаўка Талачынскага раёна і Дзятлава Аршанскага раёна: «Господи, помози рабу твоему Василию в крещении именем Рогвалоду сыну Борисову».[4] На падставе гэтага запісу, а таксама летапісных звестак можна меркаваць, што Друцк у пачатку яго палітычнай гісторыі належаў Барысу, потым яго сыну Рагвалоду і іх нашчадкам.

Такім чынам, пра існаванне асобнага Друцкага княства можна ўпэўнена гаварыць з 2-й палавіны 12 ст. У далейшым у старажытнарускіх летапісах у якасці друцкіх князёў прыгадваюцца Глеб (у 1180 г.[5]), Усяслаў (у 1186 г.[6]) і Барыс (у 1195 г.[7] і ў 1198 г.[8]). Напэўна, яны былі нашчадкамі Рагвалода Барысавіча, але непасрэдных звестак пра іх паходжанне ў крыніцах няма.

У 13 — пач. 14 ст. ў Друцкім княстве, верагодна, правіла мясцовая дынастыя, якая ў 1-й палавіне 14 ст. трапіла ў васальную залежнасць ад Гедзіміна ці яго сына Альгерда.

Верагодна, могуць не адпавядаць рэчаіснасці некаторыя згадкі пра князёў Друцкіх, што змешчаны ў расійскіх радаводных кнігах[9] і беларуска-літоўскіх летапісах[10]. Даследаванні сведчаць, што гэтыя летапісы былі створаны ў 15—16 ст., а ўсе звесткі ў іх пра часы татарскага нашэсця 1230-х гадоў (менавіта ў сувязі з гэтымі падзеямі прыгадваюцца князі Друцкія) з'яўляюцца недакладнымі. А вось паведам-




ленне 1340 г. пра князя Івана Друцкага, які служыў маскоўскаму князю Івану Каліце, паходзіць з летапісаў, якія лічацца надзейнымі.[11] Яно сведчыць, што ў той час адзін з прадстаўнікоў гэтага роду пакінуў сваю радзіму і выехаў у Маскоўскае княства. Нашчадкаў у яго, здаецца, не засталося.

Прыкладна ў той жа час яшчэ адзін прадстаўнік роду Друцкіх — князь Васіль Міхайлавіч — зрабіў ахвяраванне на карысць царквы Багародзіцы ў Друцку, надаўшы ёй вёску Мураўнічы (у Талачынскім раёне) і мядовую даніну з воласці Худава (у Крупскім раёне). Запіс пра гэта зроблены на старонцы Друцкага Евангелля. Спецыялісты датуюць гэты запіс прыкладна сярэдзінай 14 ст.[12]

У радаводзе Друцкіх сцвярджаецца, што ў міфічнага родапачынальніка Рамана быў сын Міхаіл, а ў таго — сыны Васіль і Сямён. Абодва яны мелі сыноў з аднолькавым іменем Дзмітрый. Магчыма, памяць пра гэтыя пакаленні захавалася больш-менш адэкватна. Існаванне Васіля Міхайлавіча пацвярджаецца запісам на старонцы Евангелля, а існаванне аднаго з Дзмітрыяў — летапісным паведамленнем пад 1372 г. У той час у складзе войска, пасланага вялікім князем ВКЛ Альгердам на дапамогу яго саюзніку Міхаілу Цвярскому, быў і князь Дзмітрый Друцкі[13]. Гэта сведчыць, дарэчы, што ў часы Альгерда Друцкае княства было ўжо ў складзе Вялікага княства Літоўскага.

Магчыма, Васіль Міхайлавіч жыў яшчэ на пачатку 1380-х гадоў, а магчыма, што ў той час быў іншы Васіль Друцкі. Так ці інакш, але князь з такім іменем засведчыў адну з дарчых грамат сына Альгерда — Андрэя Полацкага, якая датуецца




прыблізна гэтым часам[14]. Тады ж яшчэ адзін князь Друцкі (невядомы стваральнікам радавода) насіў імя Леў. Ён пакінуў след на старонцы граматы, складзенай Вітаўтам Кейстутавічам пад час яго эміграцыі ў Прусію ў 1384 г. (пасля таго, як бацька Вітаўта вялікі князь Кейстут быў забіты па загаду Ягайлы, а сам Вітаўт цудам уцёк з затачэння). Сведкам пры састаўленні граматы быў князь Леў Друцкі, якога Вітаўт называе сваім шваграм[15]. Напэўна, гэты сваяк будучага вялікага князя рушыў за ім у эміграцыю і знаходзіўся ў яго свіце. Далейшы лёс яго невядомы, але нашчадкаў ён, напэўна, не пакінуў.

Радавод паведамляе таксама пра наступнае пакаленне роду Друцкіх: Андрэя, сына Дзмітрыя Васілевіча, і чатырох сыноў Дзмітрыя Сямёнавіча — Сямёна, Івана, Міхаіла і Аляксандра. Усе яны быццам бы ўдзельнічалі ў катастрафічнай для






Пячатка князя Івана Сямёнавіча Бабы.

Пячатка князя Івана Сямёнавіча Пуцяты.

войска ВКЛ бітве з татарамі на рацэ Ворскла ў 1399 г., прычым Андрэй, Іван, Міхаіл і Аляксандр загінулі ў ёй. Многія беларуска-літоўскія летапісы прыводзяць спісы князёў, што загінулі ў бітве на Ворскле. Гэтыя спісы не зусім супадаюць паміж сабой, таму не могуць лічыцца зусім дакладнымі[16]. Але ў іх прыгадваюцца князі Міхаіл і Аляксандр Падбярэзскія, а таксама Іван Дзмітрыевіч Кіндыр і князь Андрэй — «пасынак Дзмітрыя» (напэўна, гэтым Дзмітрыем быў удзельнік бітвы на Ворскле ноўгарад-северскі князь Дзмітрый-Карыбут Альгердавіч, які, паводле радаводаў, другім шлюбам быў жанаты з удавой Дзмітрыя Васілевіча Друцкага і прыходзіўся айчымам сыну апошняга — Андрэю). Даследчык генеалогіі беларуска-літоўскіх князёў Юзаф Вольф выказаў меркаванне, што пад імёнамі князёў Падбярэзскіх і Івана Кіндыра выступаюць трое сыноў Дзмітрыя Сямёнавіча. Сапраўды, недалёка ад Друцка знаходзіўся старажытны маёнтак Падбярэззе, землі якога пазней ляжалі цераспалосна з уладаннямі князёў Друцкіх. У 1-й палавіне 14 ст. род князёў Друцкіх падзяліўся на 2 лініі: старэйшую (ад князя Васіля Міхайлавіча), прадстаўнікі якой выехалі ў Маскву, і малодшую, князі якой засталіся ў Вялікім княстве Літоўскім і Рускім. Пазней пра іх нашчадкаў згадваў камендант Віцебскіх зямель А.Гваньіні, які пісаў, што «многа шляхты рускай тытул княства (Друцкага — аўт.) ужывалі»[17]. Адзін з іх Сямён Дзмітрыевіч у 1401 г. быў сярод дарадцаў Вітаўта, якія засведчылі акт уніі паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім[18]. Пазней Сямён Дзмітрыевіч прыгадваецца ў адным з беларуска-літоўскіх летапісаў — Хронікі Быхаўца — пры апавяданні пра апошні шлюб польскага караля Уладзіслава Ягайлы. Абранніцай караля стала юная князёўна Соф'я Друцкая (Гальшанская), якая была дачкой роднай сястры Сямёна Друцкага — Аляксандры, выдадзенай за князя Андрэя Гальшанскага. Паводле гэтага летапісу, заручыны Ягайлы адбыліся ў Друцку пры непасрэдным удзеле князя Сямёна, у сям'і якога выхоўвалася будучая каралева пасля смерці бацькі і маці[19]. З іншых крыніц вядома, што шлюб Ягайлы з Соф'яй адбыўся ў 1422 г. Калі паведамленне Хронікі Быхаўца дакладнае, то Сямён Друцкі быў яшчэ жывы ў той час, аднак сярод подпісаў знатных асоб на розных дзяржаўных актах 1420-х гадоў яго подпіс не сустракаецца. Дата смерці яго дакладна невядомая. Не засталося звестак і пра тое, хто была яго жонка, з якой ён пакінуў 6 сыноў.

Сыны Сямёна Дзмітрыевіча Друцкага (вялікі князь і кароль Казімір быў іх пляменнікам) неаднаразова згадваюцца ў дакументах 1-й палавіны 15 ст. З іх двое насілі аднолькавае імя — Іван — і адрозніваліся па мянушках: Іван Баба і Іван Пуцята. Даследчыкі лічаць, што адным з іх быў той загадкавы князь Іван Сямёнавіч, які двойчы прыгадваецца (без прозвішча) у граматах 1409 г. ў якасці полацкага намесніка[10]. Пазней абодва Іваны, а таксама трэці брат — Грыгорый (Рыгор) — былі, напэўна, сярод князёў і паноў, якія засведчылі сваімі подпісамі мірнае пагад-



Герб Льва Сапегі.

Такім чынам, размеркаванне частак герба не адпавядае патрабаванням геральдыкі: родавы герб Сапегі; герб бацькі, які ўключае гербы «Сапега» і «Пагоня»; гербы «Друцк» і князёў Талачынскіх.

*А.К.Цітоў.*

Маці Льва Сапегі была не толькі адзінай спадчынніцай згаслай галіны Друцкіх-Канопляў, але адначасова і пляменніцай Васіля Талачынскага. Дзякуючы гэтаму да Сапегаў у рэшце рэшт перайшлі і вотчыны апошняга, якімі пэўны час валодалі Гарнастаі. Рознымі шляхамі бацька Льва Сапегі і ён сам набылі таксама шэраг іншых навакольных маёнткаў.[87] Усяго ў былым Друцкім княстве Леў Сапега валодаў большасцю Худаўскай воласці (яна была прылучана да яго маёнтка Чарэя ў сучасным Чашніцкім раёне), Талачыном з мястэчкамі Славені, Ябланка, Трастынка (Трасцянка), Будаўка, Канапельчыцамі, Крывой, Стараселлем, Коханавам, Круглым, значнай часткай мястэчка Друцк, а ў задняпроўскіх валасцях — Гарамі, Горкамі, Шышавам, Юркавам і часткай воласці Басея з сяльцом і Якаўлевічамі.[88] Да таго ж яму належалі прылеглыя да Друцкага княства з поўдня Цяцерын і Бялынічы, а на ўмовах закладу — Любашанская воласць і (часова) Копысь з Баранню. Сын Льва Сапегі Ян Станіслаў праз шлюб з Ганнай Хадкевіч набыў маёнтак Стары Быхаў, які некалі меў дачыненне да Друцкага княства.

У сярэдзіне 17 ст. латыфундыя Льва Сапегі раздрабнілася паміж яго нашчадкамі, але на яе месцы паўсталі іншыя. У 18 ст. шмат земляў у ваколіцах Друцка апынуліся прылучанымі да латыфундыі князёў Сангушкаў, якім яшчэ з сярэдзіны 16 ст. належалі прылеглыя з поўначы маёнткі Абольцы і Смаляны. У розныя часы Сангушкі набылі колішнія вотчыны князёў Адзінцэвічаў: Грушку з Крупкамі і Шыйкай, Рэпухаў, Гальцова, Багрынава, а таксама Азерцы, Прыхабы, Талачын з Канапельчыцамі. Другая латыфундыя, належачая князям Агінскім, у 18 ст. ўключала ў сябе Стараселле з Коханавым і Лагоўчынам, Бобр, Круглае, а таксама суседнія Цяцерын і Бялынічы. Да Чарэйскага графства Сапегаў па-ранейшаму належала былая Худаўская воласць на поўначы Крупскага раёна. Гэтыя латыфундыі праіснавалі да часу падзелаў Рэчы Паспалітай у 1772 і 1793 гады, калі землі колішняга Друцкага княства адышлі да Расійскай імперыі.

# Найбольш значныя прадстаўнікі роду Друцкіх

З пачатку 15 па канец 18 ст. ў гістарычных крыніцах упамінаюцца каля 150 мужчынскіх прадстаўнікоў роду князёў Друцкіх, якія дзейнічалі на тэрыторыі ВКЛ, і амаль 100 — на тэрыторыі Расіі (калі залічваць да іх і Пуцяціных, паходжанне якіх спрэчнае). Зразумела, далёка не ўсе яны былі прыкметнымі асобамі. Але некаторыя пакінулі яркі след у гістарычных падзеях свайго часу.[89]

У канцы праўлення вялікага князя Казіміра [1440—1492] род Друцкіх, асабліва пасля смерці каралевы Соф'і (1461), страціў тыя пазіцыі, якія меў пры Вітаўце і Свідрыгайле. Часткова гэта было выклікана збегам чыста дэмаграфічных акалічнасцяў: прадаўжальнікі рода ў гэтым калене былі познімі дзецьмі сваіх бацькоў, ці пасля гібелі (смерці) апошніх заставаліся зусім малымі, што не вельмі спрыяла іх кар'еры. Так, на момант ранняй смерці Канстанціна Бабіча (у 1440-я гады) яго сын Андрэй Прыхабскі быў, верагодна, зусім маленькім, бо пачынае прыгадвацца толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў. Ён жыў яшчэ ў 1505 г., калі дасягнуў вяршыні сваёй кар'еры — пасады ашмянскага намесніка. У абставінах жорсткіх войнаў, якія пракатваліся праз Друцк, такі лёс напаткаў і шэраг іншых нашчадкаў калісьці велічнага роду князёў Друцкіх.

Фёдар Бабіч памёр прыкладна ў 1450-я гады. На той момант ні адзін з яго чатырох сыноў (імі былі Сямён Саколінскі, Фёдар Канопля, Васіль Шчарбаты і Іван Азярэцкі) не дасягнуў, здаецца, паўналецця. У далейшым яны не вызначыліся на дзяржаўнай службе. Праўда, Сямён Саколінскі (нарадзіўся прыкладна ў 1430-я гады) быў даволі значным землеўладальнікам. Яму належаў шэраг маёнткаў у Полацкай зямлі: Бобча, Камень, Несіна (у сучасным Лепельскім раёне), Бешанковічы, Крывіна, Мілкавічы (у Бешанковіцкім), якія ў далейшым падзяліліся паміж рознымі адгалінаваннямі яго нашчадкаў-князёў Друцкіх-Саколінскіх. Не выключана, што частка гэтых маёнткаў уваходзіла ў лік тых неназваных уладанняў, што былі нададзены яго бацьку Фёдару пасля Міхаіла Ямантавіча. Прынамсі, родавы маёнтак Ямантавічаў — Бачэйкава — знаходзіўся якраз паміж Несінам і Бешанковічамі. Сямён Саколінскі жыў даволі доўга. Пад час вайны 1512—14 гадоў ён трапіў у маскоўскі палон, дзе, напэўна, і памёр.

Сыны Івана Пуцяты пачынаюць згадвацца гадоў праз 10—15 пасля смерці бацькі, што ўскосна сведчыць пра іх юны ўзрост на той момант. Пра дзяржаўныя пасады Міхаіла і Васіля Пуцяцічаў, а таксама іх дзяцей (Юрыя Міхайлавіча Шышаўскага, Дзмітрыя, Івана, Міхаіла і Алелькі Васілевічаў Горскіх) нічога невядома. Унук Пуцяты Юрый Васілевіч, як ужо згадвалася, у 1500 г. трапіў у маскоўскі палон, адкуль не вярнуўся. А вось Дзмітрый Іванавіч Пуцяціч зрабіў адметную кар'еру — бадай што самую паспяховую ў гэтым пакаленні роду Друцкіх. Упершыню згаданы ў 1467 г. (калі яму было, напэўна, каля 30 гадоў). У 1486 г. ён быў намеснікам Мцэнскага павета на ўсходніх ускрайках ВКЛ, у 1487—88 гадах прыгадваецца як бранскі намеснік, а ў 1492 г. стаў кіеўскім ваяводам, якім і заставаўся да сваёй смерці ў 1505 г. Апрача родавых вотчын (Стараселля, Радчы, Зарэмцаў і інш.), у 1499 г. ён атрымаў ад вялікага князя маёнтак Крошын у Навагародскім павеце і Палажаны ў Любашанскай воласці. Чацвёрты з братоў Пуцяцічаў, Іван, жыў і дзейнічаў у Луцкім павеце, на Валыні (тэрыторыя сённяшняй Украіны). У 1487—89 гады ён прыгадваецца на пасадзе луцкага гараднічага, у 1496 г. — луцкага ключніка, у 1497 г. — луцкага падстаросты. У 1506—1507 гады ён займаў пасаду намесніка Перамільскага павета там жа, на Валыні.

Адзіны сын Грыгорыя Сямёнавіча — Васіль (нарадзіўся прыкладна ў 1420-я гады) — таксама быў звязаны пераважна з украінскімі землямі, дзякуючы свайму шлюбу з дачкой вельмі ўплывовага валынскага баярына Юршы. Звестак пра яго дзяржаўную службу няма. Апошні раз ён прыгадваецца ў 1446 г. У 1488 г. яго сыны Багдан і Васіль, народжаныя недзе ў 1450-я гады, атрымалі ў спадчыну ад сваёй цёткі (другой дачкі пана Юршы) маёнтак Любчу на Валыні, ад якога пачалі тытулавацца князямі Любецкімі. На дзяржаўнай службе яны таксама не вызначаліся.

Сын Васіля Краснага Іван, напэўна, нарадзіўся ў 1440-я гады, незадоўга да смерці бацькі. Жыў ён доўга, бо апошні раз прыгадваецца ў 1516 г., калі склаў сваё завяшчанне. У 1488 г. ён даслужыўся да пасады менскага намесніка (старосты), на якой заставаўся да канца жыцця.

На пачатку 16 ст. пачалася дзейнасць аднаго з самых прыкметных з унукаў Васіля Пуцяціча — Уладзіміра Іванавіча Горскага. Ён нарадзіўся каля 1490 г. і быў жанаты са сваёй аддаленай раднёй — князёўнай Данмітрай, адной з дачок Андрэя Прыхабскага. Праз гэты шлюб ён набыў частку вотчын згаслай галіны князёў Прыхабскіх. У 1515 г. Уладзімір атрымаў тую ж пасаду, якую раней займаў яго цесць — намесніка ашмянскага. На ёй ён прыгадваецца таксама ў 1520 г. Памёр у 1545 г.

У той жа час жыў адзіны ўнук Міхаіла Пуцяціча — Васіль Юр'евіч Талачынскі (нарадзіўся каля 1480 г.), які вышэй ужо неаднаразова прыгадваўся ў сувязі са сваімі шматлікімі вотчынамі. Да яго, нагадваем, перайшла значная частка спадчыны Дзмітрыя Пуцяціча і Івана Васілевіча Краснага. У 1536 г. князь Талачынскі стаў намеснікам Гомельскага замка, толькі што адваяванага ў Маскоўскай дзяржавы. У 1538 г. ён заняў пасаду аршанскага намесніка і заставаўся на ёй да сваёй смерці ў 1546 г.

З нашчадкаў Фёдара Бабіча адзін яго сын, Іван (нарадзіўся ў 1450-я гады), як адзначалася вышэй, у 1508 г. прыгадваецца ў летапісах сярод прыхільнікаў Глінскага, якія з'ехалі ў Расію. Сыны Івана — Андрэй і Сямён Азярэцкія, аднак, засталіся ў ВКЛ і захавалі свае вотчыны. Сямён нічым асаблівым не вызначыўся, а Андрэй Іванавіч Азярэцкі (нарадзіўся каля 1480 г.) ужо ў даволі сталым узросце заняў у 1547 г. пасаду аршанскага намесніка, вакантную пасля смерці Васіля Талачынскага. У 1551 г. ён атрымаў ад вялікага князя маёнтак Дусяты ў Браслаўскім павеце. Памёр князь Андрэй у 1558 г. ў вельмі сталым узросце.

Сярод іншых прадстаўнікоў роду ў гэты час на дзяржаўнай пасадзе вядомы толькі адзін з чатырох сыноў Сямёна Саколінскага — Васіль, які нарадзіўся таксама каля 1480 г. і ў 1510-я гады быў намеснікам воласці Абольцы (сумежнай з друцкімі землямі на поўначы Талачынскага раёна). Неўзабаве вялікі князь Жыгімонт Кейстутавіч падараваў гэтую воласць сваёй жонцы Боне. Пра далейшую службу Васіля Саколінскага, які жыў да пачатку 1530-х гадоў, звестак няма.

Сярод нашчадкаў Івана Бабы, якія засталіся ў Расіі, у канцы 15 ст. дзейнічаў яго ўнук Юрый Васілевіч, які ў 1496 г. быў намеснікам у Пскове, а ў 1499 г. — у Івангарадку. Яго пляменнік Васіль Сямёнавіч Бабічаў быў у 1485 г. намеснікам у Вялікім Ноўгарадзе. Ад яго пайшла наўгародская галіна роду, якая прыкметнай ролі ў далейшым не адыгрывала. Пры Іване Грозным дзейнічалі Андрэй і Фёдар Сямёнавічы. У 1555 г. першы з іх кіраваў камісіяй, якая апісвала Звенігародскі павет, а ў 1566 г. быў ваяводам у Полацку, часова захопленым рускімі войскамі пад час Інфлянцкай вайны. Фёдар Сямёнавіч Друцкі ўдзельнічаў у паходзе на Калывань у 1577 г., у 1581 г. быў асадным ваяводам у Белай на Смаленшчыне, на працягу

1582—1592 гадоў паслядоўна быў ваяводам у Мцэнску, Серпухаве, Арле, Туле, Крапіўне, а ў 1602—1604 гады — у Почапе[90].

У Інфлянцкай вайне царскімі ваяводамі былі некалькі князёў Пуцяціных: Грыгорый Васілевіч — у Порхаве, Арле і Арэшкаве ў 1560-я гады; Грыгорый Давыдавіч — у Нарве ў 1566 г., у Ругадзеве ў 1571 г., у Арэшкаве ў 1574 г.; Міхаіл Міхайлавіч па мянушцы Бык — у Пандзе ў 1579 г., у Пернаве ў 1582 г.; Андрэй Мацвеевіч — у паходзе на Калывань у 1577 г. Але, як ужо адзначалася, іх прыналежнасць да роду Друцкіх праблематычная.

Тым часам у ВКЛ Статут, прыняты ў 1566 г., замацоўваў новую сістэму кіравання, утвораную паводле польскага ўзору. Уводзілася іерархія службовых пасад («урадаў») на дзяржаўным і мясцовым узроўні. Найбольш важнымі былі пасады ваявод і кашталянаў (па адной на кожнае ваяводства), якія давалі права на месца ў Сенаце. У паветах уводзіліся пасады маршалка, падкаморага, харунжага, суддзі земскага з падсудкамі і пісарам, суддзі гродскага з пісарам і інш., якія займаліся найбольш аўтарытэтнымі прадстаўнікамі мясцовай шляхты.

Паводле новага адміністрацыйнага падзелу ўсе абшары колішняга Друцкага княства ўвайшлі ў Аршанскі павет Віцебскага ваяводства. Апрача таго, князям Друцкім-Саколінскім належалі маёнткі ў Полацкім ваяводстве, князям Азярэцкім — Дусяты ў Браслаўскім павеце Віленскага ваяводства, а сынам Грыгорыя Фёдаравіча Друцкага-Горскага (Бурнеўскага), жанатага з князёўнай Тамілай Заслаўскай, ад маці перайшлі маёнткі Лошыца, Прылукі і Снаксарава ў Менскім павеце. Частка маёнткаў князёў Друцкіх-Любецкіх знаходзілася ў Валынскім і Кіеўскім ваяводствах, якія з 1569 г. больш не належалі ВКЛ, а ўваходзілі непасрэдна ў склад Польскага каралеўства («Кароны»). Праз шлюб Багдана Раманавіча Любецкага з літоўскай паненкай Соф'яй Давойнай да яго нашчадкаў перайшоў у 1530-я гады таксама маёнтак Лунін у Пінскім павеце (сучасны Лунінецкі раён).

Першым з князёў Друцкіх даслужыўся да адной з новаўведзеных пасад Павел Юр'евіч Саколінскі, які нарадзіўся каля 1500 г. Ён вызначыўся пад час Інфлянцкай вайны з Расіяй, калі быў ротмістрам войска ВКЛ. За ваенныя заслугі ён у 1565 г. атрымаў у якасці лена (гэта значыць — з наследваннем толькі па мужчынскай лініі, без права продажу) дзяржаўныя маёнткі Лугінавічы і Рубеж у Полацкім ваяводстве. У 1569 г. Павел Саколінскі заняў вышэйшую з павятовых пасад — маршалка Аршанскага павета. Пасля яго смерці каля 1575 г. гэтая пасада перайшла да яго брата Цімафея, які памёр у 1585 г.

Тым часам адзіны сын Паўла, князь Юрый Саколінскі (нарадзіўся недзе ў 1530-я гады), таксама быў адметнай асобай. У 1577 г. ён за ваенныя заслугі атрымаў у кіраванне Азярышчанскае і Усвяцкае староствы на поўначы Віцебскага павета, толькі што вызваленыя ад маскоўскіх войскаў. Неўзабаве ён стаў падкаморым Віцебскага павета. У 1597 г. з дазволу караля ён перадаў Азярышчанскае староства родзічу Міхаілу Міхайлавічу Друцкаму-Саколінскаму, а Усвяцкае — свайму малодшаму сыну Яраславу. У 1601 г. Яраслаў памёр, пасля чаго Усвяцкае староства вярнулася да Юрыя, які кіраваў ім да сваёй смерці ў 1606 г.

Міхаіл Міхайлавіч Саколінскі, да якога ў 1597 г. перайшло Азярышчанскае староства, быў унукам таго Васіля Сямёнавіча Саколінскага, што на пачатку стагоддзя валодаў Аболецкай воласцю. Ён нарадзіўся каля 1550 г., служыў ротмістрам у войску ВКЛ і ў 1591 г. заняў пасаду аршанскага маршалка. Міхаіл быў у ліку тых нямногіх прадстаўнікоў усходнебеларускай шляхты, якія падтрымалі заключаную ў 1596 г. Берасцейскую царкоўную унію. Сам ён перайшоў у пратэстанцкую веру кальвінісцкага вызнання, а ў канцы жыцця стаў каталікам. Першым з князёў

Друцкіх ён даслужыўся да сенатарскіх пасад Рэчы Паспалітай, стаўшы ў 1605 г. віцебскім кашталянам, а ў 1613 г. — полацкім ваяводам. Перад самай смерцю ў 1621 г. ён атрымаў прызначэнне на больш высокую ў дзяржаўнай іерархіі пасаду ваяводы смаленскага.

Родзічам Юрыя і Міхаіла Саколінскіх у трэцім калене былі Януш Багданавіч і Ян Андрэевіч (унукі малодшага з чатырох сыноў родапачынальніка Сямёна Саколінскага — Андрэя). Першы з іх нарадзіўся прыкладна ў 1560-я гады, займаў пасады павятовага ўзроўню: у 1597 г. стаў войскім віцебскім, а ў 1606 г. — падсудкам і падкаморым Полацкага ваяводства, дзе валодаў маёнткам Камень-Астроўна. Памёр ён хутка пасля таго. Стрыечны брат Януша, Ян Андрэевіч, народжаны каля 1560 г. ці крыху пазней, вызначыўся на службе пры двары вялікага князя і ў дзяржаўнай канцылярыі. Змаладу ён быў дваранінам і сакратаром вялікага князя, у 1608 г. заняў месца аднаго з пісараў ВКЛ. Аднак меў і ваенныя заслугі пад час інтэрвенцыі ў Расію ў смутныя 1611—13 гады. За іх ён атрымаў Даўгоўскае і Пералайскае староствы ў Літве, а пазней выслужыў Мсціслаўскае, Радамскае і Старадубскае староствы. Незадоўга да смерці ў 1630 г. Ян Саколінскі быў прызначаны рэферэндам ВКЛ (гэтая даволі значная пасада ў дзяржаўным апараце, аднак, не давала права на месца ў Сенаце).

Іншыя галіны роду Друцкіх у 2-й палавіне 16 ст. не мелі такіх значных дасягненняў. Род Азярэцкіх быў прадстаўлены ў той час сваімі апошнімі прадстаўнікамі — Багданам Андрэевічам (каля 1530—1601) і яго пляменнікам Васілём Васілевічам (каля 1540—1607), якія нічым асаблівым не вызначаліся. Прадстаўнікі Друцкіх-Любецкіх у гэты час паміралі маладымі, і іх галіна зусім не была прадстаўлена на дзяржаўнай службе.

Галіну Друцкіх-Горскіх прадстаўлялі сыны Грыгорыя Фёдаравіча Бурнеўскага — Пётр (таксама нічым не прыкметны, памёр каля 1580 г.), Фёдар і Ян. З іх Фёдар, які нарадзіўся ў 1550-я гады, быў удзельнікам Інфлянцкай вайны, а ў 1589 г. атрымаў на ленным праве невялікае Цэльскае староства са складу колішняй Свіслацкай воласці. Памёр у 1615 г. Ян нарадзіўся ў 1566 г. Адзіны з братоў ён займаў даволі значную пасаду — з 1605 г. да сваёй смерці ў 1619 г. быў аршанскім маршалкам. І Фёдар, і Ян былі ўжо каталікамі.

Бліжэй да сярэдзіны 17 ст. наступнае пакаленне Горскіх дасягнула пэўных вышынь. Сынам Фёдара быў Грыгорый Юрый (Грэгар Ежы), які нарадзіўся каля 1585 г. і атрымаў пасля бацькі леннае Цэльскае староства. У 1635 г. ён быў прызначаны аршанскім старостам, а ў 1650 г. дасягнуў сенатарскай пасады — стаў ваяводам мсціслаўскім. Аршанскае староства ён са згоды караля саступіў старэйшаму сыну Міхалу, які праз год памёр. Грэгар Ежы памёр у 1659 г., пад час вялікай вайны з Расіяй, калі ўсе маёнткі былі заняты рускімі войскамі. Яго стрыечны брат Юрый (Ежы), старэйшы сын Яна, нарадзіўся каля 1600 г., з 1639 г. быў прызначаны харунжым Аршанскага павета, а праз год атрымаў таксама староства Упіцкае ў Літве. Заўчасная смерць у 1643 г. паклала канец яго кар'еры.

Князі Любецкія ў гэты перыяд былі прадстаўлены двума лініямі. Адну з іх утварыў Іван Паўлавіч (унук Януша, праўнук Багдана Раманавіча), які ў 1625—34 гады прыгадваецца на нязначнай пасадзе аршанскага падстаросты. Унук Івана Раманавіча Павел Рыгоравіч тады ж быў суддзёй земскім Луцкага павета на Валыні.

Галіна Друцкіх-Саколінскіх па-ранейшаму была самай шматлікай і ўплывовай. Сын полацкага і смаленскага ваяводы Міхала, Крыштаф Міхал Саколінскі (каля 1580—1639 гадоў) з 1607 г. быў вялікакняжацкім сакратаром. Пасля смерці бацькі ў 1621 г. да яго перайшло Азярышчанскае староства. Неўзабаве ён дасягнуў сена-

тарскіх пасад, стаўшы ў 1623 г. кашталянам мсціслаўскім, а ў 1625 — кашталянам полацкім. Праўда, ваяводскай пасады ён, у адрозненне ад бацькі, так і не дасягнуў. З яго трох сыноў і пяці братоў ніхто больш так высока не ўзняўся. Толькі пазней, ужо пад час вайны з Расіяй, пляменнік Ян Антоні (сын Філона) заняў у 1655 г. пасаду мсціслаўскага кашталяна, якая была ў той час намінальнай, бо ўвесь Мсціслаўскі павет быў ужо заняты рускімі войскамі. Памёр ён на гэтай жа пасадзе ў 1662 г., маючы каля 45—50 гадоў.

З сыноў Януша Багдановіча Саколінскага старэйшы, Стэфан Караль, у 1630—38 гады займаў тую ж пасаду, што раней яго бацька, — полацкага падкаморыя. Малодшы сын, Самуэль Станіслаў, народжаны ў 1570-я гады, валодаў шэрагам маёнткаў у далучаным да ВКЛ у 1612 г. Смаленскім ваяводстве. У 1634 г. ён быў смаленскім падваяводам, з 1637 г. — смаленскім падкаморым. Калі ў 1654 г. рускае войска зноў заняло Смаленшчыну, сам Стэфан Караль і яго малодшы сын Вінцэнт з'ехалі на ўсход, а старэйшы сын, Казімір Самуэль, прыняў расійскае падданства і ахрысціўся ў праваслаўе пад імем Пятра Самойлавіча. Яго нашчадкі ў далейшым утварылі яшчэ адну рускую галіну роду Друцкіх-Саколінскіх. Самуэль Станіслаў памёр каля 1660 г.

Дзве старэйшыя лініі князёў Саколінскіх у гэты перыяд не ўзнімаліся вышэй павятовага ўзроўню. Лінію ленных уладальнікаў Лугінавічаў, распачатую ў час Інфлянцкай вайны Паўлам Юр'евічам, працягваў яго ўнук Ян Юр'евіч (каля 1570—1649 гадоў), які з 1622 г. быў аршанскім маршалкам. У 1649 г. ён прадаў родавы маёнтак Саколіна князю Галоўчынскаму. Яшчэ пры яго жыцці, у тым жа 1646 г., яго старэйшы брат Еранім Альбрэхт, стаў аршанскім земскім пісарам, але вышэй гэтай другараднай пасады так і не ўзняўся да сваёй смерці ў 1658 г. Другі сын, Юрый (Ежы), з 1635 г. займаў таксама не вельмі значную пасаду аршанскага падчашага. Памёр ён, здаецца, яшчэ пры жыцці бацькі.

У лініі нашчадкаў Цімафея Юр'евіча Саколінскага яго ўнук Яраслаў Яраслававіч (каля 1570 — пасля 1621) займаў у 1610-я гады сціплую пасаду полацкага падваяводы. З чатырох яго сыноў адзін стаў прыкметным дзеячам каталіцкай царквы, а другі — уніяцкай. Старэйшы сын Ян Казімір, народжаны каля 1600 г., быў католікам і займаў духоўныя пасады спярша смаленскага, а потым віленскага каноніка. Брат апошняга Мікалай Мітрафан, які нарадзіўся ў 1610-я ці 1620-я гады, быў архімандрытам базыльянскага кляштара ў Браславе, а з 1671 г. — смаленскім уніяцкім арцыбіскупам. Памёр ён у 1690 г. Іх пляменнікі Якуб і Дзмітрый (сыны брата Юрыя, які памёр ў 1650 г.), пад час вайны ў 1654 г. прынялі расійскае падданства.

Вайна прынесла жудаснае разбурэнне і выклікала глыбокі заняпад Рэчы Паспалітай. Яе палітычны лад у наступныя дзесяцігоддзі вызначаўся шляхецкай анархіяй і барацьбой за ўладу магутных магнацкіх груповак. Князі Друцкія 2-й палавіны 17 — пачатку 18 ст. былі даволі тыповымі прадстаўнікамі тагачаснай беларускай шляхты — спаланізаванымі, не вельмі адукаванымі і не вельмі заможнымі. Варта адзначыць двух апошніх прадстаўнікоў лугінаўскай лініі Друцкіх-Саколінскіх, якімі былі сын Ераніма Альбрэхта Міхал Леан (каля 1630—1690), чашнік аршанскі з 1654 г. і маршалак аршанскі з 1665 г., пазней — пісар ВКЛ, і сын апошняга Караль Міхал (каля 1660—1713), які быў даволі значным землеўладальнікам. Апрача леннага Лугінавіцкага маёнтка, праз шлюб з Евай Шверынавай ён набыў Даўгінава ў Ашмянскім павеце, а ў 1692 г. купіў у пана Сапегі суседні з Даўгінавам маёнтак Ілле. Пасля бацькі да яго на ленным праве перайшло атрыманае апошнім у 1685 г. Вяляціцкае староства каля Барысава. У 1703 г. Караль Міхал Саколінскі

стаў кашталянам смаленскім (гэтая пасада была намінальнай, бо Смаленшчына была ў складзе Расіі, але давала права на месца ў Сенаце). Караль Міхал перажыў адзінага сына, і з яго смерцю гэтая лінія спынілася.

У іншай лініі (камена-астроўненскай) прыкметнай асобай быў Леан Лаўрэнці Друцкі-Саколінскі (каля 1680—1726), сын Фларыяна і праўнук Крыштафа, кашталяна мсціслаўскага. Ён быў духоўнай асобай, дзеячам уніяцкай царквы: з 1713 г. — архімандрытам гродзенскага базыльянскага кляштара, а з 1718 г. — смаленскім арцыбіскупам. Ён, а таксама трое яго нічым не прыкметных братоў (Казімір, Юзаф і Кіпрыян) былі апошнімі вядомымі прадстаўнікамі гэтай лініі.

Галіна князёў Друцкіх-Горскіх таксама скончылася на пачатку 18 ст. Яе апошнімі прадстаўнікамі былі ўнукі мсціслаўскага ваяводы Грэгара Ежы — Казімір і Міхал Антоні, народжаныя прыкладна ў 1650-я — 60-я гады. З іх Міхал Антоні займаў пасаду падкаморыя ў Мінскім павеце і памёр пасля 1721 г.

Здаецца, што з гэтага часу адзінай вядомай галіной, якая працягвала існаваць у ВКЛ, была галіна князёў Любецкіх. Яе прадстаўнік Мікалай (каля 1630 — да 1678) валодаў Лунінам і Пагостам у Пінскім павеце, а таксама праз шлюб з Крысцінай Сцяцкевіч-Заверскай набыў вялікі маёнтак Любавічы ў Аршанскім павеце, на мяжы з Расіяй. Яго сын Шыман, што нарадзіўся ў 1660-я гады, у 1697 г. быў паслом ад Аршанскага павета на вальным сойме Рэчы Паспалітай, потым займаў пасаду стольніка оўруцкага (у Кіеўскім ваяводстве). Перад смерцю ў 1710 г. ён атрымаў прызначэнне на пасаду мінскага кашталяна, але заняць яе не паспеў. Яго брат Багдан Казімір і сын апошняга Юзаф (стольнік аршанскі ў 1728 г.) прыкметнай ролі не адыгрывалі.

Апошні ўсплеск князёў Любецкіх прыйшоўся на апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай, калі дзейнічаў сын Юзафа Францішак (каля 1735—1806). У 1764 г. ён быў паслом ад Пінскага павета на вальны сойм, у 1765 г. стаў суддзёй земскім, у 1773 г. — харунжым, а ў 1782 г. — маршалкам Пінскага павета. У 1792 г. стаў кавалерам ордэна Белага Арла. Быў удзельнікам прарасійскай Таргавіцкай канфедэрацыі. Ужо ў час, калі ў працэсе другога падзелу Рэчы Паспалітай Пінскі павет быў заняты рускімі войскамі, Францішак Друцкі-Любецкі атрымаў у 1793 г. пасаду пінскага кашталяна, створаную рашэннем азначанай канфедэрацыі. У 1794 г. пабудаваў у сваім маёнтку Лунін мураваны касцёл. Неўзабаве ў 1795 г. Рэч Паспалітая спыніла сваё існаванне. Францішак перайшоў у расійскае падданства, захаваў свае маёнткі і ў 1799 г. нават купіў у Сапегі маёнтак Чарлёну ў Гродзенскім павеце. У той час імператар Павел узнавіў дзеянне на тэрыторыі Беларусі Статута 1588 г. Была адноўлена і пасада павятовага маршалка (адпавядала прадвадзіцелю дваранства ў расійскіх губернях). Яе ў 1799 г. заняў старэйшы сын Францішка Ануфрый, а пасля яго ранняй смерці ў 1802 г. — другі сын Караль. Аднак і ён памёр заўчасна, у 1811 г., ва ўзросце каля 35 гадоў.

Трэці сын Францішка, Францішак Ксаверы Друцкі-Любецкі (1778—1846), быў адметным дзеячам у часы Расійскай імперыі. Ён вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім кадэцкім корпусе, удзельнічаў у 1799 г. ў паходзе А.В.Суворава ў Італію і Швейцарыю. Пасля кантузіі выйшаў у адстаўку. З 1812 г. па чарзе пасля братоў заняў пасаду пінскага маршалка. Пад час вайны 1812 г. выступаў на баку Расіі. У 1816 г. часова быў прызначаны цывільным гродзенскім губернатарам, а з 1826 г. стаў міністрам скарбу (фінансаў) у Царстве Польскім, створаным пад эгідай Расіі[91].

## Літаратура і архіўныя крыніцы


[1] ПСРЛ. Т. 7. СПб., 1859. С. 242.

[2] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 493; ПСРЛ. Т. 7. СПб., 1859. С. 67—68; ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 64; ПСРЛ. Т. 9. М., 1965. С. 211—212.

[3] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 519; ПСРЛ. Т. 7. СПб., 1859. С. 75; ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 71.

[4] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Талачынскага раёна. — Мн., 1988. С. 41—42.

[5] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 620—621.

[6] ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 93; ПСРЛ. Т. 10. М., 1965. С. 17.

[7] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 691; ПСРЛ. Т. 10. М., 1965. С. 28.

[8] ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 98.

[9] Долгорукий П. Российская родословная книга. Т. 1. СПб., 1854. С. 131.

[10] ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 24—25, 130; ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 130—131, 146, 148, 217.

[11] ПСРЛ. Т. 7. СПб., 1859. С. 206; ПСРЛ. Т. 10. М., 1965. С. 211; ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 28.

[12] Тихомиров М.Н. Описание Тихомировского собрания рукописей. — М., 1968. С. 9.

[13] ПСРЛ. Т. 4. СПб., 1848. С. 67; ПСРЛ. Т. 11. М., 1965. С. 17.

[14] Полоцкие грамоты / Сост. А.Л.Хорошкевич. — М., 1977. Вып. 1. С. 43—44.

[15] Monumenta medii aevi historica, res gestes Poloniae illustrantia. T. 6: Codex epistolaris Vitoldi, Magni Ducis Lithuaniae (1376—1430) — Cracoviae, 1882. P. 4, 32.

[16] ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 97, 148.

[17] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 3. С. 295.

[18] Acta unii Polski z Litwą. 1385—1791 / Wyd. S.Kutrzeba i W.Semkowicz. — Kraków, 1932.

[19] ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 149.

[20] Полоцкие грамоты / Сост. А.Л.Хорошкевич. — М., 1977. Вып. 1. С. 114—118. У каментарыях да гэтых актаў А.Л.Харашкевіч памылкова звязвае паходжанне князёў Друцкіх з князем Сямёнам (Лугвенам) Альгердавічам, які на самай справе даў пачатак князям Мсціслаўскім: там жа — М., 1980. Вып. 3. С. 199—202.

[21] Любавский М.К. Литовско-русский сейм. Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешней жизнью государства. — М., 1900. С. 54—55, 319.

[22] Полоцкие грамоты. Вып. 1. С. 130; Вып. 3. С. 204—205.

[23] ПСРЛ. Т. 11. М., 1965. С. 239.

[24] Русская историческая библиотека (РИБ). Т. 27. — СПб., 1910. Сл. 377—378.

[25] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 57.

[26] Любавский М.К. Литовско-русский сейм. С. 324.

[27] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 58.

[28] ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 153.

[29] ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 154.

[30] ПСРЛ. Т. 12. М., 1965. С. 22; ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 252.

[31] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные археографической комиссией. Т. 1. — СПб., 1861. С. 11; Любавский М.К. Литовско-русский сейм. С. 325.

[32] РИБ. Т. 27. Сл. 20.

[33] Там жа. Сл. 21.

[34] Там жа. Сл. 20.

[35] Там жа. Сл. 21.

[36] Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. — М., 1915. С. 406.

[37] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 55—64, 135—149, 161, 168—172, 202—212, 360—364, 396—398, 461—488, 536—540.

[38] Насевіч В.Л. Род князёў Друцкіх у гісторыі Вялікага княства Літоўскага (XIV—XVI стст.) // Старонкі гісторыі Беларусі. — Мн., 1992. С. 80—104; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 3. С. 295—298.

[39] Петров П.Н. История родов русского дворянства. СПб., 1886. С. 45—50.

[40] Карыстаюся выпадкам выказаць падзяку супрацоўніку Інстытута гісторыі НАН Беларусі М.Ф.Спірыдонаву, які паведаміў мне пра некаторыя звесткі, знойдзеныя ім у Метрыцы ВКЛ.

[41] Русский биографический словарь. Т. 2. — СПб., 1900. С. 384.

[42] Русский биографический словарь. Т. 15. — СПб., С. 1900. 160—162.

[43] Gumovski M. Pieczęcie Książąt Litewskich // Ateneum Wileński. 1930. Roczn. 7. Zesz. 3—4. S. 15—16, 33, tab. IX: 68, 69, 71.

[44] Алексеев Л.В. Полоцкая земля. — М., 1966. Мал. 34:2.

[45] Марзалюк І. Магілёў у XII—XVII стагоддзях. — Мн., 1998. С. 20; мал. 26:4.

[46] Падрабязнасці пра ўпамінанні гэтых маёнткаў прыводзяцца ў працы Ю.Вольфа: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 135—149, 536—540.

[47] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. — СПб., 1897. № 9, 498, 694.

[48] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 152—153, 672—673.

[49] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 60, 168—171, 360—364, 461—464.

[50] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 1. — СПб., 1861. № 1, 88.

[51] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. — СПб., 1897. № 23, 53, 63, 76.

[52] РИБ. Т. 27. Сл. 33.

[53] У 1530-я — 40-я гг. гэтыя маёнткі належалі мужам трох князёвен Прыхабскіх — Станіславу Гамшэю, князям Уладзіміру і Фёдару Горскім, а таксама зяцю апошняга Льву Роскаму. Апрача звестак, прыведзеных Ю.Вольфам, яны згадваюцца ў наступных крыніцах: Беларускі архіў. Т. 2. — Мн., 1928. № 52; Archiwum Książat Sanguszków Sławucie. T. 4. — Lwów, 1890. S. 395, 466—467; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 2. — СПб., 1865. С. 148; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 1775. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 418; Русская историческая библиотека. Т. 33: Переписи войска Литовского. — Пг., 1915. С. 507—508, 511.

[54] НГАБ. Ф. КМФ-18 (Метрыка ВКЛ). Спр. 260. Арк. 391—393.

[55] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 260—261.

[56] Описание документов и бумаг, хранящиеся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. — М., 1915. С. 456, 465—467, 469, 471.

[57] Описание документов и бумаг... Кн. 21. С. 402, 407. Гл. таксама: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 58.

[58] НГАБ. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 832. Арк. 1—4.

[59] Описание документов и бумаг... Кн. 21. С. 391.

[60] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 583. Арк. 113.

[61] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 138, 538.

[62] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 239. Арк. 79—83.

[63] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 249. Арк. 280—282.

[64] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 234. Арк. 71 адв. — 73.

[65] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 362, 457. Тэкст гэтай граматы гл. таксама: Sapiehowie. Materyały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 1. — Petersburg, 1890. Dodatek 32. S. 431—433.

[66] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией. Т. 14. — Вильно, 1887. С. 175—180.

[67] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 38. Арк. 203.

[68] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 14. Арк. 334.

[69] РИБ. Т. 27. Сл. 378—380.

[70] Archiwum Książat Sanguszków w Sławucie. T. 3. — Lwów, 1890. S. 76—77.

[71] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 285—286.

[72] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 203—207.

[73] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 249. Арк. 280—282.

[74] Гэта вынікае з таго, што адну дагаворную грамату Вітаўт падпісаў у 1406 г. пад час знаходжання «в нашем дворце в Копуссе». Гл.: Полоцкие грамоты / Сост. А.Л.Хорошкевич. — М., 1977. Вып. 1. С. 108—113.

[75] Аб гэтым сведчаць іх выданні «службаў у Галоўчыне» і «даніны мядовай Цяцерынскай» мсціслаўскаму Ануфрыеўскаму манастыру, якія прыгадваюцца ў больш познім дакуменце. Гл.: Акты Литовской метрики / Изд. Ф.И.Леонтович. Т. 1. Вып. 1. — Варшава, 1896. С. 14.

[76] Павіннасці, якія ішлі з Магілёва пры Ядзвізе, таксама прыгадваюцца ў больш познім дакуменце: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 3. Вильно, 1867. № 9.

[77] У Магілёве была складзена ў 1406 тая дагаворная грамата Вітаўта, якую ён напісаў, пераехаўшы ў Копысь (гл. вышэй).

[78] Прынамсі, Басея прыгадваецца разам з Копыссю ў Статутнай грамаце смаленскага князя Расціслава ў 12 стагоддзі. Гл. Памятники русского права. — М., 1953. Т. 2. С. 39—42.

[79] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 12.

[80] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. № 43, 173, 249, 353, 362.

[81] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы. Рукапіс В2 — 1. Арк. 1.

[82] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 370.

[83] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого литовского статута. — М., 1892. С. 254.

[84] Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. — М., 1897. С. 123—134.

[85] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 672—673.

[86] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 457—458.

[87] Sapiehowie. Materyały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 1. — Petersburg, 1890. S. 66—67, 144—182.

[88] Інвентары большасці з гэтых маёнткаў Льва Сапегі за 1624 г. захаваліся ў Аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта (Рукап. А.-1795, А-1806).

[89] Далейшыя звесткі па тэрыторыі ВКЛ прыводзяцца паводле працы Ю.Вольфа.

[90] Петров П.Н. История родов русского дворянства. С. 45—50; Русский биографический словарь. Т. 2. С. 384.

[91] Polski Słownik Biograficzny. T. XVII/4. Zeszyt 75; Русский биографический словарь. Т. 6. С. 695—707.

*Г.В.Штыхаў*

# ДРУЦК У СВЯТЛЕ АРХЕАЛАГІЧНАЙ НАВУКІ

Археалогія — гэта галіна гістарычнай навукі, якая вывучае станаўленне чалавека і гісторыю чалавечага грамадства па матэрыяльных рэштках жыцця і дзейнасці людзей — рэчавых (археалагічных) помніках. Яна ў комплексе даследуе старажытныя помнікі (стаянкі, паселішчы, могільнікі, свяцілішчы, майстэрні і інш.), рэчы (прылады працы, прадметы побыту, матэрыялы духоўнай культуры), якія выяўляюцца ў час археалагічных раскопак. Археалогія ўзнаўляе сацыяльна-эканамічную гісторыю эпох, якія недастаткова або зусім не адлюстраваны ў пісьмовых крыніцах, даследуе шэраг пытанняў, якія вывучаюцца таксама сумежнымі гуманітарнымі (этнаграфія, антрапалогія, палеанталогія і інш.) і прыродазнаўчымі навукамі. Цесна звязаная з дапаможнымі гістарычнымі дысцыплінамі (нумізматыкай, сфрагістыкай, эпіграфікай) і шэрагам іншых спецыяльных навук, археалогія дазваляе на любой ступені развіцця грамадства знайсці пэўную ўзаемасувязь паміж матэрыяльнай культурай і сацыяльна-эканамічным жыццём у тым ці іншым грамадстве.

Друцк, як важнейшы археалагічны помнік Полацкай зямлі, не з'яўляецца выключэннем.

Першае даволі падрабязнае яго апісанне знаходзім у спісе археалагічных помнікаў, складзеным у 1873 г.[1] У 1930 г. помнікі Друцка вывучаў беларускі археолаг А.Дз.Каваленя. Ён зняў план дзядзінца і вакольнага горада, зрабіў невялікія раскопкі. Каваленя даследаваў курганы ў наваколлі гарадзішча і адзначыў, што раней іх было значна больш. Зніклі 20 курганоў паблізу пасёлка Дубава, 15 насыпаў каля вёскі Ганчароўка. Да таго часу яшчэ захаваліся 11 курганоў насупраць гарадзішча на левым беразе Друці і ў іншых месцах[2]. Гістарычную тапаграфію Друцка коратка закрануў Ю.А.Ягораў[3], грунтуючыся на матэрыялах, якія апублікаваў Каваленя. Даследчыкі адносілі Друцк да ліку гарадоў са складанай сістэмай абароны. Форма яго дзядзінцаў адпавядае прыроднай канфігурацыі ўзвышшаў, дзе яны ўзводзіліся.

Першыя сістэмныя археалагічныя раскопкі ў Друцку праводзіў маскоўскі археолаг Л.В.Аляксееў у 1956—1962, 1965, 1967 гадах, у ходзе якіх атрыманы вялікі матэрыял, што дазваляе асвятліць страчаныя старонкі гісторыі горада. Як сярэднявечны цэнтр воласці Друцк размяшчаўся ў вярхоўях ракі Друць, правага прытоку Дняпра. Пляцоўка яго дзядзінца ў форме няправільнага чатырохвугольніка (80 × × 140 м) складае прыкладна 1 га і знаходзіцца на вышыні 22 м над узроўнем ракі. Участак з амаль гарызантальнай паверхняй быў абнесены валам, вышыня якога месцамі дасягае 10 м. Глыбіня рова вакол дзядзінца цяпер складае на захадзе 6 м, на поўдні — значна большая. З поўначы да яго прымыкае вакольны горад, які адрэзаны ад плато дугападобным ровам і валам вышынёй да 7 м. Плошча вакольнага горада больш за 1,3 га (170 × 100 м) мае значны нахіл у накірунку з паўночнага за-



У наваколлі Друцка. Рака Друць.

хаду на паўднёвы ўсход. Уезды на дзядзінец маюцца з паўночнага напрамку (з вакольнага горада) і з усходняга боку, дзе знаходзіцца спуск да ракі. Дугападобны вал вакольнага горада разарваны ўездамі ў двух месцах.

Па-за гарадскімі сценамі (на тэрыторыі сучаснай вёскі Друцк) размяшчаўся неўмацаваны пасад, які абкружаў вакольны горад з паўночнага, заходняга і ўсходняга бакоў. Зыходзячы з наяўнасці рэштак культурных напластаванняў, яго плошча была большая чым тэрыторыя ўсёй умацаванай часткі. Каля пасада яшчэ нядаўна ўзвышаліся курганы — рэшткі гарадскога некропаля. Пахавальныя курганы былі і на левым беразе Друці, але старажытнага паселішча там не існавала.

Л.В.Аляксееў асноўныя даследаванні праводзіў на тэрыторыі дзядзінца. За некалькі сезонаў ім даследавана звыш 1800 $м^2$ культурных напластаванняў. Друцкі дзядзінец — складаны, шматпластавы помнік. Пра культурныя адкладанні, звязаныя з дзейнасцю людзей, можна меркаваць па напластаваннях у 11-м раскопе (1967 г.), якія характэрны для ўсяго дзядзінца. Верхнія адкладанні перыяда Вялікага княства Літоўскага змяшчаюць рэшткі пажараў. Другі пласт адкладанняў без выразных слядоў драўляных пабудоў параўнаўча тонкі. Трэці пласт таўшчынёй да 70—80 см у верхнім гарызонце мае торфападобны драўляны тлен, а ў ніжнім — трэскі і гной. Блізка да прыроднага грунту (мацерыка) выяўлены сляды вогнішча, якое добра прасочваецца паўсюдна. Паміж вогнішчам і грунтам-мацерыком маецца тонкі культурны пласт.[4]

Ліцейныя формы і тыглі, знойдзеныя ў Друцку (раскопкі Л.В.Аляксеева).

Мастацкая накладка калчана з косці (раскопкі Л.В.Аляксеева).







Культурныя адкладанні старажытнейшага паселішча амаль не захаваліся. Яны, верагодна, знішчаны пазней, калі развіваўся горад. Але некаторыя сляды гэтага паселішча ўсё ж выяўлены. На прыродным грунце (мацерыку) знойдзена так званая арбалетная фібула 4—5 ст. н.э.[5] На ўзвышанай частцы паселішча жыццё працягвалася і пазней, што пацвярджаюць асобныя знаходкі ляпной керамікі 6—8 стагоддзяў.

Амаль на мацерыку захавалася нязначная колькасць рэшткаў пабудоў, у размяшчэнні якіх не было пэўнага парадку. Іх перакрываў пласт узгаданага вогнішча. Бліжэй да прыроднага грунту знойдзены пацеркі-«лімонкі», ключы ад найбольш ранніх навясных жалезных замкоў. Гэты гарызонт Аляксееў датуе 9 ст., а пажарышча, якое перакрывае яго, дапушчальна 1116 г., калі горад быў знішчаны войскамі пераяслаўскага князя Яраполка Уладзіміравіча. Але гэта толькі дапушчэнне, пацвердзіць якое маглі б дэндрахраналагічныя даследаванні дрэва з вышэйляжачага трэцяга адкладання, якія не праводзіліся.

Найбольш цікавы трэці пласт, насычаны драўлянымі рэшткамі. Каля паўднёвага вала назіраецца найбольшая шчыльнасць старажытнага насельніцтва. Па баках двух вузкіх крывых вуліц з драўлянымі насцiламі — маленькія двары, абнесеныя частаколамі, вымашчаныя бярвёнамі і, напэўна, некаторыя былі крытыя. У дварах размяшчаліся жытлы і адна-дзве гаспадарчыя пабудовы. Жытлы плошчай 16 м$^2$ рублены «ў чашку» (просты вугал, у абло), і дашчатая падлога пакладзена на лагі. Печы глінабітныя, або каменкі, як звычайна, паліліся «па-чорнаму».

Тут выяўлены адзнакі заняткаў рамёствамі: шавецкім (абрэзкі скур, шылы), ювелірным (тры каменныя ліцейныя формы і тыглі), кузнечным, плотніцкім, касцярэзным (у адным месцы выяўлена шмат вырабаў з косці і нарыхтовак). Знойдзена бронзавая засцежка ад кнігі. Яна, напэўна, апынулася тут у выніку рамонту скуранога пераплёту. Тут жа былі выяўлены зламаныя арнаментальныя касцяныя пласціны ад калчана. Па ўсяму бачна, што каля паўднёвага вала дзядзінца жылі рамеснікі, якія абслугоўвалі вышэйшую знаць.

Для датавання напластаванняў важнае значэнне мае месцазнаходжанне шкляных бранзалетаў на пластах (таўшчыня пласта 20 см). Так, у 11-м раскопе ў ніж-




Знаходкі ў заходняй частцы друцкага дзядзінца: 1 — бронзавы бранзалет; 2, 3 — шыферныя праслiцы i сярэбраны пярсцёнак з княжацкімі знакамі; 4 — сярэбраны бранзалет са сканню.

няй частцы трэцяга пласта выяўлены 82 фрагменты бранзалетаў, што складае большую палову ўсіх знойдзеных такіх вырабаў[6]. Звычайна пры раскопках усходнеславянскіх гарадоў найбольшая колькасць шкляных бранзалетаў прыпадае на напластаванні 1230-х гадоў, як гэта зафіскавана ў Ноўгарадзе і Полацку[7].

У цэнтральнай частцы дзядзінца таўшчыня адкладанняў намнога меншая. Слядоў драўляных пабудоў тут не выяўлена. Побач са шклянымі бранзалетамі і пацеркамі знойдзены некалькі страмёнаў і зламаных шпор коннікаў. Плошча дзядзінца не мела драўляных насціл аў. Верагодна, тут князь і яго дружына збіраліся ў паходы.

Своеасаблівай аказалася забудова заходняй часткі дзядзінца, дзе адсутнічаюць адзнакі вуліц, малых жытлаў і гаспадарчых пабудоў. Выяўлены рэшткі толькі двух вялікіх розначасовых пабудоў з печамі-каменкамі і глінабітнымі падлогамі. Не зусім звычайныя і знойдзеныя тут рэчы, сярод якіх пераважаюць упрыгожанні: шырокі сярэбраны бранзалет (наруч) з філігранню (тонкага кручанага дроту), сярэбраныя нашыўныя бляшкі, дзве залатыя пацеркі, бронзавы віты бранзалет, сярэбраны пярсцёнак з выявай княжацкага знака-двухзубца. Княжацкі знак-трызубец прачэрчаны і на сланцавым праселку для верацяна, а на другім праселку ёсць графіці «къняжинъ». Рэдкая знаходка — музычны інструмент «варган», які нагадвае камертон. Гэта тэрыторыя, найбольш верагодна, была часткай княжацкага двара, які размяшчаўся ў заходняй частцы дзядзінца, добра ўмацаванай высокім валам.

Выклікаюць цікавасць і знойдзеныя пры раскопках шматлікія гліняныя пліткі, пакрытыя непразрыстай палівай, прызначаныя, верагодна, для падлогі ў храме. Іх памеры 9 × 9 см, колер — зялёны або жоўты. На плітках няма рэштак вапны, а значыць, яны не былі ва ўжытку. Многія пліткі са слядамі пажараў. Гэта, напэўна, быў прыгатаваны для будаўніцтва або рамонту матэрыял, сапсаваны нечакана ўзнікшым бедствам. Аднак не выключна і тое, што пліткамі была выкладзена падлога ў драўлянай царкве.

Першапачатковая планіроўка пабудоў дзядзінца насіла бессістэмны характар, але пасля вялікага пажару яна істотна змянілася. Утварыліся дзве вуліцы, якія пры раскопках праследжваліся спачатку толькі па напрамку парканаў-двароў, а потым і па рэштках вымашчаных бярвеннем насціл аў. Больш шырокая вуліца вяла да гарадской плошчы і ад яе накіроўвалася да ўезда. Другая вуліца ішла ўздоўж паўднёвага вала.




Гіркі, сярэбраная манетная грыўна, чаша вагаў з Друцка (раскопкі Л.В.Аляксеева).

Яе напрамак быў перпендыкулярны да першай вуліцы.[8] Вуліцы былі звілістыя, як звычайна ў сярэдневяковым горадзе.

Можна прыкладна ўявіць сацыяльную тапаграфію дзядзінца. У добра ўмацаванай заходняй частцы знаходзіўся княжацкі двор, той, які ўпамянуты ў Іпацьеўскім летапісе пад 1159 г. Каля паўднёвага вала жылі рамеснікі. Іх двары напачатку размяжоўваліся плятнём, а потым больш моцным парканам-частаколам. Бліжэй да цэнтра была плошча і, напэўна, царква Багародзіцы. Тут збіраліся гараджане на вечавыя сходы.

Пры выездзе з дзядзінца стаяла шмат гадоў кузня, якая служыла патрэбам княжацкай дружыны. У час раскопак тут выяўлена яма для кузнечных шлакаў, некалькі вялікіх гліняных трубак-соплаў ад горна і інш.[9] Апрацоўка чорнага металу, можна меркаваць, была галоўнай галіной рамеснай вытворчасці ў Друцку. На дзядзінцы ў другіх месцах выяўлены кавальскі малаток і невялікая накавальня, кавальскія клешчы, зубілы, вымяральны інструмент.

Малаточак па форме вельмі падобны да цвікадзёра. Яго галоўка мае даўжыню ўсяго 4 см, а жалезная кароткая ручка даўжынёй 9 см нерухома ўкляпана ў галоўку. Малаточак з Друцка ўдвая меншы за падобныя знаходкі ў Ноўгарадзе.

Металаграфічныя аналізы рэжучых вырабаў паказалі, што друцкія кавалі, як і іх сабраты ў Полацку, Мінску і іншых гарадах, свабодна валодалі кавальскай зваркай жалеза і сталі, апрацоўвалі сталь тэрмічным спосабам.

Шэраг вырабаў з жалеза, знойдзеных на дзядзінцы, з'яўляюцца прадметамі ваеннага рыштунку і, можна меркаваць, выраблены мясцовымі майстрамі. 35 жалезных наканечнікаў стрэл прадстаўлены living рознымі тыпамі — ад ранніх двухшыпных утульчатых 11—12 стагоддзяў да больш позніх бранябойных і арбалетных 13—15 стагоддзяў. Наступальная зброя бліжняга бою прадстаўлена нешматлікімі знаходкамі: наканечнікам дзіды (кап'я), навершам мяча і інш. Больш знаходак, якія характарызуюць рыштунак конніка, — шпоры, страмёны, цуглі, спражкі.




Прылады працы са старажытнага Друцка (раскопкі Л.В.Аляксеева).

Сярод знойдзеных даспехаў ёсць фрагменты кальчугі і пласціны панцыра. Значную цікавасць уяўляюць своеасаблівыя пласціны ад металічнага засцерагальнага адзення, упрыгожаныя мастацкім арнаментам. Усе пласцінкавыя даспехі з Друцка датуюцца 13—14 стагоддзямі.

Паўсядзённы побыт насельніцтва характарызуюць выяўленыя тут крэсівы, замкі, ключы, нажы. З жалеза рабіліся рамесныя інструменты для апрацоўкі косці, дрэва і іншых матэрыялаў.

Знойдзены напільнік, якім апрацоўваліся косць і скура, — рашпіль. Агульная яго даўжыня — 23,5 см, даўжыня палатна — каля 17 см, сячэнне рабочай часткі прамавугольнае. Дробныя зубцы насечкі нанесены толькі на два шырокія бакі. Інтэрвал паміж зубцамі 2—3 мм. Пры паступальным руху інструмента зубцамі зразаліся часцінкі апрацоўваемага матэрыялу. Падобны рашпіль 14 ст. вядомы і ў Ноўгарадзе.

Параўнаўча рэдкая знаходка — абломак палатна пілы-нажоўкі. Яе даўжыня да 13 см, палатно каля ручкі больш шырокае і паступова звужаецца да процілеглага канца. Найбольшая яго шырыня да 3 см. Пілка служыла для апрацоўкі дрэва, магчыма, і косці.

Косць — важная сыравіна, якая шырока выкарыстоўвалася ў рамеснай вытворчасці сярэднявечча. З яе рабілі грабяні, ручкі нажоў, усялякія накладкі і нават порхліцы для ручных жорнаў. У Друцку, у пласце 12 ст., знойдзена тонка апрацаваная накладка калчана з характэрнымі славяна-раманскімі рысамі.[10]

Сапраўдным археалагічным багаццем з'яўляюцца пяць шахматных фігур, знойдзеных на дзядзінцы. Адна з іх, несумненна, вытачана на такарным станку і з'яўляецца «каралём». Гэтая фігурка знойдзена ў верхнім пласце і датуецца 13—14 стагоддзямі. Аналагічныя шахматныя фігуры знойдзены ў Ноўгарадзе, Полацку і іншых гарадах.

Драўляныя вырабы са старога Друцка нешматлікія, што тлумачыцца дрэннай захаванасцю матэрыялаў у культурных адкладаннях. Але знойдзены драўляныя начоўкі, дэталі бочак і кадушак.

Як і ў многіх іншых сярэднявечных гарадах, у старым Друцку асабліва шмат бытавой керамікі. На мацерыку дзе-нідзе сустракаліся адзінкавыя фрагменты грубых ляпных пасудзін, якія нагадваюць славянскую, раменскую і боршаўскую кераміку 9—10 стагоддзяў. Але амаль уся знойдзеная кераміка выраблена на ганчарным крузе. Пераважаюць пячныя гаршкі сярэдніх памераў, нярэдка на іх плечуках ёсць хвалісты або лінейны арнамент. На некаторых пасудзінах арнамент так званы нагцявы (зроблены пазногцем). У Друцку выяўлены і тып пячных гаршкоў з высокай шышкай, якія ў 12—13 стагоддзях былі вельмі пашыраны ў Полацку і іншых гара-

дах Полацкай зямлі. Некаторыя пасудзіны з Друцка маюць на днішчах нескладаныя рэльефныя клеймы, відаць, майстроў, якія іх выраблялі.

Значна менш, чым гаршкоў, выяўлена сталовага глінянага посуду. У Друцку быў ва ўжытку невялікі гліняны посуд тыпу місак і сподкаў. Дыяметр місак 12—13 см, вышыня 6 см. Ёсць невялікія нізкія плоскія пасудзіны тыпу сподкаў, вырабленых на ганчарным крузе. Іх сценкі крыху нахілены. Сталовы посуд з Друцка таксама блізкі формаю глінянаму посуду сярэднявечнага Полацка.

Знойдзены, напрыклад, цэльны збан з ручкай — гліняны так званы карчажац, ці амфара кіеўскага тыпу, — невялікая пасудзіна з вузкім горлам і двума вушкамі, размешчанымі сіметрычна з бакоў. У такім посудзе звычайна ставілі на стол віно. Карчажцы вядомы з раскопак Кіева і іншых помнікаў на тэрыторыі Украіны. Тры карчажцы, знойдзеныя ў Копысі, крыху вузейшыя, чым карчажац з Друцка.

Сувязь жыхароў Друцка з сельскай гаспадаркай пацвярджаюць знойдзеныя два сярпы, сашнік, абломак касы-гарбушы, жалезная акоўка ад рыдлёўкі.

Пры раскопках выяўлена вялікая колькасць касцей жывёл (іх больш за 12 тысяч, што складае амаль 93% ад агульнай колькасці ўсяго археалагічнага матэрыялу). Зафіксаваны косці наступных відаў жывёл: буйной рагатай жывёлы — 61%, дробнай рагатай жывёлы — 11,1%, свіней — 21,1%, коней — 4,9%, іншых жывёл — 1,9%; касцей дзікіх жывёл — 964 экзэмпляры, або 7,2% ад агульнай колькасці ўсіх знаходак. Напэўна, жыхары Друцка не надта цікавіліся паляваннем. Затое пры раскопках часта сустракалася луска і косці рыбы, выяўлены рыбалоўныя прылады, грузілы для сетак.

Раскопкі ў Друцку папоўнілі новымі звесткамі нашы веды пра стан гандлёвых сувязей гарадоў зямлі. Напрыклад, там знойдзены чатыры гіркі-разнавагі для ўзважвання каштоўных металаў і вызначэння колькасці грашова-вагавых адзінак у манетах, сярэбраных злітках і ўпрыгожаннях. Форма двух гірак бочкападобная. На малой гірцы выбіта 6 кропак для вызначэння колькасці вагавых адзінак. Дзве чашкі ад вагаў добра выгнуты і маюць дыяметр 6—7 см. У 1965 г. на дзядзінцы ў верхнім пласце знойдзена сярэбраная плацёжная грыўна, якая важыла 98,4 г. Формаю гэты злітак палачкападобны і нагадвае наўгародскія грыўны. У Друцку знойдзена таксама свінцовая пломба. Шырока бытуе меркаванне, што пломбы прывешваліся да цюкоў з таварамі, якія вывозілі на знешні рынак, што гарантавала іх захаванасць. На думку некаторых даследчыкаў, у той час усходнія славяне выкарыстоўвалі «футравыя» грошы, а пломба, што прывешвалася да вязкі футраў, надавала ім значэнне грошаў.

Маскоўская даследчыца Ю.Л.Шчапава зрабіла спробу разгледзець шкляныя бранзалеты як рэчавую крыніцу для вывучэння гандлёвых сувязей. Яна правяла спектральны аналіз знаходак з многіх усходнеславянскіх гарадоў, у тым ліку даследавала 161 бранзалет з Друцка, і выказала меркаванне, што сюды бранзалеты прывозіліся з Кіева, Полацка, Смаленска. Згодна з папярэднім вызначэннем, сярод шкляных бранзалетаў Старога Друцка былі 72 кіеўскія бранзалеты (15 карычневых, 5 фіялетавых, 23 сініх, 17 зялёных, 9 бірузовых і 3 жоўтых); 18 бранзалетаў з Полацка (8 карычневых, 8 зялёных і 2 жоўтыя); адзін зялёны са Смаленска: паходжанне васьмі іншых бранзалетаў не ўстаноўлена[11].

Аднак пытанне пра месца вытворчасці шкляных бранзалетаў і шляхах іх паступлення ў розныя гарады ў 12—13 ст. яшчэ далёкае ад вырашэння. У сваёй абагульняльнай працы Ю.Л.Шчапава выказала асцярожную здагадку пра магчымасць вытворчасці шкляных бранзалетаў і ў самім Друцку[12].

Пры раскопках выяўлены каштоўныя помнікі эпіграфікі і пісьменнасці. На праселку 13 ст. ёсць надпіс «ника», а на другім праселку прадрапана слова «късняжинъ» (12—13 ст.).[13]

Пісалаў — прыстасаванняў для пісьма ў выглядзе стрыжня — з Друцка вядома 3 экзэмпляры. Усе яны жалезныя. Адно пісала мае лапатачку амаль паўкруглай формы і адносіцца да тыпу, які датуецца сярэдзінай 11 — 1-й палавінай 12 ст. Такія пісалы знойдзены ў Ноўгарадзе, Мінску, Навагрудку, Старой Разані, Галічы і іншых гарадах. Другое пісала з Друцка мае лапатачку ў выглядзе келіха з выцягнутымі краямі. Гэта самы распаўсюджаны тып пісалаў ва ўсходнеславянскіх землях 12 — 1-й палавіны 13 ст. Падобнае да яго і трэцяе пісала з Друцка.[14]

Вельмі своеасаблівай з'яўляецца і бронзавая засцежка ад кнігі. Цікава таксама, што сярод вырабаў з косці знойдзена накладка з арнаментам, характэрным для качэўнікаў, што жылі ў стэпах.

Прадметы рэлігійнага культу прадстаўлены нацельнымі крыжыкамі, фрагментамі хораса (вісячая свяцільня з некалькімі падсвечнікамі), 2 змеевікамі (металічнымі амулетамі ў выглядзе падвесак), адлітымі ў адной ліцейнай форме.

Бронзавыя нагрудныя двухстворчатыя крыжы-складні (энкалпіёны) характарызуюць дробнае мастацкае ліццё. 13 ст. датуецца энкалпіён з выявай Божай Маці Адзігітрыі ў сяродкрыжжы, над ёй адлюстраваны Хрыстос, а па баках архангелы Міхаіл і Гаўрыіл. Другі энкалпіён з выпуклай фігурай св. Барыса і дрэнна захаваўшыміся выявамі ў медальёнах, якія выкананы ў тэхніцы чарнення. На думку даследчыкаў, падобныя крыжы выраблялiся не пазней 1-й палавіны 12 ст. Напэўна, друцкі энкалпіён знаходзіўся вельмі доўгі час ва ўжытку, перш чым аказаўся назаўсёды згубленым яго апошнім уладальнікам.

Трэці крыж-складзень знойдзены выпадкова за ровам вакольнага горада. На яго вонкавым баку выпуклае Распяцце. У медальёнах чарнёныя выявы святых. Над Распяццем змешчаны «мальцiйскі крыж» з пашыранымі канцамі. Такія крыжы з'явіліся ва ўсходнеславянскіх землях у 2-й палавіне 12 ст. і былі шырока распаўсюджаны.

Нагрудны аднабаковы крыж меў шмат мініяцюрных выяў (Распяцце, Тройца, Стрэчанне, Сыход у пекла, Прэабражэнне). Тыпалагічна крыж датуецца 15 — пачаткам 16 ст.[15] Ён знойдзены на дзядзінцы ў верхнім дзярновым пласце. Гэта адна з нямногіх знаходак апошніх часоў існавання старажытнага Друцка, бо культурныя напластаванні 15—16 ст. тут амаль не захаваліся.

У вакольным горадзе праводзіліся невялікія раскопкі. Сляды пажарышча сведчаць, што ён двойчы быў спалены. Знаходак тут мала. Пераважае кераміка. Мяркуючы па фрагментах посуду, знойдзеных над мацерыком, вакольны горад у Друцку ўзнік у канцы 11 — пачатку 12 ст. У вакольным горадзе сустракаліся і маёлікавыя пліткі, такія ж, як і на дзядзінцы.[16]

Пры вывучэнні ўезду ў вакольны горад адкрыты рэшткі насцілу з бярвён. Вал вакольнага горада насыпаўся двойчы. Ён меў шматпластавы вонкавы схіл, які ўтварыўся ў выніку абпальвання на ім чырвонай гліны.

## Даследаванне наваколля Друцка

Час ад часу ў ваколіцах Друцка вывучаліся курганныя могільнікі. У 1885 г. М.М.Турбін праводзіў раскопкі курганоў за 20—25 км на ўсход ад Друцка каля вёскі Дымава. У выніку даследавання 12 насыпаў выяўлены пахаванні тыпу трупа-

палажэння галавой на захад. У адным кургане знойдзены два не поўнасцю спаленыя трупы, у адным — памерлы быў у сядзячым стане. Выяўлена багатае пахаванне 10 — або пачатку 11 ст., дзе на галаве памерлай быў вянок з 5 радоў бронзавых спіраляў. Тут жа знойдзена шмат шкляных пацерак і 2 бранзалетападобныя скроневыя кольцы, характэрныя для крывічоў.[17]

У 1888 г. Е.Р.Раманаў даследаваў курганы за 7—8 км на паўночны захад ад Друцка каля вёскі Загараддзе. У адным кургане выяўлена трупаспаленне ў урне, змешчанай на падсыпцы, у другім — трупапалажэнне на гарызонце.[18]

У 1930 г. А.Дз.Каваленя выявіў у паўразбураным кургане, размешчаным у непасрэднай блізкасці ад дзядзінца, згніўшыя дошкі, напэўна, ад труны і косці, пад якімі на грунце прасочваўся пласток попелу.

У 1961 і 1962 гадах пад кіраўніцтвам Л.В.Аляксеева даследаваны 3 курганы каля в. Сінчукі за 500 метраў на ўсход ад Друцка, на процілеглым, левым беразе Друці. Адзін курган быў пусты, у двух іншых захаваліся трупаспаленні ў насыпе. У адным кургане знаходзіліся 8 урнаў, выраблены на ганчарным крузе, а ў другім — 5 такіх урнаў. Л.В.Аляксееў датаваў пахаванні 10 ст.[19] Кераміка больш позніх форм (7 гаршкоў) з трупаспаленнямі ў насыпе кургана каля в. Арава на р. Друць, напэўна, адносіцца да пачатку 11 ст.[20]

У 1967 г. пачаты раскопкі курганнага могільніка каля вёскі Багрынава за 10—12 км на ўсход ад Друцка. У групе налічвалася 24 паўсферычныя курганы. Напачатку былі даследаваны 4 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, пад курганом. Сярод інвентару ў адным кургане знойдзена 6 сярэбраных крывіцкіх бранзалетападобных скроневых кольцаў з завязанымі канцамі. У 1969 г. раскапана яшчэ 2 курганы. У адным з іх было 2 пахаванні (мужчынскае і жаночае). Пры жаночым пахаванні знойдзены 4 падвескі, выраблены з дырхемаў (найбольш ранняя манета адносіцца да 906 г., позняя — да 969 г.). Каля галавы захавалася 6 крывіцкіх скроневых кольцаў з сярэбранага дроту, адзін канец якіх закручаны спіраллю вонку. Крывіцкае скроневае бранзалетападобнае кольца са слаба завязанымі канцамі знойдзена каля пахавання ў кургане паблізу в. Волкавічы.[21] З.М.Сяргеева праводзіла даследаванні пахавальных помнікаў у ваколіцах Друцка[22] і ў іншых месцах басейна Заходняй Дзвіны.[23]

Шматгадовыя археалагічныя раскопкі ў Друцку і яго наваколлі пацвердзілі, што верхняе цячэнне ракі Друць у 10—11 ст. было густа заселена. Асноўным насельніцтвам краю з'яўляліся крывічы. У пачатку волака на адным з адгалінаванняў шляху «з варяг у грэкі» ў 10 ст. жыло насельніцтва, якое займалася перавозамі па волаку ў бок Лукомля і р. Усвейка (Усвіж-Бук).[24] У гушчы паселішчаў «валачан» у водападзеле басейнаў Заходняй Дзвіны і Дняпра (Аршанскае ўзвышша) і ўзнік сярэднявечны Друцк.

## Літаратура


[1] Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Известия императорской археологической комиссии. СПб., 1903. Вып. 5. С. 45.

[2] Каваленя А.З. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы секцыі археалогіі, т. III. Менск, 1932. С. 190—191.

[3] Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии. М., 1954. С. 12—13.

[4] Археологические открытия 1967 года. М., 1968. С. 256.

[5] Алексеев Л.В. Полоцкая земля. Очерки истории Северной Белоруссии в IX—XIII вв. М., 1966. С. 152.

[6] Археологические открытия 1967 года. М., 1968. С. 257.

[7] Штыхов Г.В. Древний Полоцк IX—XIII вв. Мн., 1975. С. 53.

[8] Алексеев Л.В. Полоцкая земля. С. 186—187.

[9] Алексеев Л.В. Раскопки в Друцке // Археологические открытия 1965 года. М., 1966. С. 168.

[10] Алексеев Л.В. Художественные изделия косторезов из древних городов Белоруссии // Сов. археология. 1962. № 4. Рис. 6, I. С. 205.

[11] Щапова Ю.Л. Стеклянные браслеты Полоцкой земли // Краткие сообщения Института археологии АН СССР (далей КСИА), 1965. Вып. 104. С. 49.

[12] Щапова Ю.Л. Стекло Киевской Руси. М., 1972. С. 167, 171.

[13] Алексеев Л.В. Еще три шиферных пряслица с надписями // Сов. археология. 1959. № 2. С. 243, 244.

[14] Алексеев Л.В. Полоцкая земля. Рис. 68, 1, 4.

[15] Алексеев Л.В. Мелкое художественное литье из некоторых западнорусских земель // Сов. археология. 1974. № 3. С. 205—207.

[16] Археологические открытия 1965 года. М., 1966. С. 169.

[17] Турбин Н.М. Раскопки 1885 г. // «Древности». 1886. Т. XI, вып. 2. С. 83—86.

[18] Романов Е.Р. Раскопки в Могилевской губернии в 1888 г. // «Древности». Т. XIII, вып. 1, 1889. С. 144—146.

[19] Алексеев Л.В. Полоцкая земля. С. 43, рис. 6.

[20] Алексеев Л.В. Сергеева З.М. Раскопки курганов в восточной Белоруссии // КСИА. 1973. № 135. С. 53.

[21] Сергеева З.М. Раскопки курганов в Толочинском районе // КСИА. 1973. № 129. С. 61—64.

[22] Сергеева З.М. Обследования в Витебской области // Археологические открытия 1972 года. М., 1973. С. 367—368.

[23] Сергеева З.М. Раскопки курганов на друцком волоке // КСИА. 1973. № 139.

[24] Алексеев Л.В. Полоцкая земля. С. 151, 152.

*В.М.Ляўко*

# НОВЫЯ АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ ДРУЦКА І ЯГО АКРУГІ

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 7.12.1998 г. «Пра святкаванне 1000-годдзя Друцка» адноўлены археалагічныя даследаванні на тэрыторыі старажытнага Друцка, дзе ў 1956—1962, 1965 і 1967 гадах праводзіў работы Л.В.Аляксееў. Арганізацыі новых даследаванняў садзейнічалі намеснікі старшыні Віцебскага аблвыканкома У.А.Цацоха і П.У.Южык, кіраўніцтва Талачынскага райвыканкома, яго аддзел культуры і раённы краязнаўчы музей. Даследаванні ажыццяўляліся Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі пад кіраўніцтвам аўтара гэтага артыкула.

Да пачатку археалагічных раскопак была вывучана тапаграфія помніка, яго сучасны стан, пазначаны месцы палявых работ у адпаведнасці з інфармацыяй пра папярэднія археалагічныя даследаванні гэтага аб'екта з публікацый Л.В.Аляксеева (асноўная праца — «Полоцкая земля в IX—XIII вв.». М., 1966), даследаваная плошча складае прыкладна 1800 м$^2$. На прыведзеным у гэтай працы плане Друцка пазначаны таксама шурф на тэрыторыі вакольнага горада; іншыя раскопачныя работы, калі яны і праводзіліся, то не знайшлі адлюстравання ў яго нешматлікіх публікацыях, прысвечаных старажытнаму Друцку. Ніводзін з пазначаных на плане раскопаў не быў засыпаны. Адпрацаваны грунт складзены ўздоўж краёў раскопаў. За 35 гадоў, што прайшлі з моманту завяршэння работ на помніку, ён моцна аплыў і слаба вылучаецца на паверхні пляцоўкі гарадзішча. Глыбіня ям раскопаў вагалася ад 1 да 3 м. У ямах выраслі кусты і дрэвы. Частка матэрыялаў з яго раскопак знаходзіцца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, некаторыя прадметы — у Нацыянальным музеі Рэспублікі Беларусь. Масавы керамічны матэрыял раскопак не апублікаваны і месца яго захавання невядома.

У Талачынскім краязнаўчым музеі знаходзяцца асобныя знаходкі з тэрыторыі старажытнага Друцка, перададзеныя мясцовай школай, а таксама пад'ёмны матэрыял, выпадкова атрыманы з месцаў агалення культурных напластаванняў. Стварэнне экспазіцыі «Старажытны Друцк» патрабуе прыцягнення вялікай колькасці разнастайных экспанатаў, якія адлюстроўваюць гісторыю развіцця гэтага унікальнага археалагічнага аб'екта.

Старажытны Друцк адзін з найбольш вядомых раннесярэдневяковых гарадоў на тэрыторыі Полацкай зямлі, пра што красамоўна сведчаць летапісы. Гэты помнік мае напластаванні, якія адносяцца да дадзяржаўнага перыяду, калі ён выступаў у ролі племяннога цэнтра на волаку з р. Друць (прыток Дняпра) у р. Усвейка (ба-



Агульны выгляд дзядзінца і вакольнага горада старажытнага Друцка. Здымак В.М.Ляўко.

сейн Заходняй Дзвіны). У 12—13 ст. Друцк стаў цэнтрам самастойнага ўдзельнага княства, што вылучылася са складу Полацкай зямлі.

На тэрыторыі Друцка прысутнічаюць таксама напластаванні 14—16 ст., якія адпавядаюць запісам у больш позніх летапісных зводах, інвентарах і звязваюцца з жыццём і дзейнасцю вядомага рода князёў Друцкіх. Структурна г. Друцк складаецца з гарадзішча (найбольш ранняга аб'екта), якое на гарадскім этапе развіцця ўяўляла сабою яго дзядзінец (плошча 1 га), вакольнага горада, а таксама неўмацаванага пасада. Тэрыторыя дзядзінца (гарадзішча) і вакольнага горада (плошча каля 1 га) агароджана землянымі валамі вышынёй 7—10 м і аддзяляецца ад пасада штучнымі равамі. Пасад перавышае плошчу ўмацаванай часткі Друцка амаль у 3 разы (каля 6 га) і ўваходзіць у межы сучаснай вёскі. Пэўная частка пасада знішчана кар'ерам, які амаль ушчыльную падыходзіць да вакольнага горада з паўночнага ўсходу. У агаленнях кар'ера бачны культурны пласт магутнасцю да 1 м. У цэлым плошчу часткі пасада, што захавалася, можна даволі дакладна вызначыць паводле характару слоя на агародах мясцовых жыхароў.

Сучасны стан аб'екта і задачы, звязаныя з падрыхтоўкай да юбілею Друцка экспазіцыі Талачынскага і іншых краязнаўчых музеяў на тэрыторыі былога Друцкага княства, абумовілі правядзенне раскопак, якія ахопліваюць усе структурныя часткі сярэдневяковага паселішча. Раскопы былі закладзены на пасадзе, у вакольным горадзе, на дзядзінцы (гарадзішча). Зроблена прарэзка паміж валамі вакольнага горада і дзядзінца.

## Пасад

Участак старажытнага пасада з перспектыўным для даследавання культурным пластом магутнасцю больш за 1 м быў вывучаны на свабоднай ад забудовы тэрыторыі вёскі насупраць уезду ў вакольны горад за ровам. Плошча раскопу № 1 склала 96 м$^2$. На гэтым участку зроблены шурф для вызначэння месца раскопу. Зніжэнне мацерыка і адначасова павышэнне сучаснай дзённай паверхні прасочаны ў раскопе з усходу на захад. Таму ў яго ўсходняй частцы магутнасць напластаванняў меншая, чым у заходняй.



Гарадзішча старажытнага Друцка.

Стратыграфічна вылучаны 3 асноўныя пласты. Верхні пласт мае шэрую афарбоўку з украпінамі цагельнага бою, часам вугалёў. Ён размешчаны адразу пад дзірваном. Структурна і па афарбоўцы ён адрозніваецца ад ніжэйразмешчанага пласта. У заходняй частцы раскопу ён аддзелены ад яго праслойкай пяску таўшчынёй да 5 см. Асобныя плямы пяску сустракаліся на гэтым узроўні і ў іншых месцах. Сярэдні слой цёмнага колеру, насычаны вугалямі, дапоўненымі бітай цэглай, вапнай з пяском, праслойкамі чырвонай і жоўтай гліны. Ад ніжэйразмешчанага пласта ён аддзяляецца праслойкай вугалёў, адрозніваецца ад яго структурна і афарбоўкай і прадстаўлены 2-м і 3-м пластамі па ўсім раскопе. У паўднёва-заходнюю частку ён заходзіць у 4-ы пласт. Ніжні пласт светла-шэрай афарбоўкі з уключэннямі вугалёў і пяску, прадстаўлены 3-м—5-м пластамі на розных участках раскопу і большай часткай запаўненняў ям у мацерыку. На асобных участках раскопу ў ім прысутнічаюць праслойкі гліны чырвонага колеру і попелу.

Вылучаны 2 будаўнічыя гарызонты, якія суадносяцца з сярэднім і ніжнім культурнымі напластаваннямі. Першы з іх прадстаўлены плямамі з вялікай колькасцю вугалёў, цагельнага бою, пяску і вапны ва ўсходняй і цэнтральнай частках раскопу. У паўночна-ўсходнім вугле раскопу зафіксаваны ачаг, складзены з дробных і сярэдніх камянёў памерам 0,8 × 1,2 м. Пры яго расчыстцы сабрана кераміка 13 ст. Другі будаўнічы гарызант на ўзроўні 3-га пласта. Ва ўсходняй частцы раскопу расчышчана цёмная попельна-вугальная пляма з уключэннем жалезных шлакаў памерам 4,2 × 3,2 м. Побач выяўлена вялікая колькасць камянёў буйных і сярэдніх па-



Раскоп на тэрыторыі вакольнага горада ў Друцку. Здымак В.М.Ляўко. 1999 г.

мераў з жалезнымі шлакамі і вугалем. Напэўна, гэта развал печкі вытворчага прызначэння, звязанай у адзіны комплекс як паводле наяўнасці шлакаў, так і паводле ўзроўню залягання ў пласце керамікі (2-я палавіна 12 ст.). У гэтым комплексе сабрана вялікая колькасць жалезных шлакаў, абрэзкаў металу, металічныя прадметы і прылады працы, што дазваляе меркаваць пра наяўнасць тут кавальскай майстэрні. Пад вытворчым комплексам выяўлены 2 звязаныя з ім ямы. У заходняй частцы зафіксаваны другі ачаг. На падушцы з абпаленай гліны памерам 2,2 × 1,8 м і таўшчынёй 0,15 м размяшчалася невялікая колькасць абпаленых камянёў. Пры яго расчыстцы выяўлены вугалле і кераміка 2-й палавіны 12 ст. З паўднёвага ўсходу да ачага прылягала падпечная яма з вугаллем. Праслойка вугалёў прасочана і пад глінянай падушкай ачага. На астатняй плошчы раскопу сустракаліся асобныя камяні і іх невялікія групы.

Пры зачыстцы мацерыка ў раскопе раскрыта колькасць розначасовых ям. Частка з іх гаспадарчыя або будаўнічыя ямы. Яны вылучаюцца большымі памерамі, глыбінёй і запаўненнем. Пераважная большасць ям у мацерыку мае слупавую канструкцыю і адрозніваецца паміж сабой толькі запаўненнем пласта. Некаторыя маюць вугальнае запаўненне.

Найбольш масавай у раскопе з'яўляецца кераміка 11—17 ст., сярод якой вылучаюцца імпартная белагліняная паліваная кераміка, фрагменты ўсходніх карчаг і амфар 12—13 ст., амфарка кіеўскага тыпу (11 ст.). Да ювелірных вырабаў адносяцца: золата- і сярэбрашкляныя пацеркі, камень-устаўка з горнага хрусталю, канёк-




падвеска, ліраподобная спражка з арнаментам (10—11 ст.), фрагмент арнаментаванага пласціністага бранзалета і пярсцёнкі (кругладротавы з заходзячымі канцамі і рубчасты 11 ст.) з каляровага металу (бронза?). Выяўлены прадметы побыту і прылады працы: шыферныя прасліцы, замкі, ключы, нажы, фрагменты пілы, касы, сякера, наральнік і інш. У раскопе знойдзены таксама фрагмент цугляў, падкова, спражкі, наканечнікі кап'я і стралы. Асартымент прадметаў характарызуе паселішча як частку гарадской тэрыторыі 11—18 ст. Каменная сякера і плоскі канёк-падвеска (10—11 стагоддзі) выкарыстоўваліся ў якасці амулетаў (абярэгаў), што сведчыць пра пэўную ўстойлівасць язычніцкіх рэліктаў у асяродку гараджан у раннім сярэднявеччы. На днішчах шэрагу керамічных пасудзін маюцца клеймы рознай формы, якія, верагодна, з'яўляюцца знакамі майстроў-вытворцаў. Некаторыя даследчыкі схільны надаваць ганчарным клеймам магічны характар. На іх думку, посуд з такімі знакамі павінен быў засцерагаць яго ўладальніка ад уздзеяння звышнатуральных сіл (Тышкевіч К.П. «О курганах в Литве и Западной Руси».




План раскопак у Друцку. 1999 г.

Вильня, 1865. С. 166.). У цэлым знаходкі з раскопу на пасадзе паказваюць, што ён узнік неўзабаве пасля таго, як з'явіўся «град», вядомы як дзядзінец раннесярэдневяковага Друцка. Выяўленыя прадметы дазваляюць вызначыць рамесны характар паселішча (наяўнасць майстэрні па апрацоўцы металу) і ў той жа час сведчаць пра заможнасць і плацежаздольнасць гарадскога насельніцтва. Пра гэта сведчыць і прывазны керамічны посуд, ювелірныя вырабы імпартнага паходжання. Гэтыя знаходкі паказваюць развіццё гандлёвых сувязей горада з паўднёвымі землямі, адкуль яны паходзяць.

Паміж валамі гарадзішча і вакольнага горада з заходняга боку была закладзена траншэя шырынёй 2 м і даўжынёй 24 м, арыентаваная з паўднёвага захаду на паўночны ўсход уздоўж паўночнага вонкавага краю вала гарадзішча. Прарэзка ажыццёўлена з мэтай прасачыць размяшчэнне напластаванняў на ўчастку, які непасрэд-

Металічныя вырабы і амфарка кіеўскага тыпу з пасада ў Друцку. Раскопкі В.М.Ляўко.



на прылягае да вала гарадзішча з яго вонкавага боку. Плошча гэтага раскопу склала 48 м$^2$.

У ім выяўлены 4 пласты, якія адрозніваюцца структурай, колерам і зместам матэрыялаў. Верхні пласт — перамяшаны, аддзелены ад змешчанага ніжэй пахаваным дзірваном. У гэтым пласце сучасныя прадметы размешчаны побач са старажытнай керамікай. Паводле звестак мясцовых жыхароў насып быў узведзены каля 10 гадоў назад для абгароджвання лесапільні, якая цяпер размешчана на тэрыторыі вакольнага горада.

Пад верхнім пластом знаходзяцца культурныя адклады, што ўтварыліся ў працэсе ўзвядзення вала гарадзішча, падсыпак і далейшай забудовы аж да 14—16 ст. Гэтыя напластаванні адпавядаюць матэрыялам, выяўленым у раскопе № 1. Але паміж 2-м і 3-м пластамі, якія датуюцца знаходкамі 12—16 стагоддзяў, маецца праслойка пяску са жвірам, попелам і ўключэннямі гліны, якая дасягае магутнасці 1—1,2 м. У ёй прачытваюцца і сляды згарэлых драўляных збудаванняў паміж валамі. У верхняй частцы знойдзены цуглі, якія могуць датавацца 12—14 ст.

Ніжні пласт адпавядае ніжняму пласту раскопу № 1, але ў адрозненне ад 2-га і 3-га пластоў ён выяўлены толькі на асобных участках раскопу. Часам ён змяшаны з жоўтай і блакітнай глінай. Мацярык у раскопе ўздымаецца з усходу на захад на 1,2 м. Максімальны ўздым сучаснай і пахаванай дзённай паверхні прасочаны ў гэтым напрамку да 1,45 м.

Паколькі прарэзка паміж валамі закранула толькі ніжні вонкавы край вала гарадзішча, то выяўленыя ў ёй пласты, звязаныя з насыпам вала і наступнымі падсыпкамі, даюць самае агульнае ўяўленне пра характар насыпу вала і час яго ўзвядзення. Паўднёвы профіль фіксуе магчымыя ўнутрывальныя канструкцыі, а на паўночным маюцца сляды драўляных наземных збудаванняў паміж валамі ў розныя перыяды іх функцыянавання.

У падножжы насыпу вала ў паўднёвым профілі фіксуецца вялікая колькасць буйных і сярэдніх валуноў, якая дасягае ў вышыню 0,6—0,8 м. Яна перакрыта магутным слоем (да 1 м) цвёрдай гліны блакітнага колеру. Частка камянёў знаходзіцца ў пласце гліны, якой, магчыма, ушчыльнялася прастора паміж імі. Меншыя групы камянёў фіксуюцца і на іншых участках прарэзкі. Іх таксама перакрывае праслойка блакітнай гліны невялікай магутнасці. Ці можна ўсе выяўленыя камяні звязваць з узвядзеннем вала? Гэтае пытанне не цалкам зразумелае. Мяркуецца, што тая частка камянёў, якая выяўлена на заходнім участку раскопу, можа ў комплексе з глінай суадносіцца з ядром вала гарадзішча. Сляды пажару, што перакрываюць гэтае ядро, могуць быць слядамі ўнутрывальных драўляных канструкцый




Знаходкі з раскопак Друцка: 1—4 — з вакольнага горада; 5 — з дзядзінца. Раскопкі В.М.Ляўко.

пачатковага этапу функцыянавання вала. Усе наступныя падсыпкі пяску, гліны і праслойкі вугалёў з попелам фіксуюць неаднаразовае разбурэнне драўляных канструкцый на вале і ўмацаванне самога насыпу вала. Пласт, які адклаўся над верхняй пясчанай праслойкай, адпавядае апошняму этапу ўтварэння культурных адкладаў, калі не адбывалася ніякай грунтоўнай перабудовы абарончых збудаванняў.

Невялікую колькасць прадметаў, выяўленых у раскопе, можна звязаць з блізкасцю вала. На розных участках знойдзены нажы, фрагменты наканечніка стралы, мяча, шклянога бранзалета, пярсцёнка з каляровага металу, касцяной накладкі і інш., а таксама бытавая кераміка. Усе гэтыя прадметы ў сукупнасці з керамікай дазваляюць у цэлым датаваць час узвядзення і функцыянавання абарончага вала гарадзішча 11—16 ст.

## Вакольны горад

На тэрыторыі вакольнага горада раскоп закладзены непадалёку ад увахода з заходняга боку і ў непасрэднай блізкасці да вала. Ён выцягнуты з захаду на ўсход.



Ювелірныя вырабы з каляровых металаў з тэрыторыі дзядзінца ў Друцку: 1 — нашыўкі на адзенне; 2 — фрагмент пярсцёнка. Раскопкі В.М.Ляўко.

Агульная плошча гэтага раскопу 132 м$^2$. Магутнасць культурных адкладаў у раскопе з улікам мацерыковых ям дасягае 1,8—2,5 м.

У раскопе прасочаны 4 пласты. Верхні пласт адпавядае верхняму пласту раскопу № 1. У шэрагу месцаў верхні слой аддзелены ад размешчанага ніжэй тонкай праслойкай светлага пяску з глінай. У ім выяўлены фрагменты абгарэлых паліваных плітак. Верагодна, гэта праслойка фіксуе разбурэнне нейкай пабудовы (свецкай або культавай), падлога якой была выкладзена такімі пліткамі. Другі пласт мае цёмную афарбоўку, насычаны вугалямі. У ім прысутнічаюць праслойкі напаленай чырвонай гліны, на якіх выяўлены таксама фрагменты паліваных плітак. У цэлым другі пласт паводле структуры і саставу рэчавага матэрыялу адпавядае сярэдняму слою раскопу № 1. У раскопе № 3 ён займае 3—6 пласты на розных участках. Яго падсцілае трэці слой светла-шэрага колеру, які адпавядае ніжняму слою раскопу № 1. Магутнасць яго нязначная (0,1—0,3 м) і сустракаецца ён на розных участках у пластах 5—8. У гэтым слоі вялікая колькасць вугалёў і найбольш раннія гарадскія матэрыялы. Чацвёрты пласт перадмацерыковы, вельмі светлы, з вялікім уключэннем пяску, прасочаны амаль на ўсёй плошчы раскопу. Мае невялікую (да 0,2 м) магутнасць і ўтрымлівае ляпную кераміку. У слоі адсутнічаюць сляды пажару. У асобных месцах назіраецца інфільтрацыя вугалёў з размешчанага вышэй слоя. У культурных напластаваннях раскопу № 3 маюцца толькі сляды асобных пабудоў, якія не даюць цэласнай карціны. Фрагменты збудаванняў, выяўленыя ў ходзе ра-



Ляпная кераміка з ніжняга пласта вакольнага горада ў Друцку. Раскопкі В.М.Ляўко.

бот, адносяцца да трох верхніх слаёў: кавалкі гарэлага дрэва, плямы напаленай гліны з вугалямі і фрагментамі паліваных плітак у цэнтральнай частцы раскопу, драўляны слуп і спарахнелае бервяно. На ўзроўні перадмацерыка прасочваюцца цёмныя запаўненні ям, якія ўкліняюцца ў мацярык.

Частка з іх (ямы 1—9) маюць гаспадарчае прызначэнне, іншыя — сляды слупоў ад канструкцый. Глыбіня ям розная, як і іх унутранае запаўненне, якое адпавядае слою, да якога яны належаць. Найбольшую цікавасць уяўляюць ямы ўсходняга ўчастка раскопу. Тут у мацерык паглыблены падвальныя памяшканні, якія паводле сукупнасці выяўленай керамікі і стратыграфічнага становішча разбуранай часткі пабудоў папярэдне можна аднесці да 14—16 ст. Частка пабудовы 1, што захавалася, мае форму квадрата, з бакамі 4 × 4 м па вонкавым краі. Падлога гэтага памяшкання, укліненага ў мацярык на 0,8—1 м, была выбрукавана дробнымі камянямі (частка вымасткі захавалася). Сцены складзены з бярвенняў дыяметрам да 0,2 м, сляды якіх захаваліся ў мацерыку. У паўночным вугле памяшкання выяўлена яма. Яна паглыблена ў мацярык адносна ўзроўню падлогі ў падвале на 0,65 м і мае параметры 1 × 1 м. З вонкавага боку да заходняга вугла прылягае яма, паглыбленая ў мацярык на 0,8 м, памерамі 1,2 × 1,6 м. На прасторы, якая прылягае да пабудовы 1 з паўночнага ўсходу і паўднёвага ўсходу, на гэтым жа ўзроўні, што і вымастка падлогі ўнутры яе, выяўлены дробныя камяні, перакрытыя цвёрдай глінай. Гэта дае падставу меркаваць, што пабудова 1 магла быць часткова разбурана позняй забудовай, якая выходзіць за межы раскопу. Яе глыбіня залягання ў мацерыку большая, чым у пабудовы 1. Большую яснасць у планіроўку і прызначэнне пабудоў могуць унесці дадатковыя даследаванні пры пашырэнні плошчы раскопу на тэрыторыі вакольнага горада. Унутры памяшкання пабудовы 2 была таксама раскрыта яма. Раскрытыя фрагменты падвальных памяшканняў блізкія па канструкцыі аналагічным пабудовам 14—17 ст. на тэрыторыі замка ў Дуброўне. Апрача згаданых пабудоў на ўсходнім участку раскопу ў мацерыку зафіксаваны слупавыя ямы, якія могуць адносіцца да больш ранняга часу. Такога ж характару ямы прысутнічаюць і на заходнім участку.

Важным з'яўляецца той факт, што ў раскопе № 3 выяўлена наяўнасць культурных напластаванняў дагарадскога (дадзяржаўнага) перыяду, якія ўтрымліваюць ляпную кераміку 7—9 ст. і, магчыма, пачатку 10 ст. Гэтыя напластаванні можна звязваць з тым перыядам, калі паселішча на тэрыторыі будучага горада магло выконваць функцыі племяннога цэнтра. Адзін фрагмент вялікай пасудзіны мае на-

ляпны валік пад венчыкам, характэрны для Аршанскага Падняпроўя 6—8 ст. Такі тып керамікі звязваецца са старажытнасцямі калочынскай культуры і ўплывам панькоўскай культуры. Апрача ляпной керамікі ў раскопе таксама знойдзены гліняная прасліца з вялікай адтулінай, якая адносіцца да 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. і бронзавы арнаментаваны пінцэт, ніжняя мяжа распаўсюджання якіх вызначаецца 4—5 ст. н.э. Знойдзеныя фрагменты тыгелька, кроплепадобны каляровы метал могуць указваць, як і пінцэт, на наяўнасць тут бронзаліцейнага рамяства. Шэраг прадметаў, выяўленых у ніжніх напластаваннях раскопу на тэрыторыі вакольнага горада, датуецца 10 ст. Да іх адносяцца плоскія ключы ў выглядзе квадратнай лапаткі, якія выкарыстоўваліся з кубічнымі замкамі, што мелі бакавыя Т-падобныя прорэзі (найбольш ранні тып замка), пружынныя нажніцы, пласціністыя арнаментаваныя бронзавыя пярсцёнкі і бранзалеты, званочкі з прарэззю.

Размешчаныя вышэй пласты прадстаўлены шырокім асартыментам вырабаў, якія звычайна звязваюць з умацаванымі часткамі старажытных гарадоў. Тут, як ужо адзначалася, выяўлены сляды згарэлай драўлянай пабудовы, у якой падлога была выкладзена паліванымі пліткамі, што датуюцца 12 ст. Пліткі мелі памеры 10 × 10 см пры таўшчыні 1,3—1,5 см і былі пакрыты палівай зялёнага і жоўтага колераў або паверх аднаго з іх нанесены другі. Асобныя фрагменты плітак чырванавата-карычневатыя. На іх адсутнічаюць сляды раствору. Аднак выяўленыя ў раскопе плямы напаленай чырвона-жоўтай гліны з вугалямі, пры расчыстцы якіх сабрана частка плітак, што пабывалі ў агні, дазваляюць выказаць меркаванне, што пліткі выкладаліся без раствору на гліняную аснову падлогі ў драўляных будынках.

У гэтым раскопе выяўлена таксама імпартная белагліняная паліваная кераміка, фрагменты амфар і карчаг. Сярод вырабаў са шкла пераважаюць бранзалеты рознай тэхнікі выканання, частка з якіх прывазныя (Візантыя). Адзін бранзалет кіеўскага паходжання (13 ст.) адносіцца да вельмі рэдкіх: фіялетавы, пакрыты светлафіялетавымі і чырвонымі ніцямі перавіцця, дробнакручаны. Знойдзены таксама сіняя ўстаўка для пярсцёнка, золаташкляная пацерка, фрагменты празрыстага шкла, распісанага золатам, сіняй і чырвонай эмалямі (Сірыя?).

Бытавыя і гаспадарчыя вырабы з жалеза прадстаўлены ключамі, замкамі, нажніцамі, нажамі, свердзелам, прасліцамі, тачыльнымі брускамі. Выяўлены таксама разнастайныя наканечнікі стрэл, фрагменты даспехаў і накладкі з каляровых металаў. Уся сукупнасць атрыманых з тэрыторыі вакольнага горада матэрыялаў сведчыць пра бесперапыннае развіццё паселішча на дадзеным участку з племяннога часу да канца 16 ст. У адрозненне ад пасада тут адсутнічае кераміка позняга часу (паліваная канца 17 ст.), што можа сведчыць пра спыненне функцыянавання насельніцтва на тэрыторыі вакольнага горада да гэтага часу.

## Дзядзінец (гарадзішча)

На гарадзішчы (дзядзінцы) раскоп № 4 быў прырэзаны да раскопу Л.В.Аляксеева ў заходняй частцы пляцоўкі побач з валам. Плошча гэтага раскопу 100 м$^2$. Магутнасць культурных напластаванняў раскопу з улікам мацерыковых ям дасягала 1,5—2,2 м. Дзённая паверхня мае ўхіл з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Перапад складае 0,2—0,5 м. Мацерыковая паверхня зніжаецца ў паўднёвым напрамку да 0,25 м.

У раскопе вылучаны 3 стратыграфічныя пласты. Верхні пласт, як і ў папярэдніх раскопах, мае шэрую афарбоўку з уключэннем цагельнага бою. Тут таксама выяўлена вялікая колькасць чырвонай абпаленай гліны, вугалёў. Пясок белаватага колеру на асобных участках аддзяляе верхні слой ад размешчанага ніжэй. Магут-




Прарэз паміж валамі дзядзінца і вакольнага горада з боку дзядзінца. Раскопкі В.М.Ляўко.

насць верхняга пласта дастаткова значная. Сярэдні пласт цёмнай афарбоўкі, насычаны вугалем і, у адрозненне ад папярэдніх раскопаў, у ім утрымліваюцца драўляныя канструкцыі дрэннай захаванасці. Магутнасць сярэдняга пласта 0,6—0,7 м. Ніжні слой прадстаўлены светла-шэрымі напластаваннямі невялікай магутнасці і прасочваецца не на ўсёй плошчы раскопу. На паўднёва-заходнім участку раскопу гэты слой мае магутнасць 0,2—0,3 м, насычаны вугалямі і прасочваецца ў многіх запаўненнях мацерыковых ям. Гэты раскоп мае павышаную вільготнасць, што спрыяе захаванню рэштках драўляных канструкцый.

У раскопе выяўлена 5 будаўнічых гарызонтаў. Першы, прадстаўлены чырвонай глінай з вугалямі, фрагментамі абгарэлага дрэва, адзінкавымі камянямі ў верхнім слоі. Да сярэдняга цёмнага слоя адносяцца будаўнічыя гарызонты, якія блізка падыходзяць адзін да аднаго і не заўсёды іх магчыма раздзяліць. У другім гарызонце выяўлены 3 ачагі, складзеныя з дробных і сярэдніх камянёў. Каля аднаго ачага вялікая колькасць камянёў, каля паўднёвага краю раскопу знойдзены жорны, а ў двух іншых месцах побач з рэшткамі драўляных канструкцый выяўлена абгарэлае зерне. На паўднёва-ўсходнім участку раскопу прасочаны фрагменты вымасткі з колатых плах і вугал зруба. У паўночна-ўсходнім вугле раскопу зафіксавана вялікая пляма, якая ўключае вугалі, пясок і гліну, украпленні вапны. Пры яе расчыстцы знойдзены абгарэлыя маёлікавыя пліткі, а таксама камень, апрацаваны ў выглядзе прамавугольнай пліткі таўшчынёй 2,5 см, даўжыня адной яго грані 14 см. Такая самая каменная плітка выяўлена і пад драўлянай вымасткай на паўднёва-ўсходнім участку раскопу.

Канструкцыі 3-га і 4-га гарызонтаў падсцілаюцца белым пяском. У паўднёвай частцы раскопу размяшчаюцца фрагменты пабудоў. Пад вуглы пабудовы 1 пакладзены камяні. У паўночнай частцы раскопу на пясчанай падсыпцы размяшчаюцца рэшткі гаспадарчай пабудовы (згарэлае зерне, ачаг, жарон). Уздоўж усходняй сцяны раскопу ўскрыты 2 фрагменты драўлянага частакола, а каля паўднёвага яго краю побач з пабудовай, якая адносіцца да 4-га гарызонта, знойдзены ачаг.

У мацерыковых ямах з запаўненнем ніжняга слоя (ямы 2, 15) выяўлены драўляныя канструкцыі 5-га будаўнічага гарызонта. Сярод шматлікіх мацерыковых ям гэтага раскопу частка (ямы 1—16) гаспадарчага прызначэння, астатнія ад слупоў і калоў.

Матэрыялы раскопа № 4 у сукупнасці з рэшткамі забудовы дазваляюць зрабіць выснову, што на гэтым участку размяшчаўся гаспадарчы комплекс княжацкага




Шкляныя бранзалеты і пацеркі з тэрыторыі дзядзінца ў Друцку. Раскопкі В.М.Ляўко.

падвор'я. Пра непасрэдную блізкасць гаспадарчых збудаванняў да княжацкага дома сведчаць як знаходкі, так і фрагмент развалу пабудовы з маёлікавымі падлогавымі пліткамі, якая выходзіць за межы раскопу ў паўночна-ўсходнім напрамку.

Паводле звестак, апублікаваных Л.В.Аляксеевым, на заходнім участку дзядзінца (гарадзішча), дзе размешчаны і раскоп 1999 г., выяўлены рэшткі дзвюх вялікіх пабудоў і рэчавы матэрыял, якія дазволілі даследчыкам выказаць думку, што тут знаходзілася княжацкая рэзідэнцыя. У раскопе № 4 выяўлены таксама матэрыялы, якія могуць пацвердзіць гэтае меркаванне. Выяўлены ажурныя квадратныя металічныя бляшкі-нашыўкі на вопратку (арнамент — грыфоны), якія звычайна датуюцца 2-й палавінай 12 — пачаткам 13 стагоддзя. Такія бляшкі, прымаючы пад увагу метал (серабро?) і арнаментыку, маглі аздабляць княжацкае адзенне або га-

лаўны ўбор. Выяўлены таксама пярсцёнак з металу жоўтага колеру (золата?) з устаўкай. Апрача гэтых аздабленняў у раскопе сабрана вялікая колькасць шкляных бранзалетаў, выкананых у рознай тэхніцы (многія з іх паходзілі з Візантыі, Кіева), пацеркі (таксама з Візантыі, Пярэдняй Азіі). Да імпарту належаць і фрагменты шкляных кубкаў. Асаблівую цікавасць выклікаюць загатоўкі — шкляныя палачкі, празрыстыя або крыху матавыя, са слядамі апрацоўкі. Яны выяўлены ў верхніх пластах, і, магчыма, выкарыстоўваліся для мясцовага вырабу шкляных упрыгожанняў пасля таго, як спыніліся паступленні з паўднёвых земляў. У раскопе выяўлены пасудзіны з гліны з разнастайнымі клеймамі на днішчах. Тут знойдзена таксама значная колькасць нажоў, шыферных прасліц, ключоў і інш. прадметаў вотчыннай гаспадаркі. Сярод прадметаў побыту і гаспадаркі сустрэліся каменныя сякеры (абярэгі) і амулет у выглядзе бронзавага ключыка.

У цэлым матэрыялы і стратыграфія гэтага раскопу пацвярджаюць храналогію дзядзінца і яго сацыяльную сутнасць у дзяржаўны перыяд існавання, вызначаныя Л.В.Аляксеевым. Нельга не пагадзіцца з гэтым даследчыкам па двух пытаннях.

Па-першае, быць бяспрэчным прэтэндэнтам на ролю племяннога цэнтра, як лічыць Л.В.Аляксееў, дзядзінец (гарадзішча) не можа ў святле новых даследаванняў. Раскопкі на тэрыторыі вакольнага горада паказалі наяўнасць тут культурных напластаванняў племяннной пары. І цяпер трэба будзе высветліць, на якім жа з двух узвышшаў сапраўднасці ў дагарадскі перыяд размяшчаўся племянны цэнтр. Бясспрэчна толькі тое, што на тэрыторыі дзядзінца (гарадзішча) выяўлены арбалетная фібула, датаваная 4—5 стагоддзямі і некалькі фрагментаў ляпной керамікі канца 1-га тысячагоддзя н.э. (Алексеев Л.В. «Полоцкая земля в IX—XIII вв.» М., 1966. С. 151, 152.). Наяўнасць гэтых знаходак на дзядзінцы ўказвае на заселенасць участка ў племянную эпоху. Аднак слой гэтага часу стратыграфічна не вылучаны ў ніводным са шматлікіх раскопаў на дзядзінцы і, верагодна, у адрозненне ад участка на вакольным горадзе засяленне тэрыторыі дзядзінца ў племянны перыяд было нязначным і нядоўгачасовым. Таму больш пераканаўчым выглядае размяшчэнне племяннога цэнтра на тэрыторыі вакольнага горада. З уключэннем Друцка з акругай у склад Полацкай зямлі новы, ужо дзяржаўны ваенна-адміністрацыйны цэнтр «град» ствараецца на тэрыторыі, дзе пазней была размешчана княжацкая рэзідэнцыя дзядзінца, а ў 14—16 стагоддзях — Верхні замак. На карысць такога меркавання, апрача археалагічных дадзеных, ускосна сведчыць дакумент 1544 г., дзе былы вакольны горад названы «Ніжнім гарадзішчам». Магчыма, назву «гарадзішча» больш правільна выкарыстоўваць у дачыненні да гэтага ўзвышша.

Па-другое, на падставе знаходак паліваных плітак падлогі ў двух месцах на тэрыторыі дзядзінца і на вакольным горадзе Л.В.Аляксееў робіць выснову пра наяўнасць трох храмаў. Даследчык адзначае, што ўсе пліткі паходзяць «амаль з аднаго ўзроўню верхніх слаёў дзядзінца і вакольнага горада» [Алексеев Л.В. Минск и Друцк // Славяне и их соседи (археология, нумизматика, этнология). Мн., 1998. С. 14—15].

Між тым, паліваныя пліткі, знойдзеныя пры раскопках 1999 г. на тэрыторыі вакольнага горада і дзядзінца, паходзяць з сярэдняга слоя 2-й палавіны 12 ст. і толькі час разбурэння збудаванняў фіксуецца верхнім слоем з керамікай 13—14 ст. Прасочаную Л.В.Аляксеевым у адной з вялікіх пабудоў княжацкай рэзідэнцыі ў заходняй частцы дзядзінца глінабітную падлогу можна суаднесці з такім самым гліняным фундаментам падлогі на вакольным горадзе, пры расчыстцы якой у 1999 г. былі знойдзены паліваныя пліткі. Нам здаецца цалкам магчымым, што маёлікавыя пліткі маглі пакрываць падлогі не толькі храмаў, але і свецкіх пабудоў. Гэта пацвярджаецца знаходкамі плітак у заходняй («княжацкай») частцы дзядзін-




План гарадзішча каля в. Кісялі. Раскопкі В.М.Ляўко. 1988—89 гг.

ца. Адзінкавыя знаходкі прадметаў, звязаных з наяўнасцю сакральнай пабудовы (фрагменты хораса) на тэрыторыі дзядзінца, і найбольшая колькасць паліваных плітак у яго паўднёва-ўсходняй частцы непадалёк «рамеснага» квартала могуць указваць прыблізнае месцазнаходжанне аднаго храма. Ім, верагодна, з'яўлялася царква Св. Багародзіцы, пра якую ідзе размова ва ўкладным запісе Друцкага евангелля 14 ст. Зыходзячы з таго, што гэты храм «въ граде во Дрютьсце» быў пабудаваны ў 1001 г., ён з'яўляўся галоўным на працягу шэрагу стагоддзяў і мог аднаўляцца пасля пажару 1116 г., які, мяркуючы па стратыграфіі раскопаў, дашчэнту знішчыў не толькі дзядзінец, але і іншыя часткі горада.

Як адзначае Л.В.Аляксееў, забудова дзядзінца аднаўлялася адначасова ў розных яго частках, але і ў 1127 г. горад зноў гарэў. Таму нам ўяўляецца дастаткова лагічным, што асноўнае будаўніцтва на тэрыторыі дзядзінца і вакольнага горада пачало ажыццяўляцца пасля вяртання сыноў Барыса Усяславіча з візантыйскай ссылкі, г.зн. пасля 1140 г., калі знешнепалітычнае становішча адносна стабілізавалася. Менавіта з 2-й палавіны 12 ст. паводле складу знаходак прасочваецца росквіт гарадскога жыцця як ва ўмацаванай частцы, так і на пасадзе. Да гэтага ж часу адносяцца і драўляныя збудаванні, падлогі якіх былі выкладзены маёлікавай пліткай. Адсутнасць прадметаў хрысціянскага культу ў раскопе на вакольным горадзе не дазваляе атаясаміць пабудову, у якой падлога была вымашчана маёлікавымі пліткамі, з храмам. Хаця такое меркаванне магчыма. У 2-й палавіне 12 стагоддзя вакольны горад з'яўляўся месцам жыхарства багатай часткі насельніцтва горада, пра што сведчаць знаходкі ў раскопе № 3, таму не выключаецца, што выяўленая пабудова мела свецкае прызначэнне.

## Наваколле Друцка ў раннім сярэднявеччы

У 1987—1990 гадах былі праведзены даследаванні курганнага могільніка каля в. Драздова, гарадзішчаў каля вёсак Кісялі і Багрынава Талачынскага раёна.

Гарадзішча каля в. Кісялі размешчана на высокім (15 м) узгорку правага берага р. Крывая (левы прыток р. Друць). Пляцоўка прамавугольнай формы 42 × 32 м, выцягнута з усходу на захад. Падковападобны вал, што праходзіць уздоўж краю пляцоўкі, мае вышыню ў цэнтральнай частцы 8,2 м, памяншаючыся ў напрамку краёў да 1,5—1 м. З усходняга боку гарадзішча ўмацавана яшчэ двума валамі вышынёй 1,2—1,5 м. Глыбокі яр з поўдня аддзяляе гарадзішча ад суседняга ўзгорка, на якім размешчана паселішча. Два раскопы агульнай плошчай 152 $м^2$ былі закладзены ў паўднёва-заходняй і шурф плошчай 16 $м^2$ у паўночна-заходняй частках га-




Унутрывальныя канструкцыі 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя да н.э.: 1 — гарадзішча Багрынава; 2 — гарадзішча Кісялі. Раскопкі В.М.Ляўко.

радзішча. У выніку раскопак устаноўлена, што на гэтым гарадзішчы ніжнія напластаванні ўтрымліваюць архаічныя формы керамікі выгляду мілаградскай культуры, а таксама выяўлены матэрыялы культур штрыхаванай керамікі і позназарубінецкай. Найбольшую цікавасць уяўляюць сярэдні і верхні пласты гарадзішча, што адносяцца да ранняга сярэднявечча і дазваляюць вызначыць, якое насельніцтва займала акругу Друцкага гарадзішча ў гэты перыяд. У ходзе раскопак выяўлены ўчастак кальцавога вала, які акружаў пляцоўку гарадзішча ў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. і быў часткова разбураны пры пашырэнні пляцоўкі і збудаванні новых, больш магутных земляных умацаванняў, верагодна, ужо ў раннедзяржаўны перыяд. Менавіта гэтыя ўмацаванні захаваліся да нашага часу. На раскрытым участку шырыня кальцавога вала склала 4—4,5 м пры таўшчыні да 1 м. У ніжняй частцы насыпу выяўлены рэшткі рашотчатай унутрывальнай канструкцыі. Мяркуючы па стратыграфіі раскопу, па верху насыпу вала размяшчалася драўляная агароджа. Пра гэта сведчаць як слупавыя ямы вялікага дыяметру, што прарэзалі насып і змешчаны ніжэй напластавання, так і рэшткі абгарэлых бярвенняў на мяжы залягання верхняга культурнага пласта, які перакрыў насып кальцавога вала. З боку пляцоўкі гэты вал быў умацаваны адмосткай з камянёў сярэдняй велічыні. Як паказалі даследаванні, аналагічная канструкцыя вала была характэрная для шэрагу гарадзішчаў Аршанскага Падняпроўя ў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э.

Найбольш выразна гэтая канструкцыя прасочана пры раскопках вала гарадзішча каля в. Багрынава. Тут унутрывальныя збудаванні з бярвенняў дыяметрам 0,12—0,15 м былі ўкладзены двума радамі на адлегласці 1,2 м, паўтараючы контур пляцоўкі. На іх перпендыкулярна на такой самай адлегласці клалася яшчэ некалькі радоў бярвенняў, утвараючы клеці, якія запаўняліся зямлёй (Левко О.Н., Колосовский Ю.В. К вопросу о культурной приналежности городищ 3-й четверти 1-го тыс. н.э. Оршанского Поднепровья // Археалогія і старажытная гісторыя Магілёўшчыны і сумежных тэрыторый. Магілёў, 1994. С. 133—141). Больш палавіны ад усіх выяўленых на гарадзішчы Кісялі фрагментаў ляпной керамікі 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. прадстаўлена акруглабокімі формамі са звужанай гарлавінай, выгнутай шыйкай і прыўзнятым круглаватым плечуком. Край венчыка закруглены. Другі пераважны від ляпной керамікі гэтага часу (35—40%) мае цыліндраканічныя




Вырабы з каляровых металаў (1—7), жалеза (8), бурштыну (9), шкла (10—11) з гарадзішча Кісялі. Раскопкі В.М.Ляўко.

контуры з перагібам на сярэдзіне. І, нарэшце, трэцюю нешматлікую групу (да 5%) складаюць гаршкі з валікам пад венчыкам, які можа быць арнаментаваны косымі насечкамі. Пры супастаўленні гэтай керамікі з сінхроннымі матэрыяламі іншых помнікаў выяўляецца іх аналагічнасць керамічным комплексам гарадзішчаў Аршанскага Падняпроўя, а таксама найбольшая блізкасць да керамікі калочынскай культуры. У матэрыялах апошняй прысутнічаюць усе адзначаныя на гарадзішчы Кісялі віды керамікі, у т.л. і гаршкі з валікам пад венчыкам. Апошнія сустракаюцца таксама на помніках карчакскай і пяньkoўскай культур.

Нешматлікі матэрыял з тэрыторыі вакольнага горада Друцка не дазваляе аднесці гэтыя пасяленні да ліку помнікаў калочынскай культуры. Аднак і тыя адзінкавыя формы, што маюцца ў нашым распараджэнні, сведчаць пра наяўнасць у ляпной кераміцы Друцка элементаў, падобных да раннесярэдневяковых форм гарадзі-



Глінянае вядзёрка з кургана каля в. Замошша. Раскопкі З.М.Сяргеевай.

шча Кісялі (акруглабокасць, валік пад венчыкам). Не менш цікавыя і керамічныя формы на гарадзішчы Кісялі, якія адносяцца да верхняга пласта. У яго ніжняй частцы выяўлены ляпныя, але падпраўленыя на ганчарным крузе фрагменты пасудзін ярка тэракотавага колеру з добра згладжанай паверхняй. Яны маюць высокі прамы або крыху скошаны ўсярэдзіну венчык, арнаментаваны хваляй па венчыку і тулаву; пасудзіны акруглабокія, плечукі апушчаныя. Гэтая кераміка можа датавацца 9 — пачаткам 10 ст. У цэлым яна не мае працягу ў матэрыялах 10—11 стагоддзяў Аршанскага Падняпроўя. Аднак пры раскопках курганнага могільніка каля в. Драздова, які датуецца 10 — пачаткам 11 ст. ў адным з курганоў побач з трупаспаленнем рапіўся кругавы гаршчок зграбных прапорцый, ярка тэракотавы з прамым высокім венчыкам, арнаментаваны хваляй і лінейным рыфленнем. Разам з ім у могільніку прысутнічалі гаршкі з карнізікам («манжэтападобным венчыкам»), характэрныя і для друцкага гарадзішча. Гэтыя пасудзіны Л.В.Аляксееў датуе 10 — двума першымі дзесяцігоддзямі 11 ст. Аналагічную кераміку гэты даследчык выявіў і ў курганах з трупаспаленнямі ў бліжэйшым наваколлі Друцка — вёскі Сінчукі, Арава. Значыць, у 10 ст. на тэрыторыі, блізкай да Друцка, апрача форм, характэрных для т.зв. «Гнёздаўскага тыпу» (Алексеев Л.В. Минск и Друцк. С. 11), па-ранейшаму сустракаюцца і формы з прамым высокім венчыкам, якія мелі месца на паселішчах 9 — пачатку 10 ст. З 10 ст. на тэрыторыі акругі Друцка вядомы пахавальныя помнікі ў выглядзе курганных насыпаў. Паводле этнавызначальнага інвентару іх звязваюць з крывічамі (скроневыя бранзалетападобныя кольцы з завязанымі канцамі). Аднак у курганах, асабліва ранніх (з трупаспаленнямі), прысутнічаюць элементы, не характэрныя для крывічоў.

Да такіх элементаў, найперш, адносіцца наяўнасць драўляных канструкцый. Пры раскопках могільнікаў каля вёсак Сінчукі і Арава ў кожным з іх даследавана па адным кургане, якія ўтрымлівалі драўляныя канструкцыі (зрубы або скрынкі вышынёй у адзін вянок) у насыпе. У сярэдзіне гэтых канструкцый размяшчалася па 6 пахавальных урнаў з кальцынiраванымі касцямі і яшчэ па адной выяўлена па-за межамі «скрынак». Памеры драўляных канструкцый 0,7 × 0,7 і 0,8 × 0,8 м. Унутраная частка канструкцыі ў адным выпадку запоўнена слоем попелу таўшчынёй да 7 см, у другім — тлустым чорным слоем таўшчынёй да 10 см, насычаным дробнымі кальцынiраванымі костачкамі. Грунт пад пахаваннямі быў моцна напалены (Алек-



Паясны набор і фібула з кургана каля в. Замошша. Раскопкі З.М.Сяргеевай.

сеев Л.В., Сергеева З.М. Раскопки курганов в Восточной Белоруссии // КСИА. М., 1973. Вып. 135. С. 51—52). Яшчэ адна драўляная канструкцыя такога ж тыпу выяўлена намі ў кургане № 9 могільніка ў в. Драздова. Дробныя кальцыніраваныя косці былі рассыпаны па паверхні попельна-вугальнай плямы, а больш буйныя складзены ў сярэдзіне «скрынкі», але без урны. Л.В.Аляксееў лічыць некаторыя пахавальныя урны каля в. Сінчукі (курган № 3) блізкімі да ляпных і датуе іх 10 ст. Ён адзначае, што сярод найбольш ранняй керамікі мацерыковых западзін друцкага гарадзішча (дзядзінца) адна міскападобная пасудзіна акруглых контураў блізкая да курганных урнаў вёсак Сінчукі і Арава і гэтак жа, як і яны, датуецца пачаткам 11 ст. Астатняя кераміка з ніжняга слоя Друцка больш развітых форм і знаходзіцца значна далей ад курганнай (Алексеев Л.В., Сергеева З.М. Раскопки курганов в Восточной Белорусии. Рис. 14:3).

Такім чынам, на наш погляд ёсць падставы меркаваць, што пахаванні ў курганах паводле абраду крэмацыі, выяўленыя ў акрузе Друцка, не звязаны храналагічна з раннегарадскім пластом, а папярэднічаюць з'яўленню «града» Друцка і суадносяцца з перыядам функцыянавання племяннога цэнтра на адным з друцкіх узвышшаў. Курганы каля вёсак Сінчукі і Арава не ўтрымлівалі рэчаў, якія б указвалі на іх прыналежнасць крывічам. У могільніку каля в. Драздова выяўлены пахаванні як паводле абраду крэмацыі, так і паводле абраду інгумацыі. Часам яны знаходзіліся ў адных і тых насыпах. Тут жа зафіксаваны пахаванні пераходнага тыпу, часткова крэміраваныя. Зближае гэты могільнік з курганамі каля вёсак Сінчукі і Арава наяўнасць пахаванняў паводле абраду крэмацыі, адно з якіх было ў «скрыні». Таксама




План курганных могільнікаў каля в. Драздова (нумарамі пазначаны курганы, якія даследавала В.М.Ляўко).

Упрыгажэнні крывічоў з курганоў каля в. Драздова. 10—11 ст. Раскопкі В.М.Ляўко.

важнай з'яўляецца знаходка кругавой пасудзіны, вытворнай ад форм 9 ст., побач з трупаспаленнем, што дазваляе датаваць яго не пазней як 2-й палавінай 10 ст. У адрозненне ад папярэдніх двух могільнікаў могільнік каля в. Драздова ўтрымлівае вялікую колькасць рэчаў, якія ўказваюць і на прысутнасць тут крывічоў. Прычым крывіцкія пахаванні зроблены паводле абраду інгумацыі або адносяцца да пераходных і, паводле складу знаходак, у т.л. керамікі, датуюцца канцом 10 — 1-й палавінай 11 стагоддзя. Найбольш раннія пахаванні, верагодна, належаць насельніцтву, якое папярэднічала з'яўленню крывічоў на Друцкім волаку і складала аснову племяннога ўтварэння з цэнтрам у Друцку. Гэтае насельніцтва прадстаўлена як абшчынамі, цэнтры якіх размяшчаліся на гарадзішчах (Багрынава, Кісялі), так і земляробчымі буйнымі адкрытымі паселішчамі «валачан», якім належалі курганныя могільнікі па берагах р. Друць і яе прытокаў. Выяўлены пры раскопках курганоў у Талачынскім раёне [Сергеева З.М. Раскопки курганов в Толочинском районе (БССР) // КСИА. М., 1972. Вып. 129. С. 61—64; Сергеева З.М. Курганы у д. Новинки (Витебская область) // КСИА. М., 1975. Вып. 144. С. 85—90; Левко О.Н. Дроздовский курганный могильник // Историко-археологический семинар «Чернигов и его округа в IX—XIII вв.» Чернигов, 1988. С. 78—80] рэчавы матэрыял сведчыць пра неаднароднасць насельніцтва гэтага рэгіёна з перавагай крывічоў у 11—12 ст. У той жа час формаўтваральныя прыкметы керамікі з гарадзішчаў і ран-



Упрыгажэнні з курганоў каля в. Навінка. Раскопкі З.М.Сяргеевай.



Пацеркі з курганоў каля в. Драздова. Раскопкі В.М.Ляўко.

нія курганныя пахаванні паводле абраду крэмацыі ўказваюць на яго славянскі этнас ужо ў 8 — 1-й палавіне 10 стагоддзя, да з'яўлення крывічоў.

Пры разглядзе славянскіх культур 8—9 ст. правабярэжжа Дняпра высвятляецца, што курганныя пахаванні 8—9 ст. культуры тыпу Лука-Райкавецкая паводле абраду крэмацыі часам акружаліся драўлянымі загародкамі. Керамічныя формы гэтай культуры эвалюцыянуюць ад пражска-карчакскіх старажытнасцей, а пэўная акруглабокасць лука-райкавецкай керамікі прыўнесена ўплывам пянькоўскай культуры. На найбольш позніх лука-райкавецкіх помніках зафіксаваны кругавы посуд з «манжэтападобным» венчыкам (Археология Украинской ССР. 1986. С. 181, 183, 186). Верагодна, паселішчы на Друцкім волаку (гарадзішчаў у Талачынскім раёне значна менш, чым могільнікаў) апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. належалі насельніцтву, якое перамясцілася сюды з больш паўднёвых рэгіёнаў.

У межах курганнага могільніка каля в. Драздова раскапаны адзін насып




План пасяленняў у Талачыне і яго акрузе. 10—16 ст.

дыяметрам 18 м, вышынёй 0,8 м. Стратыграфія насыпу паказала, што верхні слой таўшчынёй да 0,1 м перакрывае тры кольцападобныя валы вышынёй 0,5—0,6 м, якія ўяўляюць канцэнтрычную акружнасць з паглыбленнем у цэнтры. Каля паднsocket паглыблення знойдзены бронзавы пярсцёнак з заходзячымі канцамі і фрагмент жалезнага нажа. У разрэзе насыпу прасочаны 6 тонкіх попельна-вугальных праслоек, якія ўтварыліся ў розны час пры абпальванні паверхні валоў. Гэтае збудаванне нагадвае сваёй канструкцыяй язычніцкія свяцілішчы і магло служыць месцам памінання памерлых [Левко О.Н. Серднevековая Орша и ее округа (историко-археологический очерк). Орша, 1993. С. 42].

Прыведзены матэрыял сведчыць пра тое, што ў 10 ст. на тэрыторыі акругі Друцкага племяннога цэнтра быў пашыраны язычніцкі абрад пахавання. Пераход да інгумацыі ажыццяўляўся, але не паўсюдна з рубяжа 10—11 ст. Але ў цэлым, нягледзячы на ўвядзенне хрысціянства і пабудову храма ў «граде» Друцку ў 1001 г., частка сельскага насельніцтва прытрымлівалася язычніцкіх вераванняў аж да канца 12—13 ст.

## Друцкі замак

Радавое гняздо князёў Друцкіх, пра якіх згадваюць пісьмовыя крыніцы 14—16 ст., у некаторых з іх названа Друцкім замкам. Раскопкі на тэрыторыі дзядзінца (гарадзішча) і вакольнага горада дазваляюць ідэнтыфікаваць Друцкі замак з пло-




Вулічныя драўляныя насцілы 16—18 ст. у цэнтральнай частцы г. Талачын. З археалагічных назіранняў В.М.Ляўко.

Талачын. Цэнтральная вуліца.

шчай, што займаюць абодва ўмацаваныя ўчасткі (верхні і ніжні). У 1396 г. друцкія князі з баярамі сваімі даюць прысягу вернасці князю Вітаўту. З пачатку 14 ст. Друцк неаднаразова трапляў у сферу ваенных дзеянняў: 1506, 1514, 1524, 1535 гады. Паводле звестак беларуска-літоўскіх летапісаў, крымскі хан Махмет-Гірэй у 1506 г. «в Друцку много зла сотворил» (ПСРЛ. Т. 32. С. 101, 170). У гэты час тэрыторыя замка, а таксама прылеглага да яго мястэчка належала прадстаўнікам князёў Друцкіх-Горскіх — Любецкіх-Талачынскіх. Так, дакумент 1544 г. фіксуе частку «держания» князя В.Ю.Талачынскага: «... в замку Одруцку, которые части мне перешли от братьи моей, тых частей моих $^1/_3$ часть в замку Верхнем и в Нижнем городище, и на месте у дворищах мещанских, и в огородах, и в землях пашных тых на дворищ мещанских». Навакольныя вёскі Дудаковічы, Сакольня (Саколіна), Талачын, Круглае, Канапляне (Канапельчыцы), Коханава, Сянно і інш. неслі павіннасці на карысць Друцкага замка ў выглядзе «городовой работы». Насельніцтва гэтых вёсак таксама хавалася за сценамі Друцка ў час ваеннай небяспекі. М.А.Ткачоў прыводзіць звесткі, што ў канцы 16 ст. на Верхнім замку Друцка стаялі 2 драўляныя вежы, у т.л. і вежа-брама, і знаходзілася 80 гародняў, а паміж імі 2 дамы (Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991. С. 137).

Л.В.Аляксееў адзначае, што пласты 13—14 ст. на Друцкім дзядзінцы (гарадзішчы) прадстаўлены значна слабей старажытнарускіх. Большая частка рэчаў з дзядзінца (Верхняга замка) датуецца не пазней 1-й палавіны 16 ст. Адсутнасць упамінанняў пра Друцк у крыніцах перыяду вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гадоў дала падставу даследчыкам выказаць меркаванне, што да гэтага часу Друцкі замак спыніў сваё існаванне (Л.В.Аляксееў, М.А.Ткачоў).

Праведзеныя ў 1999 г. археалагічныя даследаванні на тэрыторыі дзядзінца (гарадзішча) і вакольнага горада Друцка паказалі, што ў межах умацаванай часткі паселішча, як і на пасадзе, маюцца напластаванні 14—16 ст. і, верагодна, асобныя рэчы датуюцца 17 ст. На вакольным горадзе зафіксаваны рэшткі 2 пабудоў з сутарэннымі памяшканнямі, якія папярэдне датаваліся 14 і 16 ст. Канструкцыя гэтых пабудоў характэрная для забудовы замкаў Аршанскага Падняпроўя гэтага часу (Левко О.Н. Археологическое изучение Дубровенского замка // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1998. С. 167—168).

З Друцкам цесна звязаны ўладанні асобных галін княжацкага роду. Да даследаваных археалагічна адносяцца пасяленні ў г. Талачын і в. Багрынава Талачынскага раёна.

Талачын упершыню згадваецца ў крыніцах пад 1433 г. Яго найстаражытнейшая тэрыторыя, верагодна, можа быць атаясамлена з існуючымі цяпер вёскамі Стары Талачын, Слабада. Тут у 1980 г. намі праведзены невялікія разведвальныя работы, якія выявілі познасярэдневяковы культурны слой. Побач з гэтымі вёскамі знаходзіцца курганны могільнік (Загараддзе), які ўказвае на існаванне яшчэ больш ранняга пасялення. Разам з вёскамі Азерцы, Канапельчыцы, Саколіна, Валосава і інш., што належалі роду князёў Друцкіх, Талачын у 16 ст. ўваходзіў у вялікія ўладанні князя Васіля Талачынскага, сына Юрыя Шышэўскага. У канцы 16 ст. мястэчка Талачын разам з іншымі землямі князёў Друцкіх трапляе ва ўласнасць Сапегаў.

У гэты час Львом Сапегам заснавана новае мястэчка за ракой Друць. У ім у 1604 г. пабудавана мураваная царква. З сярэдзіны 17 ст. Талачын — гандлёвае



Касцёл святога Антона ў Талачыне.

мястэчка Аршанскага павета Віцебскага ваяводства. У пачатку 18 ст. тут пабудаваны таксама касцёл.

У 1987 г. ў час пракладкі траншэяў газаправода прасочаны характар і магутнасць культурных напластаванняў уздоўж вул. Леніна і бакавых вуліц у цэнтральнай частцы г. Талачын, якія адыходзяць ад яе. Магутнасць культурных напластаванняў склала ад 0,3—0,4 м да 1,5 м. Тры ярусы драўляных маставых выяўлены ў раёне сучаснай цэнтральнай плошчы, у баку ад яе пад трасай сучаснай вул. Леніна адыходзілі яшчэ 2 ярусы драўляных маставых. На рагу вуліц Леніна і Энгельса і ўздоўж вул. Энгельса фіксуюцца некалькі вянкоў драўляных пабудоў і фрагмент пабудовы з вялікамернай цэглы на вапне. Накірункі вуліц і выяўленыя ўчасткі забудовы сведчаць пра стабільнасць планіроўкі мястэчка і сучаснага горада з канца 16 ст. За ручаём Шчань, які ўпадае ў р. Друць, культурны слой адсутнічае, што дазваляе вызначыць межы пашырэння сярэдневяковага мястэчка ва ўсходнім напрамку. Сярод знаходак, выяўленых у час археалагічных даследаванняў, матэрыялы, якія датуюцца канцом 16—18 стагоддзяў, у т.л. кафля, гліняны і шкляны посуд, падковы, падэшвы, абцасы і інш. рэчы, якія характарызуюць матэрыяльную культуру мястэчка [Левко О.Н. Средневековая Орша и ее округа (историко-археологический очерк). С. 32—33].

Багрынава — сядзіба князёў Друцкіх-Багрынаўскіх месцілася за 0,5 км на ўсход ад сучаснай вёскі на мысе р. Крывая. Кар'ерам знішчана большая частка сярэдневяковага пасялення, таму не ўяўляецца магчымым аднавіць паэтапнае яго развіц-



Пакроўская царква ў Талачыне.

цё. Праведзеныя намі ў 1988 і 1990 гады археалагічныя даследаванні паказалі, што тут захаваліся рэшткі старажытнага гарадзішча, замчышча і тэрыторыі за межамі земляных умацаванняў, слой якіх адносіцца да 17—18 ст.

Нельга адказаць на пытанне, ці месцілася сама сядзіба князёў Друцкіх-Багрынаўскіх на гарадзішчы? У той жа час на ўчастку, што прылягае да гарадзішча і быў абаронены земляным валам, выяўлены культурныя напластаванні магутнасцю ад 0,3 да 1,4 м. Структурна яны падзяляюцца на 2 пласты. Верхні ўтрымлівае шматлікую кераміку 14—17 ст., кафлю са шматколернай палівай, цэглу-пальчатку, абпаленыя камяні. Невялікія раскопкі не дазваляюць пакуль удакладніць месцазнаходжанне і час існавання феадальнай сядзібы.

# ДАДАТАК

## Друцк у старажытных летапісах

В лето 6624 (1116). Приходи Володимер на Глеба; Глеб бо бяше воевал Дреговичи и Случеск пожег, и не каяшеться о сем, ни покаряшеться, но боле противу Володимеру глаголюще, укаряя и. Володимер же, надеяся на бога и на правду, поиде к Меньску с сынъми своими и с Давыдом Святославичем, и Олговичи. И взя Вячеслав Ръшю и Копысу, а Давыд с Ярополком узя Дрьютеск на щти, а Володимер сам поиде к Смоленьску; и затворися Глеб в граде. Володимер же нача ставити истьбу у товара своего противу граду. Глебови же, узривщю, оужасеся сердцемь и нача ся молити Глеб Володимеру, шля от себя послы. Володимер же съжали си темь, оже проливашеться кровь в дьни постьныя великого поста, и вдасть ему мир. Глеб же, вышед из города с детми и с дружиною, поклонися Володимеру, и молвиша речи о мире, и обещася Глеб по всему послушати Володимера. Володимер же, омирев Глеба и наказав его о всем, вдасть ему Менеск, а сам възратися Киеву. Ярополк же сруби город Желъди Дрьючаном, их же бе полонил.

*«Повесть временных лет». Ч. І. М.; Л., 1950.*

У год 6624 (1116). Прыходзіў Уладзімер (Манамах) на Глеба (Усяславіча), бо Глеб ваяваў дрыгавічоў і Слуцк папаліў і не каяўся аб учыненым, не скарыўся, а (яшчэ) болей на Уладзімера гаварыў, дакараючы яго. Уладзімер жа, спадзеючыся на Бога і на праўду, пайшоў к Смаленску са сваімі сынамі і з Давыдам Святаславічам і з Олегавічамі. І ўзяў Вячаслаў Оршу і Копысь, а Давыд з Яраполкам здабылі Друцк. Сам жа Уладзімер пайшоў к Менску. І зачыніўся Глеб у горадзе. Уладзімер жа пачаў ставіць хату ў сваім лагеры насупраць горада. Калі Глеб убачыў (гэта), то яго апанаваў страх. І пачаў ён прасіць літасці ва Уладзімера, пасылаючы (да яго) сваіх паслоў. Уладзімер жа зжаліўся, што кроў пр..ьецца ў дні вялікага посту і даў яму мір. Глеб жа выйшаў з горада з дзецьмі і з дружынаю пакланіцца Уладзімеру, і гаварылі яны прамовы пра мір. І абяцаў Глеб ва ўсім слухацца Уладзімера. Уладзімер жа, супакоіўшы і строга папярэдзіўшы Глеба, даў яму Менск, а сам вярнуўся ў Кіеў. Яраполк жа пабудаваў горад Жэлдзі для driчан, якіх паланіў.

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.). Мн., «Народная асвета», 1998.*

## З Іпацьеўскага летапісу

В лето 6636 (1128). Того же лета посла князь Мьстислав с братьею своею многы Кривичы, четырьми путьми, Вячьслава из Турова, Андрея из Володимеря, Всеволодка из Городна, Вячьслава Ярославича из Клечьска, тем повеле ити к Изяславлю, а Всеволоду Ольговичю повеле ити с своею братьею на Стрежев к Борисову, Ивана Воитишича посла с Торкы, и сына своего Ростислава посла с Съмолоньяны к Дрютьску, рек им: «В один день всим пустити на вороп, месяца августа в первыинадесять день». Изяслав же ускори днем перед братьею, зая люди от града, они же устрашившеся передашася, а Изяславци почаша

битися с Вячьславом и с Андреем. Изяслав же перестряп 2 дни у Логожьска и иде к Изяславлю, к строеви своему, водя с собою Брячислава, зятя своего, иже бяша пошел к отцю своему, и быв посреде пути и острашився не мога пойти ни семо ни онамо, и иде шюрину своему в руце и Логожаны приведе, иже бе вывел из Логожьска. И видивше Изяславчи князя своего и Логожаны, оже без пакости суть переяли, и дашася, рекше Вячьславу: «Призови ны бога, яко нас не даси на щит». И бысть вечер, Воротислав Андреев тысячькый и Иванко Вячьславль въсласта отрокы своя в город, и свитающю, увидивше вси вои, тако взяша и в ночи, и одва Мьстиславны товар ублюдоша, и то с нужею, боючеся; и тако изворотишася с многым полоном.

Потом же и Новгородци придоша с Мьстиславичем с Всеволодом к Неклочю. И тако Полочане сътъснувшеси, выгнаша Давыда с сынъми, поемше Рогъволода идоша ко Мьстиславу, просяче его собе князем, и створи волю их Мстислав, поемьше Роговолда ведоша и к Полотьску.

У год 6636 (1128; фактычна 1127). У той жа год паслаў князь Мсціслаў сваіх братоў на крывічоў чатырма шляхамі: Вячаслава з Турава, Андрэя з Уладзіміра, Усевалада з Гародні, Вячаслава Яраславіча з Клецка — гэтым загадаў ісці к Ізяслаўлю, а Усеваладу Ольгавічу загадаў ісці са сваімі братамі на Стрэжаў к Барысаву, Івана Вайцішыча паслаў з торкамі, сына ж свайго Ізяслава з Курска са сваім атрадам паслаў на Лагожск (Лагойск; узята з Лаўрэнцьеўскага спіса), а (другога) сына свайго Расціслава паслаў са смалянамі на Друцк. І сказаў (ён) ім у адзін і той жа дзень, 11 жніўня (у Лаўрэнцьеўскім спісе — 4 жніўня), усім пачаць напад. Ізяслаў жа пачаў на дзень раней, чым браты, пераняў людзей ад горада, яны спалохаліся і здаліся (яму). Ізяслаўцы ж пачалі біцца з Вячаславам і Андрэем. Ізяслаў, пачакаўшы два дні ля Лагожска, пайшоў к Ізяслаўлю да свайго дзядзькі, ведучы з сабой і Брачыслава, зяця свайго, які пайшоў да свайго бацькі, але на паўдарозе збаяўся і не мог ісці ні наперад, ні назад, і прыйшоў да свайго швагра і лагажан прывёў, што быў вывеў з Лагожска. Ізяслаўцы, убачыўшы князя свайго і лагажан, якіх без шкоды захапілі, здаліся Вячаславу, сказаўшы (яму): «Пакляніся Богам, што не аддасі нас на разрабаванне». Вечарам Варацілаў, Андрэеў тысяцкі, і Іванка Вячаславіч, паслалі сваіх отракаў у горад, і так на світанні, увёўшы сваіх вояў, здабылі (Ізяслаўль), ледзьве Мсціслаўны набытак зберaглі, з вялікай цяжкасцю б'ючыся. І так вярнуліся дамоў з багатым палонам. Пасля і наўгародцы прыйшлі з Усеваладам Мсціславічам к Неключу. І тады палачане, змовіўшыся, выгналі Давыда з сынамі, узялі Рагвалода (Усяславіча) і пайшлі з ім да Мсціслава, просячы ўзяць яго за князя. І выканаў іх волю Мсціслаў. Узялі яны Рагвалода і павялі ў Полацк.

* * *

В лето 6667 (1159). Том же лете иде Рогъволод Борисовичь от Святослава от Олговича искать собе волости, поем полк Святославль, зане не створиша милости ему братья его, вземше под ним волость его и жизнь его всю; и приехав к Случьску и нача слатися ко Дрьючаном. Дрьючане же ради быша ему, и приездяче к нему вабяхуть и к собе, рекуче: «Поеди, княже, не стряпай, ради есме трбе; аче ны ся и с детьми битя за тя, а ради ся бьем за тя». И выехаша противу ему боле 300 лодий Дрьючан и Полчан, и вниде в город с честью великоб, и ради быша ему людие; а Глеба Ростиславича выгнаша, и двор его разграбиша горожане и дружину его, и приде же Глеб к отцю. И мятежь бысть велик в городе в Полчанех, мнози бо хотяху Рогъволода; одва же установи людье Ростислав, и одарив многыми дарми и води я к хресту, а сам иде с Всеволодом и с Володарем и с всею братьею на Рогъволода к Дрьютьску. Рогъволод же затворися в городе, и бъяхуться крепко, и много от обоих падаху, Дрьючане же укаривахуть много. И створи мир Ростислав с Рогъволодом, и целоваша хрест межи собою, и прида волости Рогъволоду, и воротися Ростислав с братьею въсвояси.

Том же лете съвет зол свещаша на князя своего Полочане на Ростислава на Глебовича, и тако преступиша хрестное целование: на том бо целовали бяше хрест к нему, «яко ты нам, князь, еси и дай ны бог з тобою пожити, извита никакого же до тебе доложити и до хрестного целования». И тако съступиша еже рекше, и послашася вътайне к Рогволоду Борисовичю Дрьютьску, рекуче ему: «Княже наш! Съгрешили есмь к богу и к тобе, оже въста-

хом на тя без вины, и жизнь твою всю разграбихом и твоея дружины, а самого емше выдахом тя Глебовичем на великую муку; да аще ны не помянеши всего того, иже створихом своим безумием, и хрест к нам целуеши, то мы людие твое, а ты еси нашь князь; а Ростислава им емше вдамы в руче, а еже хощеши, то сотвориши ему».

Рогъволод же целова к ним хрест на том, яко не помянути ему всего того, и отпусти я въсвояси. И бяху приятеле Ростиславу от Полцан, оже хотять и яти. И начаша Ростислава звати льстью у братьщину к святей богородици к старей, на Петров день, да ту имуть и; он же еха к ним изволочивъся в броне под порты, и не смеша на нь дьрьзнути. Наутрии же день начаша и вабити к собе, рекуче: «Княже! Поеди к нам, суть ны с тобою речи; поеди же к нам в город»; бяшеть бо князь в то веремя на Белцици. И рече Ростислав послом: «А вчера есмь у вас был; а чему есте не молвили ко мне, а что вы было речи?» — обаче без всякого извета еха к ним у город. И се погна из города детьский его противу ему: «Не езди, княже, вече ти в городе, а дружину ти избивають, а тебе хотять яти». И ту воротися опять и съвъкупися весь с дружиною на Белчици, и оттуда пойде полком к брату к Володареви Меньску, и много зла створи волости Полотьской, воюя, и скоты и челядью. И послашася Полчане по Рогъволода Дрьютьску, и вниде Рогъволод Полотьску месяца июля, и седе на столе деда своего и отца своего с честью великою; и тако быша ради Полчане. И потом Рогъволод съвъкупи вое многы Полчаны, и Ростислав Мьстиславичь пусти ему 2 сына в помочь, Романа и Рюрика, и Внезда, и Смолняны и Новгородци и Плесковичи, и сам бяше пошел: но вороти и Аркад епископ Новгородьский, идя из Киева. И поидоша на Ростислава к Меньску, и придоша первое ко Изяславлю на Всеволода. Всеволод же затворися в Изяславли, и оступиша в городе. Всеволод же бе имя великую любов к Рогъволоду, и на ту любов надеяся, ехав к Рогъволоду поклонися; Рогъволод же вда Изяславль Брячиславу, того бо бяше отцина, и Всеволоду да Сътрежев. И оттуда пойде к Меньску, и стоя у Меньска 10 дний, и створи мир с Ростиславом и хрест целоваша, възвратишася въсвояси; а Володарь не целова хреста, тем оже ходяше под Литвою в лесех.

У год 6667 (1159; фактычна 1158). У той жа год ідзе Рагвалод Барысавіч ад Святаслава Ольгавіча (князя чарнігаўскага) шукаць сабе воласці, узяўшы (на падмогу) полк Святаславаў, бо не літасцівыя былі браты яго: (яны) адабралі ў яго воласць і ўвесь набытак. Прыехаўшы к Слуцку, ён паслаў (сваіх пасланцоў) да дручан. Дручане ж былі рады яму і, прыязджаючы да яго, вабілі да сябе (у Друцк), гаворачы: «Прыязджай, княжа, не марудзь, (вельмі) рады мы табе: нават калі нам з дзецьмі (сваімі давядзецца) біцца за цябе, з радасцю будзем біцца». І выехалі насустрач яму больш як 300 дручан і палачан, і ўвайшоў (Рагвалод) у горад (Друцк) з вялікай пашанаю, і рады былі яму людзі. Глеба жа Расціславіча выгналі і двор яго разрабавалі, і дружыну яго, і прыйшоў Глеб да (свайго) бацькі (у Полацк).

Вялікі мяцеж быў (тады) у горадзе сярод палачан, бо многія хацелі Рагвалода. Ледзьве супакоіў іх Расціслаў, адарыў многіх падарункамі, прыводзіў іх да крыжа (цалаваць), а сам пайшоў з Усеваладам і Валадаром і з усімі братамі на Рагвалода к Друцку. Рагвалод жа закрыўся ў горадзе. І моцна біліся, і шмат з абодвух бакоў палегла. Дручане ж шмат дакаралі (братоў). І ўчыніў мір Расціслаў з Рагвалодам, і цалавалі яны крыж адзін аднаму, і аддалі воласці Рагвалоду. І вярнуўся Расціслаў з братамі дамоў.

У тое ж лета ўчынілі змову палачане супраць князя свайго Расціслава Глебавіча і пераступілі крыжацалаванне, бо яны (раней) цалавалі яму крыж, (гаворачы), што «ты наш князь і дай нам Бог з табою пажыць, ніякай здрады не ўчыніць аж да крыжацалавання». І так адступілі (ад прысягі на крыжы), як я казаў, і паслалі патаемна да Рагвалода Барысавіча ў Друцк, гаворачы яму: «Княжа наш, саграшылі мы перад Богам і перад табою, што выступілі супраць цябе без прычыны, набытак твой увесь і тваёй дружыны разрабавалі, а цябе самога, схапіўшы, выдалі Глебавічам на вялікія пакуты. Калі ж ты не прыпомніш нам усё тое, што мы, неразумныя, табе ўчынілі, і крыж нам пацалуеш, то мы людзі твае, а ты наш князь. Расціслава ж, схапіўшы, аддамо табе ў рукі, і што ты захочаш, тое і зробіш з ім». І Рагвалод прысягнуў (палачанам) на крыжы, што ён не прыпомніць ім усё тое (дрэннае, што яны яму ўчынілі), і адпусціў іх назад.

Сярод палачан былі прыхільнікі Расціслава, (яны паведамілі яму), што яго хочуць схапіць. І пачалі (палачане) лісліва клікаць Расціслава на братчыну да старой (царквы) святой Багародзіцы на Пятроў дзень, каб там яго схапіць. Ён жа паехаў да іх, схаваўшы зброю

пад адзенне, і не пасмелі (змоўшчыкі) напасці на яго. Назаўтра пачалі яго (зноў) вабіць да сябе, гаворачы: «Княжа, прыедзь да нас, ёсць у нас да цябе (важная) справа, прыедзь жа да нас у горад» (тады князь быў у Бельчыцах). І сказаў Расціслаў паслам: «Я ж учора ў вас быў, чаму (нічога) не гаварылі мне, што ў вас была да мяне справа?». І, нічога не падазраючы, паехаў у горад. І тут памчаў з горада яму насустрач дзецкі (слуга): «Не едзь, княжа, веча (сабралася) супраць цябе ў горадзе і дружыну тваю збіваюць, а цябе (самога) хочуць схапіць». І тады вярнуўся (Расціслаў) назад у Бельчыцы, сабраў усю сваю дружыну і адтуль пайшоў да брата (свайго) Валадара ў Менск. І шмат шкоды ўчыніў (ён) Полацкай воласці, ваюючы, (забіраючы) скаціну і чэлядзь. І паслалі палачане па Рагвалода ў Друцк. І ўвайшоў Рагвалод у Полацк месяца ліпеня (8-га дня) і сеў на (княжацкім) стале дзеда свайго (Усяслава) і бацькі свайго (Барыса) з вялікай пашанаю, і так былі рады палачане.

Пасля Рагвалод сабраў шмат вояў палачан і Расціслаў Мсціславіч (князь смаленскі) прыслаў яму двух сыноў на падмогу, Рамана і Рурыка, і (ваяводу) Унезда і смалян, наўгародцаў і пскавічан, ды і сам (Расціслаў) пайшоў бы, але (яго) вярнуў (назад) Аркадзь, епіскап наўгародскі, ідучы з Кіева. І пайшлі ўсе на Расціслава (Глебавіча) к Менску. Спачатку пайшлі да (горада) Ізяслаўля на Усевалада. Усевалад жа зачыніўся ў Ізяслаўлі, і аблажылі горад. Усевалад вельмі любіў Рагвалода і, на тую любоў спадзеючыся, паехаў яму пакланіцца. Рагвалод жа аддаў (горад) Ізяслаўль Брачыславу, бо гэта была яго вотчына, а Усеваладу даў Стрэжаў. І адтуль пайшоў (Рагвалод) на Менск. І стаяў ля горада 10 дзён і ўчыніў мір з Расціславам, і крыж цалавалі. Валадар жа не цалаваў крыж, бо (ён) хадзіў (тады) па лясах каля Літвы.

* * *

В лето 6670 (1162). Том же лете приходи Рогъволод на Володаря с Полотьчаны к Городцю, Володарь же не да ему полку в дне, но ночь выступи на нь из города с Литьвою, и много зла створися в ту ночь, онех избиша, а другыя руками изоимаша множьство, паче изъбьеных; Рогъволод же въбеже в Случьск, и ту быв 3 дни, иде в Дрьютеск, а Полотьску не сме ити: занеже множьство погибе Полотчан; Полотчане же посадиша в Полотьски Василковича.

У год 6670 (1162; фактычна 1161 г.). У той год прыходзіў Рагвалод з палачанамі на Валадара к Гарадцу. Валадар жа не ўступіў з ім у бой днём, а ноччу (раптоўна) напаў на яго з горада разам з літоўцамі. І шмат бяды ўчынілася ў тую ноч: адных (палачан) забілі, а большасць рукамі палавілі. Рагвалод жа ўцёк у Слуцк і, прабыўшы там 3 дні, пайшоў у Друцк, а ў Полацк не пасмеў вярнуцца, бо вельмі шмат загінула палачан. Палачане ж пасадзілі ў Полацку (Усяслава) Васількавіча.

* * *

В лето 6688 (1180). Сдумав же Ярослав с Игорем, поидоста к Дрьютьску, поемше с собою Половце, а Всеволода Игорева брата оставиша Чернигове и Олга Святославича. И придоша полотьскии князи в стрение, помагающе Святославу: Василковича, Брячьслав из Витебьска, брат его Всеслав с Полочаны, с ними же бяхуть и Либь и Литва, Всеслав Микуличь из Логажеска, Андрей Володьшичь и сыновець его Изяслав, и Василко Брацьславичь, — снемшеся вси пойдоша мимо Дрьютьск противу Святославу. И въеха Давыд князь Смоленьский в Дрьютьск со всим полком своим, совокупився с Глебом с Рогъволодичем, и пойде за Ярослава, и хотяшеть Давыд Ярославу и Игореви полк дати до Святослава; Ярослав же и Игорь не смеяста дати полку Давыдови без Святослава, ино идоша во твердая места и стояша межи собою неделю, обапол Дрьюти: но от Давыдова полку приеждивахуть стрелци и бьяхуться с ними крепко. Посем же Святослав приеха с Новгородьчи, и ради быша ему братья его и перегатиша Дрьють, хотяче ехати ко Давыдови; Давыд же заложися ночью и бежа Смоленьску. Святослав же приступи ко Дрьютьску и пожьже острог, и оттоле пусти Новгородьце, а сам пойде к Рогачеву, из Рогачева поеха по Днепру к Кыеву.

*Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. Мн., 1959.*

Старонка з Друцкага Евангелля.

У год 6688 (1180; фактычна 1181). Змовіліся Яраслаў з Ігарам і пайшлі к Друцку, узяўшы з сабою полаўцаў, а Усевалада, брата Ігаравага, і Алега Святаславіча пакінулі ў Чарнігаве. На стрэчыны (8 лютага) прыйшлі і полацкія князі, каб памагчы Святаславу: Брачыслаў Васількавіч з Віцебска, яго брат Усяслаў з палачанамі, з імі ж былі лівы і літоўцы, Усяслаў Мікуліч з Лагожска, Андрэй Валодшыч і яго пляменнік Ізяслаў і Васілька Брачыславіч. Калі ўсе сабраліся, пайшлі міма Друцка насустрач Святаславу. Давыд жа, князь смаленскі, з усім сваім войскам увайшоў у Друцк і злучыўся з Глебам Рагвалодавічам. І хацеў Давыд Яраславу і Ігару даць бой да (прыходу) Святаслава. Яраслаў жа з Ігарам не рашыліся пачаць бітву з Давыдам без Святаслава. Выбраліся яны на сухія мясціны і стаялі тыдзень абапал Друці насупраць адзін аднаго. Ад Давыдавага войска прыязджалі стральцы, і моцна з імі біліся (нашы). Затым прыехаў Святаслаў з наўгародцамі, і рады былі яму яго браты. Перагацілі Друць, збіраючыся ісці на Давыда, аднак ён зняўся ноччу і ўцёк у Смаленск. Святаслаў жа падступіў да Друцка і папаліў астрог; адтуль адпусціў дамоў наўгародцаў, сам жа пайшоў да Рагачова, а з Рагачова паехаў па Дняпры да Кіева.

*«Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.)».*
*Мн., «Народная асвета», 1998.*

*С.А.Акуліч*

## Друцкае Евангелле

Рукапісны помнік усходнеславянскага пісьменства 14 ст. Укладзена князем Васілём Міхайлавічам Друцкім і яго жонкай Васілісай у царкву Багародзіцы ў Друцку (Талачынскі раён), у 1441 г. — віленскім месцічам Конанам у царкву Уваскрэсення Хрыстова ў Вільні, у 18 ст. належала архіепіскапу наўгародскаму Феадосію Яноўскаму. У 1965 г. акадэмік М.М.Ціхаміраў у ліку шэрагу славянскіх рукапісаў (500 кніг 14—19 ст.) перадаў «жамчужыну» сваёй калекцыі — пергаментнае Друцкае Евангелле ў г. Новасібірск.

Напісана на царкоўнаславянскай мове ўставам на 376 старонках фарматам «у аркуш». Тэкст размешчаны ў 2 калонкі па 25—28 радкоў у кожнай. Важнае культурна-гістарычнае значэнне маюць запісы ў канцы рукапісу, якія сведчаць пра існаванне Друцка ўжо ў 10 ст. і пабудову першай царквы ў гэтым горадзе ў 1001 г. Мастацкае аздабленне — застаўкі і 54 ініцыялы тэраталагічнага характару, выкананыя чырвонай фарбай (кінавар).

Друцкае Евангелле зберагаецца ў бібліятэцы Сібірскага аддзялення Расійскай Акадэміі навук. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі ў Мінску знаходзіцца яго фотакопія.

### Літаратура

Тихомиров М.Н. Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968. С. 9—11.

## Запіс на старонцы Друцкага Евангелля

В лето 6509 (1001) створена бысть церкви сия святая Богородица вь граде во Дрютьсце, а служити в неи вседеньная служба, божиею милостью и его пречистыя матере и рабом божьимь князем Васильем Михаиловичемь и его княгинею Василисою. А положил есмь с своею женою Божественное Евангелие и оковал. Да дал святеи Богородице село Моравьиничи и с людьми и со всеми пошлинами и с медовою данью и с селищи и с пожьнями, что ис того села заведають. А что ис тои дани пошлина шла ключнику, та пошлина понамарю, которыи служить у святыи Богородици. Да дал есмь святеи Богородице ис своего села из Видиничь десятину ис жита. А по моемь животе не надобе въступатися ни моимь детемь, ни моимь тивуном, ни иному которому насилнику. А кто имет поискывати, тот дасть отъвет перед богомь на Страшнем суде. А который человек сидить на Торотвине земли, тот дареть 5 пудов меду проскурнице на заупокоиныи на кануны к святеи Богородице. Да дал есмь на память лукъно Якимово, на Худаве полулуконье. А вы бы мои дети темь мя поминали, а моего бы есте слова не починили.

*Археографический ежегодник за 1965 год. М., 1966.*

У год 6509 (1001) у горадзе Друцку была ўзведзена гэтая царква святой Багародзіцы. Міласцю Божаю, Яго прачыстая маці і рабоў Божых князя Васіля Міхайлавіча і яго княгіні Васілісы служыцца ў ёй штодзённая служба. І паклаў я са сваёю жонкаю (у гэтую царкву) святое Евангелле і акаваў (зрабіў абклад). І даў (царкве) святой Багародзіцы сяло Мараўінічы з людзьмі і з усімі пошлінамі, з мядоваю данінаю, з селішчамі і пожнямі, што гэтаму сялу належаць. А тая пошліна з даніны, што ішла (раней) ключніку, (аддаю) дзяку, які служыць у (царкве) святой Багародзіцы. Да таго ж даў я (царкве) святой Багародзіцы са свайго сяла Відзінічы дзесяціну жыта. А пасля маёй смерці (нікому) не квапіцца (на гэта), ні маім дзецям, ні маім цівунам, ні іншаму насільніку. А хто паспрабуе забраць, той будзе адказваць перад Богам на Страшным судзе. Той жа чалавек, які сядзіць на Таротвінай зямлі, павінен даваць (царкве) святой Багародзіцы 5 пудоў мёду для праскурніцы на памінальныя стравы. Даў я таксама на памяць лукно Якімава і паўлукна з Худава. А вы, мае дзеткі, тым бы мяне паміналі, каб маёй волі не парушалі.

## КАМЕНТАРЫЙ

### да запісу на Друцкім Евангеллі

Запіс, зроблены на адвароце апошняй старонкі Друцкага Евангелля, мае асаблівае культурна-гістарычнае значэнне. У ім гаворыцца аб пабудове ў Друцку ў 1001 г. першай царквы, што сведчыць пра існаванне горада на мяжы 10—11 ст. амаль на 100 гадоў раней, чым ён памянуты ў летапісе (1092 г.). Дакумент дае ўяўленне пра гаспадарку буйнога феадала, друцкага князя Васіля Міхайлавіча. У грамаце названы ключнік, які ведае княжацкай гаспадаркай, і княжацкія слугі — цівуны. Князь аддаў царкве сяло Мараўінічы (цяпер в. Мураўнічы ў Талачынскім раёне Віцебскай вобласці) «з людзьмі і з усімі даходамі». Яшчэ князь даў царкве дзесятую частку даходаў са свайго сяла Відзінічы.

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.). Мн., «Народная асвета», 1998.*

*А.А.Юдчыц*

# МІНСК, КІЕЎ, МАСКВА! ПАКЛАНІЦЕСЯ ДРУЦКУ...

— Вось ужо каго пакрыўдзіла Яе Вялікасць Гісторыя — дык гэта Друцк, — гаварыў вядомы журналіст Барыс Фірштэйн, калі мы заехалі аднойчы ў гэта маленькае паселішча. — Хто ў параўнанні з Друцкам «зазнайка»? — Масква або «выскачка» Мінск? Ды іх яшчэ ніхто і ведаць не ведаў, калі Друцк ужо грымеў на ўсю Еўропу. Масква маладзейшая за Друцк на 150 гадоў, Мінск — на 70...

Друцк — летапісны Дрютеск, Друтеск, Друческ — старажытны горад Полацкай зямлі, цэнтр Друцкага княства. Цэнтр рамёстваў, гандлю, пісьменства. У Іпацьеўскім летапісе ён упамінаецца 10 разоў.

У Друцкім княстве быў свой, кажучы сучаснай мовай, двухпалатны вярхоўны савет — народнае веча і баярская рада. Яны праводзілі пасяджэнні ў замку ці «пастоі» на замчышчы. З пачуццём уласнай годнасці Друцк размаўляў калісьці з Кіевам, Масквой, Мінскам і Смаленскам, з Балтыяй і Візантыяй. Друцкія князі заяўлялі свае правы на вялікае княжанне ў Кіеве і Полацку.

Аднаго разу князь Ігар (той самы — герой «Слова аб палку Ігаравым») спрабаваў авалодаць Друцкам, але яму гэта не ўдалося. Тады горад выстаяў. Калі б у тыя даўнія часы існавала мода на ўзнагароды, то, магчыма, быў бы адліты медаль «За абарону Друцка».

Друцкая дружына адважна змагалася з татарамі на полі Куліковым.

Нейкі час Друцк моцна сапернічаў з Мінскам, друцкія князі чамусьці не ўжываліся, ваявалі з мінскімі. Хто ўзяў верх у гэтых бітвах — зразумела, паколькі цяпер сталіца Беларусі знаходзіцца не ў Друцку, а ў Мінску. Хоць магло быць, самі разумееце, і наадварот. І та-



Помнік на ўшанаванне памяці 90 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг. Вёска Друцк. Пастаўлены ў 1967 г.

ды, магчыма, Мінск у 2000 годзе быў бы ціхай вёсачкай над Свіслаччу.

У Друцку быў сабор, які, паводле запісу ў Друцкім Евангеллі, будаваўся ў 1001 годзе і з'яўляўся, як сцвярджаюць спецыялісты, першай праваслаўнай царквой на беларускай зямлі. «Створена бысть церкви сия святая Богородица въ граде во Дрютьсце...»

Беларускі княжацкі род Друцкіх быў шырока вядомы ў Расіі, Вялікім княстве Літоўскім. Прадстаўнікі гэтага роду, як правіла, мелі двайныя прозвішчы — у залежнасці ад назваў сваіх маёнткаў: Друцкія-Любецкія, Друцкія-Саколінскія, Друцкія-Азярэцкія, Друцкія-Талачынскія... Яны былі ваяводамі, міністрамі, членамі дзяржаўнай рады.

Прычына заняпаду Друцка не высветлена. Хутчэй за ўсё горад змізарнеў пасля чарговай асады ці ад пажару і больш не ўзнавіўся.

Засталіся валы, ірвы, курганы. Засталося тое, што засталося.

Значэнне Друцка ў агульнай і вайсковай гісторыі ўсходніх славян велізарнае. Друцкія курганы берагуць «памятку дзён, што ў нябыт уцяклі». У гэтай памяці — набегі чужаземцаў і крывавыя міжусобіцы, пажары і гвалт, гібель тваіх сыноў і дачок, Друцкая зямля. Пазней па гэтах землях прайшлі войскі Карла XII, Напалеона, Гітлера. Магутныя калісьці валадары зніклі, а Друцк — усё ж ён жыве і радуецца сонцу і небу.

У гэтым краі над Друццю — нейкае своеасаблівае паветра свабоды, мужнасці. Можа, гэта подых самой гісторыі?

Я не ведаю другога такога месца ў Беларусі, адкуль ва ўсе часы — і пры царызме, і пры савецкай уладзе — выйшла б так многа баявых генералаў.



Пасвячэнне ў друцічы. Друцк. 2000 г.

У гісторыю славянства і дзяржавы расійскай навечна запісана прозвішча Міхаіла Чарняева, які нарадзіўся ў маёнтку побач з Друцкам. У 1876 г. амаль ў самы крытычны момант барацьбы сербаў з туркамі генерал добраахвотна прыбыў у Бялград і быў прызначаны галоўнакамандуючым сербскай арміяй. Пад яго кіраўніцтвам паўднёвыя славяне атрымалі нямала такіх перамог, аб якіх і сёння спяваюць у народзе песні. Сын зямлі беларускай стаў і сынам Югаславіі.

За 3 вярсты ад Друцка знаходзіўся маёнтак, дзе нарадзіўся расійскі генерал-фельдмаршал Іосіф Гурка. Як палкаводзец ён вызначыўся ў руска-турэцкую вайну 1877—78 гг., калі Расія дапамагала балгарскаму народу вызваліцца ад пяцісотгадовага рабства. Героі Шыпкі — гэта падначаленыя генерала Гуркі. Тады расійская прэса пісала, што сам Гурка з'яўляецца нашчадкам славутых князёў Друцкіх. Сын зямлі беларускай стаў і сынам Балгарыі.

У Айчынную вайну 1812 г. вызначыўся генерал Іосіф Сакалоўскі — таксама родам з-пад Друцка.

Друць была ракой дзяцінства для савецкіх генералаў Яўгена Бакштаева, Барыса Бяляева, Прохара Ласюкова, Максіма Сімановіча, Паўла Ганчарова, Пятра Мельнікава, Івана Данілава, Фёдара Шульгоўскага, Уладзіміра Рылькова.

Родам з Друцка вядомы партызанскі генерал Іосіф Кардовіч. З гэтых мясцін і другі праслаўлены партызанскі генерал — Ілля Кожар.

Ураджэнцы Друцка мужна змагаліся з захопнікамі на ўсіх франтах Вялікай Айчыннай вайны. На абеліісках і брацкіх магілах па ўсёй Еўропе — прозвішчы друцкіх Багдановічаў, Бядрыцкіх, Валентавых, Квачэнкаў, Смалоўскіх. Абараняючы вя-





М.А.С а в і ц к і Поле. 1973 г.

лікую Радзіму, яны абаранялі і свой родны легендарны Друцк. Як рэквіем загінуўшым героям, гімнам патрыятызму жыхароў друцка-талачынскай зямлі і ўсей Беларусі сталі карціны вядомага беларускага мастака Міхаіла Андрэевіча Савіцкага, які нарадзіўся недалёка ад Друцка ў вёсцы Звянячы.

Сёння Друцк — невялікая вёска на левым беразе ракі Друць. Цэнтр калгаса. 110 двароў, 295 жыхароў, школа-васьмігодка, фельчарска-акушэрскі пункт, клуб, пошта, сельмаг, сталовая.

Дзеці Друцка цяпер вучацца ў новай школе, пабудаванай 3 гады назад. Школа носіць імя Героя Савецкага Саюза Мікалая Лугоўскага, які тут вучыўся, а ў час вайны загінуў за Радзіму. У кабінеце гісторыі ёсць куточак, дзе сабраны матэрыялы пра героя.

У Друцкай школе ёсць сваё свята — называецца яно так: свята пасвячэння ў друцічы. Растуць у Друцку юныя грамадзяне Беларусі са светлымі галовамі і добрымі сэрцамі.

Па традыцыі годам заснавання горада лічыцца першае яго ўпамінанне ў пісьмовай крыніцы. Друцк упершыню ўпамінаўся ў 1001 годзе. Значыць, 2001 год — год тысячагоддзя Друцка.

У падрыхтоўцы да святкавання гэтага юбілею прынялі ўдзел беларускія, расійскія і ўкраінскія вучоныя, дзеячы культуры, літаратуры, мастацтва, вайскоўцы, друцка-талачынская інтэлігенцыя, руплівцы гісторыі роднай зямлі з суседніх раёнаў.

Гэта святая справа для ўсіх нас.




Лётчыкі-касманаўты В.У.Церашкова і У.В.Кавалёнак, якія бачылі родную зямлю з Космасу.

У ліку ініцыятараў гэтага святкавання першымі варта назваць былога старшыню Талачынскага раённага Савета Барыса Канстанцінавіча Усіка (ён памёр 3 гады назад) і старшыню мясцовага калгаса Уладзіміра Ануфрыевіча Раманенку.

Пра сваю гатоўнасць прыняць удзел у юбілейных мерапрыемствах заявілі многія вядомыя і ўплывовыя людзі, у т.л. лётчык-касманаўт Уладзімір Васілевіч Кавалёнак (ён нарадзіўся на зямлі, што суседнічае з Друцкам); доктар гістарычных навук, які ў 1950—1980 гады даследаваў Друцк, Леанід Васілевіч Аляксееў (Масква); мэры старажытных украінскіх гарадоў Корасценя і Оўруча Уладзімір Васілевіч Маскаленка і Мікалай Іванавіч Баляшчук, расійскага горада Трубчэўска Віктар Мікалаевіч Малашэнка (калісьці друцкія князі ў гэтых і іншых гарадах былі ваяводамі, стольнікамі, займалі іншыя ўплывовыя пасады). Добрая справа ўжо згуртавала не толькі неабыякавых грамадзян Беларусі, але і беларусаў, якія жывуць у блізкім і далёкім замежжы, грамадзян іншых дзяржаў, для якіх назва Друцк нагадвае вельмі многае. «Рухавіком» гэтай цудоўнай задумы стаў палкоўнік беларускага войска, прафесар Ваеннай акадэміі Беларусі, ураджэнец Талачыншчыны Рыгор Часлававіч



Лянькевіч і ўраджэнец вёсачкі Мацiева, што зусім непадалёку ад Друцка, генеральны дырэктар АТ «Раско» Мікалай Рыгоравіч Лобач (Масква).

Ёсць прапановы: уключыць Друцк у турыстычныя маршруты Беларусі, папярэдне, зразумела, добраўпарадкаваўшы і сам населены пункт, і пад'язныя шляхі да яго; аднавіць царкву святой Багародзіцы — першую праваслаўную царкву на зямлі Беларусі.

План аднаўлення найстаражытнейшага храма падтрымаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. Гэтая праца, лічыць ён, з'явіцца вялікім укладам у адраджэнне праваслаўнай духоўнай традыцыі нашага народа. «Гэтае пачынанне ўхваляю, — піша ўладыка, — і жадаю Божай дапамогі ў добрай справе».

Ёсць шмат добрых задум. Аднак на іх рэалізацыю няма пакуль што сродкаў.

Бабулі з Друцка на вяселлі ў сталіцы. Жыццё доўжыцца...





М.А.С а в і ц к і. Песня.

І тут пытанне да ўсіх, хто хоча беларусам звацца: ці здолеем мы сабраць такія сродкі?

Прозвішча кожнага, хто аддасць на адраджэнне Друцка хоць бы адзін рубель, хто зробіць нават самы сціплы ўклад у фонд адраджэння яго былой славы, будзе навечна запісана ў сучасны летапіс старажытнага паселішча і абнародавана ў мясцовым друку. А тыя, хто найбольш вызначацца ў гэтай святой справе, магчыма, удастояцца і ганаровага дадатку да свайго прозвішча — Друцкі.

Як сустрэнем мы гэты слаўны для ўсёй Беларусі, важны для кожнага беларуса гістарычны юбілей — 1000-годдзе Друцка?

Ці памятаем мы свае вытокі?

Ці здольныя мы сцвердзіць сваё права прыстойнымі і цывілізаванымі людзьмі звацца?

Гэтыя пытанні — нібы рашаючы экзамен для ўсіх нас.

У любым выпадку — прашу вас: хаця б здалёку, хаця б у думках пакланіцеся Друцку...

## ЗМЕСТ



НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНАЕ ВЫДАННЕ

**ДРУЦК СТАРАЖЫТНЫ**

Рэдактары: *Р.Ч.Лянькевіч, І.П.Хаўратовіч*

Адказная за выданне *С.П.Самуэль*

Мастацкі рэдактар *У.М.Жук*

Тэхнічны рэдактар *М.І.Грыневіч*

Карэктары: *Ж.С.Берасневіч, Н.У.Бохан, Л.А.Варабей, В.М.Лапцева, В.М.Чудакова*

Камп'ютэрная падрыхтоўка выдання: *С.А.Макаёнак* (заг. рэдакцыі), *Р.У.Дзявочка, Н.М.Зубкевіч, Д.Г.Лабунец, Н.У.Мітраховіч, Н.А.Стасевіч, С.А.Стралкоўская*

Машынапісныя работы: *Г.Л.Анісімава*

Падпісана да друку з арыгінала-макета 25.08.2000. Фармат 70×100 $^{1}/_{16}$. Гарнітура Тып Таймс. Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,4. Ум. фарб.-адб. 42,2. Ул.-выд. арк. 10,61. Тыраж 3000 экз. Заказ 81.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.600.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 10 ад 31.12.97. Рэспубліка Беларусь. 220072, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Мінская фабрыка каляровага друку. Рэспубліка Беларусь. 220024, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.